ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

5 жніўня 1994 г. № 31 (3753) Кошт 250 руб.





## КАБ СПРАЎДЗІЦЦА ХОЦЬ АДЗІН РАЗ...

***Блізкі па сваіх сцэнічных праявах да ідэалу маладога героя, акцёр рускай сцэны Беларусі АЛЕГ БАЖАНАЎ раскута й дыхтоўна пачуваецца ў прафесіі. Упершыню беларуская публіка ўбачыла яго... па тэлевізары — адметнага сярод найадметных удзельнікаў эстраднага прадстаўлення «Ялта-90». А літаральна праз год акцёр паспяхова даверыў ёй свае драматычнае майстэрства...***

*(Гутарку з Алегам БАЖАНАВЫМ чытайце на стар. 10-11)*

*Фота А.МАЦЮША*

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Пачаўся апошні месяц лета. У простым і пераносным сэнсе — лета гарачага,Прэзідэнцкага. Шмат чаго абяцалася людзям у часе выбараў. А сёння новыя кіраўнікі краіны ўжо гавораць пра цяжкую восень і халодную зіму... Народ у нас прыцярпелы — перажыве. Толькі б ведаць, у імя чаго церпім?***

## УДАКЛАДНЕННЕ ТЫДНЯ

Сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Валянцін Голубеў абверг заяву віцэ-міністра замежных спраў Жамойці Альбінаса Янушкі пра тое, што, дапускаючы магчымасць пракладкі дадатковага палатна ў раёне чыгуначнай станцыі Гайдуцішкі, Беларусь прызнае яе аб'ектам перамоў. Сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета РБ растлумачыў, што гэта робіцца толькі для таго, каб забяспечыць бесперашкодны рух нашых чыгуначных саставаў, пакуль ідзе працэс дэмаркацыі і дэлімітацыі мяжы. У кіраўніцтва Беларусі няма людзей, якія б сумняваліся ў тым, што памянёная станцыя знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Такую ж думку мае і прэзідэнт. «Мы яшчэ паспрабуем вырашыць гэтае пытанне ў працэсе перамоў. А потым мы доўга гаварыць не будзем — тое, што ёсць нашае, мы проста возьмем. І я лічу, што тыя грамадзяне Жамойці, якія зараз павесілі на будынку станцыі жамойцкі сцяг, вельмі хутка зразумеюць, што яго трэба зняць з беларускага будынка», — сказаў В.Голубеў.

## «ЮБІЛЕЙ» ТЫДНЯ

У сувязі з 200-годдзем пакарання смерцю Максіміліяна Рабесп'ера газета «Известия» (Расія) надрукавала артыкул «Калі ідэалогія на троне — чакай трагедыі. Размова з псіхіятрам пра Рабесп'ера». Там, у прыватнасці, ёсць такія радкі: «За сто год да французскай была ангельская рэвалюцыя. Быў Кромвель. Ляцелі галовы, пакаралі смерцю ангельскага караля. Рабесп'ер думаў, што пойдзе іншым шляхам. Потым іншым шляхам разлічваў пайсці Ленін. Чым усё скончылася — агульнавядома. У прынцыпе рэвалюцыя — гэта заўжды вялікае няшчасце. Інакш проста не можа быць, таму што ўсялякая рэвалюцыя — бунт люмпенаў, няўдачнікаў, рамантыкаў і... псіхапатаў (...)

Якабінцы, папярэднікі бальшавікоў, першымі абвясцілі вайну ўласнаму народу, нібыта спапяляючы адных толькі ворагаў рэвалюцыі. Яны задумалі сцерці ў пыл Ліён, другі па бальшыні горад Францыі. І за што? За тое, што яго жыхары былі недастаткова рэвалюцыйнымі».

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Мяркуючы па публікацыях расійскай прэсы і заявах афіцыйных асоб РФ, расійцы і рускамоўныя ў краінах Балтыі — людзі «другога гатунку». Аднак па сведчанні прэс-службы Федэральнай міграцыйнай службы РФ, ад агульнай колькасці мігрантаў у Расію з краін «блізкага замежжа», якія атрымалі афіцыйны статус уцекачоў, мігранты з Балтыі складаюць толькі 1,5 працэнта. Уцякаюць у асноўным з Сярэдняй Азіі і Закаўказзя.

## ГОРЫЧ ТЫДНЯ

Напярэдадні цырымоніі з нагоды 50-й гадавіны Варшаўскага паўстання з боку ветэранаў Арміі Краёвай — удзельнікаў паўстання мелі месца заявы, што прэзідэнт Валенса сапсаваў мерапрыемства, запрасіўшы да ўдзелу ў імпрэзе германскага і расійскага прэзідэнтаў. Маўляў, Германія ў часе вайны была ворагам, а Расія здрадзіла Арміі Краёвай, бо не паспяшалася аказаць АК падтрымку, калі немцы нішчылі паўстанцаў і саму Варшаву. Віцэ-старшыня партыі пад назвай Канфедэрацыя незалежнай Польшчы наогул заявіў, што «з боку рускіх мы чакаем просьбу аб даραванні і словы пакаяння». Справа гэта не простая, аднак жа, між іншым, нагадаем, што паўстанне мела мэтай апярэдзіць Чырвоную Армію, не пусціць «маскалёў» у Варшаву. Але Армія Краёва не разлічыла свае сілы. У выніку — 200 тысяч загінуўшых палякаў і зруйнаваная Варшава.

## НЕБЯСПЕКА ТЫДНЯ

Персанал Смаленскай АЭС, што на мяжы з Беларуссю, распачаў акцыю пратэсту (так званы «акупацыйны страйк» — людзі адмаўляюцца пакінуць рабочыя месцы, пакуль не будуць выкананы іх патрабаванні) у сувязі з катастрафічным фінансава-эканамічным становішчам на станцыі.

Для прыхільнікаў «аб'яднання» грашовых сістэм Расіі і Беларусі паведамляем: Расійскі ўрад ужо чацвёрты месяц не выплачвае зарплату работнікам СмАЭС і не выдаткоўвае грошы на вытворчыя патрэбы (у тым ліку і на падтрыманне сістэмы бяспекі станцыі). На Смаленскай АЭС — рэактар «чарнобыльскага тыпу»... Калі браць да ўвагі досыць частыя тэхнічныя непаладкі і на Ігналінскай АЭС (у Жамойці), і сённяшні стан Смаленскай АЭС, дык беларусы, як нацыя, якая найбольш пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы, маюць права патрабаваць ад сваіх суседзяў і міжнароднай супольнасці закрыцця небяспечных аб'ектаў, што пабудаваны побач з нашымі дзяржаўнымі межамі.

## «НЕЙТРАЛІТЭТ» ТЫДНЯ

Газета «Беларуская маладзёжная» N 7 паведаміла: нягледзячы на запэўніванні былых і сённяшніх кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь, што наша краіна трывала стаіць на грунце нейтралітэту, неўмяшальніцтва ва ўзброеныя канфлікты (як гэта патрабуе наша Канстытуцыя), «не толькі беларускія найміты, але і ваеннаслужачыя рэгулярнага Беларускага войска з ведама і па загадзе Міністэрства абароны РБ «працавалі» ў Арменіі і Грузіі, а зараз дзейнічаюць разам з Расійскай арміяй у Таджыкістане. «Мы ўсе лічыліся расійцамі, — сказаў карэспандэнту «БМ» адзін з беларускіх вайскоўцаў, што вярнуўся адтуль. — На нас не было ніякіх знакаў адрознення — толькі штатныя нумары. «Духі» таксама не ведалі, што мы з Беларусі — і слава Богу, што не ведалі». Кожны беларускі ўдзельнік узброеных акцый у Таджыкістане даваў падпіску аб неразгалошванні вайсковай тайны і ненаведанні тых мясцін у бліжэйшыя два гады. Труны з загінуўшымі адпраўлялі дадому з афіцыйнай версіяй, накшталт, няшчасны выпадак пры работах, упаў на чыгуначнае палатно і г.д.

## НОРМА ТЫДНЯ

З-за недахопу мукі Полацкі гарвыканкам вымушаны ўвесці хлебныя карткі. Нормы водпуску: па буханцы на чалавека. Прыезджым — па паўбуханкі.

## НАВІНЫ ТЫДНЯ

Незалежная Беларусь у хуткім часе зможа адзначаць сваіх лепшых сыноў і дачок уласнымі ордэнамі і медалямі, і нават прысвойваць званне «Герой Беларусі». Як будуць называцца ордэны і медалі, пакуль невядома — практычна для ўсіх прадугледжана некалькі варыянтаў. Што пераможа: беларуская гісторыя ці савецкія «традыцыі» — пакажа час.

## РЭФОРМА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі мае намер перагледзець структуру Кабінета міністраў. Будуць скарочаны амаль усе каляміністэрскія структуры Кабінета (упраўленні, камітэты і г.д.), але ў падпарадкаванне прэм'ер-міністра пяройдзе дагэтуль падначалены непасрэдна Вярхоўнаму Савету Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Нагадаем, што кантролю над КДБ доўга і беспаспяхова дамагаўся В.Кебіч.

З нагоды

# ГОДНАСЦЬ І РОЗУМ

Малая краіна можа рабіць вялікую палітыку, калі яе народ мае годнасць, а кіраўнікі дзяржавы — розум. Чым не прыклад Фінляндыя! Колішняя калонія Швецыі і правінцыя Расіі, заваяваўшы незалежнасць, здолела знайсці сваё месца ў свеце, прыдбаць высокі аўтарытэт як краіна-міратворца, а назва яе сталіцы — Хельсінкі — стала сінонімам паняццяў «мір» і «згода». Між тым, з суседзямі фінам пашанцавала не болей, чым беларусам. І шведскія каралі, і расійскія імператары былі вартыя адзін аднаго.

Калісьці дэпутат фінскага парламента абвінаваціў прэзідэнта Кеканена ў тым, што ён занадта часта азіраецца на Маскву, перш чым зрабіць той ці іншы палітычны крок. Прэзідэнт не стаў апраўдвацца, а толькі параіў дэпутату паглядзець на геаграфічнай карце, дзе знаходзіцца Фінляндыя. Вялікі палітык і патрыёт, памятаючы, чаго каштавала маленькаму народу так званая «зімовая вайна», і ведаючы схільнасць савецкіх лідэраў да палітычных авантур, пазбягаў крокаў, якія маглі б выклікаць нервовую рэакцыю ў маскоўскіх правіцеляў. Але, у адрозненне ад былога беларускага прэм'ера, не лічыў, што ў дыялогу з вялікім суседам у малой краіне няма ніякага голасу, што «казыры заўжды на руках у Масквы».

Фінскі нейтралітэт, а значыць, і сваю бяспеку, Савецкі Саюз аплачваў бесперабойнымі пастаўкамі электраэнергіі (фіны лічылі за лепшае купляць яе ў СССР, чым будаваць уласныя электрастанцыі і нішчыць такім чынам сваю прыроду), нафты. Для фінскіх тавараў быў адкрыты неабсяжны савецкі рынак.

Але калі ў часы Брэжнева, спасылаючыся на пэўныя артыкулы міждзяржаўнай дамовы, Масква паспрабавала ўцягнуць Фінляндыю ў ваеннае супрацоўніцтва і для пачатку правесці сумесныя манеўры, прэзідэнт Кеканен прадэманстраваў характар: Фінляндыя — нейтральная краіна і ў ваенных саюзах удзелу не бярэ!

І сёння Фінляндыя мае з Расіяй добрыя стасункі і цывілізаваную мяжу.

Фінская мадэль магла б найлепшым чынам быць скарыстана і ў стасунках беларуска-расійскіх. Трэба толькі, каб наш народ меў годнасць, а кіраўнікі дзяржавы — цвярозы розум.

Калі будуць надрукаваныя гэтыя радкі ўжо з'явяцца каментарыі да сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі і Расіі. Ды якія б дакументы ні падпісалі кіраўнікі дзвюх дзяржаў, якія б дэкларацыі аб вечнай дружбе ні зрабілі — сустрэча мае характар прыглядкі альбо, калі хочаце, прыстрэлкі. Гэта толькі прэамбула, а галоўныя словы будуць сказаны пазней. Спадару Лукашэнку трэба час, каб асвоіцца ў ролі прэзідэнта Беларусі; а расійцам — каб у гэтай ролі яго ўспрыняць.

У часе перадвыбарчай і выбарчай кампаніі на Беларусі Масква адкрыта падтрымлівала сп. Кебіча. Пра сп. Лукашэнку маскоўскія аглядальнікі разважалі ў іранічным, на мяжы з абразай, тоне. Чым жа Аляксандр Рыгоравіч не задавальняў маскоўскі палітычны «бамонд»? Словы гаварыў прыблізна тыя ж, што і Кебіч: саюз з Расіяй, славянскае адзінства... З гонарам сцвярджаў, што ён адзіны ў Вярхоўным Савеце Беларусі галасаваў супраць Віскулёўскіх пагадненняў. Як кажуць па-расійску, «то же слово, да не так молвлено». Кебіч хадзіў па Маскве на паўсагнутых нагах, а перад Чарнамырдзіным, здаецца, увогуле запабягаў. Відаць, у Маскве гэта ўспрымалася, як беларускі стыль у знешняй палітыцы. А вось амбітны Лукашэнка разбураў гэты стэрэатып. Там, дзе Кебіч баяўся без дазволу рот раскрыць, браў ініцыятыву на сябе, выступаў з гучнымі прамовамі. Часам было нават незразумела, хто тут гаспадар, а хто госць. У прыватнасці, у Дзяржаўнай Думе сп.Лукашэнка ані не бянтэжыўся. Зразумела, што Маскву болей задавальняў Вячаслаў Францавіч, які ведаў «сваё месца» і амбіцыі пакідаў дома.

Але, зрэшты, міждзяржаўныя стасункі будуюцца не на асабістых сімпатыях альбо антыпатыях, а на доўгатэрміновых інтарэсах (як ні цалаваліся Кебіч з Чарнамырдзіным, а цана на нафту для Беларусі меншай не стала).

Напярэдадні візіту ў Маскву прэзідэнт Беларусі меў сустрэчу з дырэктарам-распарадчыкам Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) спадаром Мішэлем Камдэсю, які быў запрошаны ў Мінск. Мяркуючы па выступленні спадара Камдэсю перад журналістамі, у кіраўніцтва Беларусі ёсць падставы для аптымізму.. МВФ падтрымае Беларусь на шляху рэформ. Але пры адной умове: наша краіна павінна канкрэтызаваць свае планы рэфармавання эканомікі і мець мужнасць (менавіта гэта патэтычнае слова скарыстаў сп. Камдэсю) гэтыя планы рэалізаваць.

Мяркую, усё гаворыць за тое, што ўсходні кірунак — не адзіна магчымы для нашай дзяржавы. А калі браць да ўвагі гісторыю беларуска-расійскіх стасункаў, дык, відавочна, і не самы лепшы.

І неабавязкова дзеля добрых стасункаў з суседзямі адмаўляцца ад уласнай годнасці і сваіх інтарэсаў.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# НА ЎСХОДНІХ МЕЖАХ БЕЗ ПЕРАМЕН...

На Захад з Беларусі вязуць сёння зусім не тое, што на Усход. Захаду трэба каштоўнасці вечныя, а не прадукты харчавання. Зрэшты, хто ведае, што вывозіцца цяпер з Беларусі на Усход... Мытняў на мяжы з Расіяй у незалежнай дзяржавы Беларусь няма. І шнуруюць туды-сюды не толькі мяшэчнікі — «чаўнакі», ідуць цэлыя калоны аўтамашын, гружаных нашым скарбам, які ідзе ў абмен на расійскія «драўляныя» рублі.

На заходніх межах Беларусі мытня працуе. І доказам таму нядаўняя перадача памежнікамі звыш 400 абразоў, затрыманых на мытні, Беларускаму Экзархату. Дзякуй вам за службу, памежнікі-мытнікі. У вас вялікі патэнцыял і, спадзяёмся, у вас хутка з'явіцца магчымасць праявіць сябе і на ўсходзе Беларусі.

**Н. К.**



*На здымку: у час перадачы абразоў.*

*Фота У. ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

# ЗА ВОЛЬНАСЦЬ, РОЎНАСЦЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

## АДОЗВА АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА НА СВЯТКАВАННІ 480-Х УГОДКАЎ ПЕРАМОГІ БЕЛАРУСКАГА ВОЙСКА ПАД ОРШАЮ.

Суайчыннікі!

480 гадоў таму, 8 верасня 1514 года на полі пад Оршаю, паміж рэк Дняпро і Краліўна нашыя продкі на чале з найвышэйшым гетманам Кастусём Астрожскім і князем Юрыем Радзівілам у лютай сечы перамаглі ўтрая большае захопніцкае войска Маскоўскага княства. Гэтая бітва трапіла ў аналы сусветнай вайсковай гісторыі як прыклад мужнасці, адвагі і вайсковага ўмельства ў барацьбе за незалежнасць Айчыны. Уся тагачасная Еўропа пільна сачыла за падзеямі на ўсходніх межах Вялікага княства Літоўскага, бо менавіта старадаўняе беларускае гаспадарства воляй лёсу сталася буферам Еўропы на шляху ваяўнічай экспансіі з Усходу — спачатку стэпавікоў, а пасля Маскоўшчыны.

Напярэдадні бітвы ў таемнай дыпламатыі паміж германскім імператарам і маскоўскім валадаром выспявалі планы захопу нашай дзяржавы. Планы гэтыя здзейсніліся пазней, пра канцы XVIII стагоддзя, але тады, у часы Астрожскага, Беларусь мела дастаткова адданых патрыётаў, мужных вояроў, якія за свабоду Бацькаўшчыны ішлі ў бой не зва-

# НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ

***Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры на сваіх пасяджэннях (секцыйных і пленарных) абмеркаваў папярэдне творы і работы, прадстаўленыя на атрыманне Дзяржаўных прэмій у 1994 годзе. Ухваленыя творы і работы дапушчаны да ўдзелу ў далейшым конкурсе.***

На прэмію імя Янкі Купалы прэтэндуюць: Раіса БАРАВІКОВА («Люстэрка для самотнай». Вершы, пераклады і драматычная паэма «Барбара Радзівіл») і Уладзімір ПАЎЛАЎ («Што было на Беларусі». Кніга паэзіі. Вершы апошніх гадоў (1992—93 гг.); на прэмію імя Якуба Коласа: Серафім АНДРАЮК («Чалавек на зямлі». Нарыс творчасці Івана Пташнікава) і Генрых ДАЛІДОВІЧ (Раманы «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Свой дом». Трылогія).

Да ўдзелу ў далейшым конкурсе на прэмію імя Кастуся Каліноўскага дапушчаны: Станіслаў ГАЙДУК, рэжысёр — за цыкл дакументальных і навукова-папулярных кінафільмаў, створаных творчым аб'яднаннем «Летапіс» на кінастудыі «Беларусьфільм»: «Францыск, сын Скарыны» (1989), «Чырвоны дзень календара» (1990), «Роздум ля палітры» (1990), «Кірыла Тураўскі» (1990), «Іван Насовіч» (1991), «Вянок цярновы васількоў» (1992), «Рэха збройнага чыну» (1992), «Самотная альба вершніка» (1993); Міхась ЖДАНОЎСКІ, рэжысёр, Аляксандр ЛУКАШУК і Уладзімір МАРОЗ, аўтары сцэнарыяў, Сяргей ПЯТРОЎСКІ, аператар — за стварэнне на кінастудыі «Беларусьфільм» (аб'яднанне «Летапіс») дакументальных фільмаў «Дарога на Курапаты» (1990), «Жаўрукі Беларусі», «Успамін пра Міколу Равенскага» (1993); Кастусь ЦВІРКА («Лісце забытых алеяў». Эсэ).

У спісе твораў літаратуры і мастацтва для дзяцей — Іван СЯРКОЎ — аповесці (1981—1989 гг.) «Мы з Санькам у тыле ворага», «Мы — хлопцы жывучыя», «Мы з Санькам артылерысты»; Алег ЧЫРКУН — цыкл песень для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Мой родны край»; Уладзімір ЮРЭВІЧ — навукова-папулярная кніга «Слова жывое, роднае, гаваркое...».

У галіне журналістыкі значыцца прозвішча Анатоля МЯСНІКОВА — кніга «Нацдэмы. Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка».

За прэмію ў галіне музыкі і канцэртна-выканаўчай дзейнасці будуць спаборнічаць: Леанід ЗАХЛЕЎНЫ — песні апошніх гадоў (1990—94) «Галасы зямлі», «Усе кветкі ліпеня», «Аксаміткі», «Зорачка мая», «Каля чырвонага касцёла», «Сонца ў азерцы», «Падаюць зоры», а таксама зборнік песень для дзяцей «Вераснёвы вальс»; Ігар АЛОЎНІКАЎ — канцэртныя праграмы 1991—93 гг. (фартэпіяна).

У галіне тэатра і кіно — Андрэй БАНДАРЭНКА, кампазітар, аўтар музыкі, Вольга ІПАТАВА, паэтэса, аўтар лібрэта, Мікалай КАЛЯДКА, дырыжор, Саламон ШТЭЙН, рэжысёр-пастаноўшчык (пасмяротна), Дзмітрый МОХАЎ, мастак-пастаноўшчык, Аляксей КАГАДЗЕЕЎ, галоўны хормайстар, Мікалай МАЙСЕЕНКА, саліст оперы — за стварэнне спектакля оперы «Князь Навагрудскі» ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета; Зінаіда МАЖЭЙКА, аўтар сцэнарыяў, Таццяна АФАНАСЬЕВА і Ніна САВВА, рэжысёры, Мікалай СІДОРЧАНКА, Алег ШКЛЯРЭЎСКІ, Юрый ЯЛХАЎ, кіна-аператары — за стварэнне на кінастудыі «Беларусьфільм» (аб'яднанне «Летапіс») цыкла музычна-этнаграфічных фільмаў «Палескія калядкі» (1972), «Галасы вякоў» (1979), «Памяць стагоддзяў» (1982), «Палескія вяселлі» (1986), «Пранясі, Божа, хмару» (1991), «Крывыя вечары» (1993); Ігар ВОЎЧАК, рэжысёр-пастаноўшчык — за створаныя на кінастудыі «Беларусьфільм» мультыплікацыйныя фільмы «На зары, на двары», «Канчэрта-гроса», «Муха», «Праз шэры камень», «Як лісіца ваўка судзіла».

На прэмію ў галіне выяўленчага мастацтва і архітэктуры прэтэндуюць: Тамара КІРШЫНА, мастак — за манументальнае пано «Песня аб Радзіме», устаноўленае ў Палацы культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода; Уладзімір [illegible] — за серыю жывапісных работ «Святло і цені» («Зацменне», «На зямлі», «Плошча», «У старым горадзе») і трыпціх «Спадчына» («Радзівілаўскія прывіды», «Святая літвінка» і «Святы Пётра»); Аляксей АНДРАЮК, архітэктар — за праектаванне Малітоўнага дома Евангельскіх хрысціян-баптыстаў у г. Кобрыне.

Камітэт звяртаецца з просьбай правесці грамадскае абмеркаванне твораў і работ, а водгукі, паведамленні пра абмеркаванне і заўвагі накіроўваць на адрас: 220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакой 304, тэл. 36-50-69.

---

жаючы на вялікую перавагу ворагаў у зброі. У тыя часы кожны добра ўсведамляў, што нельга пабудаваць асабістае шчасце, дасягнуць асабістага дабрабыту, калі трапіш пад уладу чужынцаў. Шчасця і гармоніі можна дасягнуць толькі на ўласнай вольнай зямлі, маючы асабістую свабоду, якая гарантавана незалежнай дзяржавай. Бітва пад Оршаю ў пэўнай ступені змяніла хаду еўрапейскай гісторыі, яна дазволіла нам яшчэ амаль два стагоддзі развівацца ў нармальным, эвалюцыйным рэчышчы. І ў гэтым яе выключнае значэнне для Беларусі.

Шмат вынішчальных навалаў вогненнай віхурай праносілася па нашай зямлі. Часта здаралася, што сваёю крывёю беларусы расплачваліся за чужыя інтарэсы. Але мы выжылі! Праз два стагоддзі анексіі Расійскай імперыяй, праз дзесяцігоддзі савецкага таталітарызму, праз вынішчальныя войны і страту паловы насельніцтва мы пранеслі светлую ідэю вольнасці, роўнасці і незалежнасці. З Божай ласкі мы аднавілі і ўсталёўваем сваю дзяржаўнасць і гэта найвялікшая каштоўнасць, якую трэба гадаваць і абараняць. Нам не трэба больш войнаў, нам не трэба чужога, але мы будзем памятаць сваю гісторыю, мы схілім галовы і харугвы ў гонар усіх, хто аддаў свае жыцці за Бацькаўшчыну, усіх, для каго пасля слова Бог стаіць слова Айчына!

Шануйма 480-я ўгодкі бітвы пад Оршаю!

---

# «ТАК НАМ І НАДА»?

## УРОКІ ГАСЦІННАСЦІ

Базар быў людны, шумны, стракаты, вясёлы. Сыты й грашавіты. З калейдаскопам персанажаў ды персон, аб'ектаў ды сітуацый. Галава кругам: хто купец? чый тавар? хто спадобіўся паспытаць міласціну хлебасольнага гандляра? Словам, базар як базар: з гульнямі, з музыкай. Хадзі, назірай, дзівуйся, рагачы, прыцэньвайся. Толькі купляць не спяшайся ды рота не разяўляй, каб з цябе ж потым не пасмяяліся.

То лепей я сам з сябе пасмяюся.

Ну, што зробіш, трэці год не магу даўмецца: ці праўда, што віцебскі пікнік для носьбітаў нібыта славянскага духу названы ў гонар знанай маскоўскай рэстарацыі «Славянскі базар»? Патлумачыў бы хто, бо дзеці малыя падумаць могуць, бытта рэстарацыя «Славянскі базар» з'явілася як гэткі настальгічны жэст маскоўскай поптусоўкі, крута падкормленай-пазабаўленай за час штогадовых фэстаў над Заходняй Дзвіной.

Смех смехам, ды баюся, каб дзеці, пачуўшы са сцэны «трохмоўе братніх народаў» ды нагледзеўшыся на фестывальны экран, не даўмеліся, што сапраўдныя славяне — гэта (у парадку не алфавітным, а, пэўна, гатунковым) рускія, украінцы і беларусы, здатныя са шчодрай роднасцю прыняць у сваё вузкае кола яўрэяў, грузінаў і туркаў (калі тыя шчэ й пяюць «на славянскай мове»). Ну, а балгары, сербы, славакі, палякі, чэхі ды інш. у элітарным славянскім свеце віцебскага фэсту — гэта накшталт нацменшасцяў у колішнім СССР.

Аднак жа, такое мерапрыемства — не для дзяцей, і яны проста не зразумеюць правілаў дарослай гульні, ці гульбы, ці ігры, ці розыгрышу. Вось мне дык смешна, хаця й я шмат чаго тут не разумею. Трэба ж: як на колішніх усесаюзных конкурсах добрым тонам лічылася аддаваць сяды-тады «майку лідэра» казаху ці прыбалту, так і тут — лідэрам вызначылі прадстаўніка шматпакутнай маленькай Сербіі. А за дурня як тады, так і цяпер трымалі... Правільна. Толькі каб гаспадароў горада зусім ужо не пакрыўдзіць, «абнадзеілі» прызам юную віцяблянку Аксану Пятрову. Увогуле ж з тэлеэкрана недвухсэнсоўна прагучала думка арганізатараў «Славянскага базара» зусім скасаваць конкурс маладых выканаўцаў.

І сапраўды: каму ён быў у галаве, гэты конкурс? Шоў-машына працавала на пэўныя твары і постаці. Дапушчаныя да барскага стала людзі з худымі кашалькамі таксама мелі задавальненне: стоячы за брамай амфітэатра, выцягвалі шыі, пільнуючы момант, калі чыясьці добрая рука зробіць шырокі жэст і дазволіць заняць-запоўніць ладныя пусткі перад запаветнай сцэнай. Бясплатна... Дый тэлевізар стараўся падарыць свята шчырым непераборлівым людзям, у якіх святочны настрой успыхвае адно ад размоў пра шлюбную ідылію Алы ды Філіпа, пра «смелую» сукенку Гурчанкі, пра верталётна-цеплаходныя забавы хлопчыкаў з «На-на».

«Славянскі базар-94» быў багаты сустрэчамі на віцебскіх вуліцах і ў канферэнц-залах, музычнымі й танцавальнымі праграмамі для моладзі, сур'ёзнымі выставачнымі экспазіцыямі. Высокім учынкам вылучыўся знаны балгарскі артыст Хрыста Паскалеў, які ахвяраваў 10 тысяч долараў для віцебскіх дзяцей-сірот.

Астанкінскія тэлекамеры «забяспечвалі сервіснае абслугоўванне» пераважна галоўных герояў галоўай пляцоўкі, і дэманстрацыя фестывальнай карцінкі па некалькіх каналах давала спажыву для назірання.

Неаднойчы, напрыклад, можна




*На здымку: лаўрэаты Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар-94» уладальнік II прэміі ды прыза «Срэбнае яйка» А. Панамароў (Украіна), уладальнік I прэміі і прыза «Залатое яйка» Шчэпа (Сербія) і Тэона (Грузія) — II прэмія і прыз «Срэбнае яйка».*

было пабачыць скрушны твар знанага француза Мішэля Леграна, які шляхамі нязведанымі апынуўся ў відавочна нязвыклай для сябе ролі вясельнага генерала на правінцыйнай вечарынцы, якому да ўсяго выпала й роля старшыні конкурснага журы і кон ахвяры «Каралеўскага палявання» на абшарах віцебскага базара...

І толькі аднойчы — падчас трансляцыі адкрыцця — можна было пабачыць скрушны твар знанага беларускага музыканта Уладзіміра Мулявіна з люлькай ля вусаў, чамусьці зафіксаваны апаратарам на ўвесь экран. Крыху пазней высветлілася, што Мулявіна... забыліся назваць, прадстаўляючы пад воплескі залы чальцоў міжнароднага конкурснага журы. Памылку выправілі, але...

Своеасаблівым выпраўленнем памылкі была й не планаваная загадзя ў праграме «Астанкіна» трансляцыя юбілейнай вечарыны «Песняроў». Праўда, толькі ў той частцы, дзе свяціліся маскоўскія «зоркі»: а потым па экране паплылі развітальныя цітры, і працяг праграмы глядзець можна было толькі па беларускім канале. Я проста рагатаў, калі ў маім уяўленні з'явіўся Нехта з халёным укормленым тварам і голасам гаспадара прагрымеў: «Мы вам зрабілі «Славянскі базар», мы вас туды пусцілі выступіць, але далей сваё рэгіянальнае мастацтва глядзіце самі». Я смяяўся са сваёй паганскай звычкі ўвасабляць кожную з'яву ў канкрэтнае аблічча: нават зусім умоўны вобраз Гаспадара базара я намагаўся ўбачыць у абрысах пэўнага чалавека. Дарэмна — гаспадара-чалавека няма: ёсць толькі яго грашовы эквівалент...

У тэлевізійных цітрах, сатканых з мноства прозвішчаў, назваў арганізацый, фірмаў, знаёмага было небагата. Парадаваўся за прысутнасць нашага Міністэрства культуры. Пакрыўдзіўся за вядомага беларускага аранжыроўшчыка, піяніста і кампазітара Андрэя Шпянёва, чыё прозвішча з упартай неахайнасцю падавалася астанкінскімі тэлевізійшчыкамі як «Шпинев». Усцешыўся, што мастацкім кіраўніком канцэртных праграм збольшага быў наш народны артыст дырыжор Міхаіл Фінберг. Даведаўся, што прэзідэнтам Міжнароднай карпарацыі «Славянскі базар» і галоўным прадзюсерам лічыцца Сяргей Віннікаў, здавён вядомы па рэжысуры праграм у канцэртнай зале «Россия».

Апошняя астанкінская тэлеатака — трансляцыя закрыцця «Славянскага базара-94» дала мне новую магчымасць пасмяяцца. З сябе. Дапяў-такі! Аказваецца, калі твой парог пераступае багаты госць, то нагадваць, хто ў доме гаспадар, — проста непрыстойна! Негасцінна. І не прасі ў яго, як у той прымаўцы, дазволу на месца пад лаўкай: нішкні!

І я маўчаў, толькі ціхенька смяяўся. Са свайго наіўнага жадання — пабачыць першым нумарам заключнага канцэрта выступленне гаспадароў гасціннай беларускай зямлі. Дзе там! Не, на артыстаў грэх наракаць, яны тут ні пры чым. Музыку заказвае той, хто плаціць... Карацей, першымі ступілі на сцэну не «Песняры», а «Русская песня» на чале з вельмі ўдзячнай Віцебску — за станаўленне сваёй кар'еры як салісткі — Надзеяй Бабкінай. Нейкая дзіўная метамарфоза адбылася ў іхнім выкананні з нашай, і бытта ўжо не нашай, песняй «Ой, хацела ж мяне маці». Потым утварыўся дзіўны сімбіёз ансамбля «Русская песня», шлягера «Упала шляпа» і яго законнага ўладальніка — «нанайцаў» пад кіраўніцтвам Бары Алібасава. Потым была яшчэ адна лёгкая танная песенька ад «На-на». Потым пайшлі лаўрэаты: украінец Аляксандр Панамароў, «англаспеўная» дзяўчынка Тэона з Грузіі, пераможца сёлетняга конкурсу Шчэпа з Сербіі. А тады ўжо на сцэну запрасілі-выпусцілі беларускую «зорку» — Ліку.

Такі я смешны — са сваім «комплексам беларуса», з гэтай звычкай драматызаваць падзеі ды пачувацца пакрыўджаным. Не-не, я ўжо не крыўджуся. Смяюся. З неабачлівай сваёй гасціннасці, пакарыстаўшыся якой, «багацейшыя браты» наўрад ці зробяць багацейшымі нашы душы.

Мы надта даверлівыя да тых, хто злоўжывае словам «свята». Шумна, тлумна, людна, весела, з музыкай, з «тэлевізійнымі» тварамі, з «перчыкам» ці з «малінкай», з плёткамі ды легендамі, з публічнымі прызнаннямі ў роднасных пачуццях ці ў «любові да ўсіх вас», — усё гэта называецца «свята». Калі кажуць «праздник» — я не пярэчу. «Праздник» ад слова «праздность» — трапнае азначэнне, якога няма ў нашай мове, бо не закладзена ў менталітэце. Беларускае ж «свята», ад слова «святое», з лексікай «базараў», «тусовак», «падколак», «крутых бабак» не стасуецца.

Ну, вось і дасмяяўся: у галаву прыходзіць чыйсьці жорсткі, але слушны жарт на ўсім вядомы матыў: «Мы — беларусы, так нам і нада...»

А мо ўсё ж знойдзецца на роднай зямлі самавіты-грашавіты дзядзька, які дапаможа й нам пачувацца па-гаспадарску на чарговым віцебскім «базары»? Фестывальная эйфарыя закалыхвае, заспакойвае, але гэта не аргумент на карысць зробленага і не апірышча ў перспектыве. Тая канцэпцыя фестывалю, якая выcноўваецца з яго арганізатарскай і творчай практыкі ўжо не першы год, выглядае тэндэнцыйнай і амаль зневажальнай для Беларусі. Мне ўжо не смешна, панове. А вам?

**НЕЗАЛЕЖНЫ НАЗІРАЛЬНІК**

## ЧАРГОВЫЯ ГАСТРОЛІ

артыстаў тэатра оперы і балета Беларусі праходзяць у Іспаніі. Пачатак ім паклаў спектакль «Жызэль». Цяпер жа маршруты балетнай і опернай труп раздзяліліся і праходзяць асобна. У некалькіх гарадах будуць паказаны такія оперныя спектаклі, як «Чыо-Чыо сан», «Рыгалета». А што да беларускага балета, дык ён даўно прызнаны ва ўсім свеце, таму няма сумнення, што і на працягу амаль месяца — а менавіта столькі працягнуцца гастролі — яго іспанскіх прыхільнікаў чакаюць сапраўдныя адкрыцці.

## АД САСАЎ ДА КАСЦЮШКІ

Цікавасць да даўніны — магчымасць даведацца не толькі пра важныя падзеі мінуўшчыны, дзеячаў таго часу, а і лепей зразумець саму атмасферу, абставіны жыцця нашых продкаў. У гэтым сэнсе, несумненна, выклікае інтарэс кніга М.Грыгор'ева «Войска ВКЛ ад Сасаў да Касцюшкі». І багаты фактычны матэрыял, і ілюстрацыі А.Прыбылова і М.Лазоўскага робяць выданне карысным для самага шырокага чытача, каму неабыякавая нацыянальная гісторыя, хто жыве ідэямі Адраджэння. Застаецца дадаць, што згаданая кніга выйшла не ў дзяржаўным выдавецтве, а ў прыватным. Выдавец яе — Салошкін. Так афіцыйна зарэгістравана яго выдавецтва.

## І ТЭОРЫЯ, І ПРАКТЫКА

Самадзейныя мастакі, народныя майстры, не кажучы ўжо пра кіраўнікоў гурткоў выяўленчага мастацтва, студэнтаў, знойдуць для сябе нямала карыснага ў кнізе А.Бяспалага «Выяўленчае мастацтва Беларусі і сродкі яго адлюстравання», выпушчанай выдавецтвам «Навука і тэхніка». Гэтае выданне (дарэчы, ілюстраванае чорна-белымі здымкамі) закранае як тэарэтычныя, так і практычныя аспекты праблемы. Шкада, што сам аўтар пабачыць кнігу не паспеў. Ён заўчасна пайшоў з жыцця.

## ВА ЎСІХ АДНОСІНАХ НЕЗВЫЧАЙНАЯ

новая кніга паэзіі Змітрака Марозава. Як і дзве папярэднія, яна выпушчана не дзяржаўнай выдавецкай структурай, а рэкламным выдавецкім агенцтвам «Азбука». Кніга прысвечана паэту Хведару Жычку. Гэтае прысвячэнне вызначае і трэцюю адметнасць зборніка З.Марозава. Х.Жычка, як вядома, адзін з тых у беларускай літаратуры, хто паспяхова абжывае жанр санета, больш таго — адным з першых звярнуўся да яго. А З.Марозаў на сённяшні дзень напісаў ужо дзесяць вянкоў санетаў (пяць новых увайшлі ў гэтую кнігу) і вянок вянкоў санетаў. Акрамя таго, гэтым разам ён, схільны да традыцыйнай манеры пісьма, паспрабаваў свае сілы ў верлібры, аб чым пераконвае адзін з трох раздзелаў — «Хвіліна блакітнай цішыні». І, нарэшце, зборнік называецца нечакана — «Залатая кніга беднага».

## І НЕЗАЎВАЖАНЫ ПРАЙШОЎ

юбілей грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты «Родны край», якая з 22 чэрвеня па 10 ліпеня 1919 года выходзіла ў Гродне. А не згадаць пра гэтае выданне нельга. Колькі цяпер з'яўляецца новых газет, але ж, шчыра прызнаемся, вельмі мала сярод іх на роднай мове. А тут на перыферыі, у найскладанейшых умовах — не проста беларуская газета, а газета літаратурная! Яна стаяла на пазіцыях радыкальна настроенай беларускай інтэлігенцыі і сялянства на пачатку акупацыі Беларусі войскамі буржуазнай Польшчы. Матэрыялы расказвалі пра культурна-асветнае жыццё на той час на Гродзеншчыне, выкрывалі самаўпраўства польскіх прыгнятальнікаў. У прыватнасці, выступаў Б.Тарашкевіч (А.Н-ка, Адам Навука). С.Рак-Міхайлоўскі пісаў пад псеўданімам «Беларус» пра Люблінскую унію. П.Мядзёлка (П-нка, Паўлінка) усхвалявана гаварыла пра праследаванне беларускай школы, змагалася за яе існаванне...

Пошта

# ЧАКАННІ І РАСЧАРАВАННІ

Прызнаюся, што, нягледзячы на вельмі насцярожлівыя адносіны да А.Р.Лукашэнкі ў перавыбарчы перыяд, я з надзеяй чакаў яго выступленняў у Вярхоўным Савеце Беларусі 20 і 21 ліпеня 1994 года — ужо як прэзідэнта. Бо вера ў лепшае — тая якасць чалавека, якая трымае яго ў жыцці і вядзе ў будучыню.

Час бяжыць імкліва. Засталася ззаду не толькі інаўгурацыя прэзідэнта, але і ягонае першае, можна сказаць, публічнае выступленне на ўрачыстым пасяджэнні ў гонар Дня незалежнасці. Пакуль гэты мой ліст трапіць на старонкі газеты, прэзідэнт, напэўна, вернецца і са сваёй першай замежнай паездкі. Тым не менш, хачу вярнуцца ў дні 20 і 21 ліпеня, калі прэзідэнт прымаў прысягу і выступаў у ВС.

Прэзідэнт, даючы клятву, звярнуўся да беларускага народа так: «Дорогие соотечественники!» Гэта было вельмі ж непрыемным дысанансам са словамі самой Канстытуцыйнай клятвы, занатаванай у Канстытуцыі і прамоўленай прэзідэнтам па-беларуску. Далей усе свае выказванні, выступленні, рэплікі на пасяджэннях Вярхоўнага Савета ён рабіў зноў на «могучем русском языке».

Разумею ўсю няпростую сітуацыю з моваю, памятаю, што ў Дзень незалежнасці прэзідэнт зрабіў цікавы і змястоўны даклад у родным слове, але, як пісаў паэт, і ўсё ж, і ўсё ж... Прэзідэнт краіны, даючы клятву, звяртаецца да свайго народа не на мове гэтага народа? Такога праліку ён не павінен быў дапусціць!

Прашу мяне правільна зразумець. Гэта — не прыдзірка. Трэба, ну павінны мы ўсе, у тым ліку — а можа і найперш! — прэзідэнт, лічыцца з велізарнай бядой беларускага народа, з якога за савецкі час сілай выбіта беларуская мова. І трэба не карыстацца гэтай бядою, а ратаваць мову!

А вось другая заўвага.

Адзін з дэпутатаў, якому, па ўсім відаць, зусім нядрэнна жывецца на беларускай зямлі, амаль адразу пасля прэзідэнцкай клятвы выступіў з заклікам да палітычнага і ваеннага саюза з Расіяй, да двайнога грамадзянства і г.д. Сутнасць яго выступлення зводзілася да даўно вядомага: знішчыць самастойнасць Беларусі, адчуваць сябе незалежнымі ад беларускіх законаў, ад беларускай самабытнасці, культуры «исковерканного русского языка» (гэта значыць — беларускай мовы), замацаваць за сабою права «высшей нации» ў адносінах да беларусаў, прынізіць іх яшчэ ніжэй.

І што? Наш Першы Прэзідэнт, Бацька Нацыі зрабіў рашучую заўвагу дэпутату, прысароміў яго? Не! Аніякіх тлумачэнняў з боку прэзідэнта не было. Зрабіў заўвагу Мечаслаў Іванавіч Грыб, але не ў сэнсе супярэчнасцей выказванняў дэпутата з Канстытуцыяй, а толькі аб тым, што палітычныя дэбаты будуць, маўляў, заўтра.

Расчараванні ад першага пасяджэння Вярхоўнага Савета не знішчылі надзеі. Думалася: заўтра Аляксандр Рыгоравіч, добра адпачнуўшы вечарам і акрыліўшыся ў коле сваіх сяброў, раскрые шлях да ўратавання нашай шматпакутніцы-Беларусі. Але, двойчы праслухаўшы яго «речь», я не знайшоў у ёй нічога новага. Пераважала даўно вядомае, многа разоў у розных варыянтах пададзенае ўжо ў друку і выкарыстанае самім жа Лукашэнкам «в предвыборной борьбе».

Сумна было і ад таго, як фарміраваўся ўрад. Ніхто не рабіў нават і павярхоўнай характарыстыкі дзейнасці былога ўрада, яго міністраў. У выніку не было і аніякіх парад на будучае. І гэта ў такі звышскладаны час! Ніхто ні слова не сказаў, чаму, напрыклад, трэба абавязкова замяняць сілавых міністраў, чаму яны непрыгодны для выканання сваіх абавязкаў. А з тых, каго прэзідэнт раіў на высокія ўрадавыя пасады, ніхто не выказваў праграм сваіх дзеянняў — яны не патрабаваліся. Таму проста не было чаго абмяркоўваць. Не было з каго і выбіраць, бо называлася толькі адна кандыдатура. Калі ж у адрас кандыдата на пасаду рабіліся рэдкія заўвагі, то яны тут жа адпрэчваліся прэзідэнтам. Будучы віцэ-прэм'ер Ганчар не пажадаў нават адказаць на простае пытанне аднаго з дэпутатаў, і ўсё роўна прайшоў амаль аднагалосна.

Анічагусенькі не было сказана, як пазбавіцца знешняга дзяржаўнага доўгу, як спыніць інфляцыю, якім чынам адмовіцца ад стаўшых нормай жыцця датацый, што рабіць з прамысловасцю і сельскай гаспадаркай для іх вываду з абвальнага крызісу, як прадаць хоць з маленькім «наварам» велізарную колькасць прадукцыі, што перапоўніла склады. Практычна не закраналіся пытанні духоўнасці, адукацыі, навукі і медыцыны — тых чатырох кітоў, на якіх трымаецца ўсё чалавечае ў людзях і без чаго яны становяцца нелюдзьмі.

Дзіўна паводзілі сябе і дэпутаты. Яны быццам не заўважалі, што не закраналіся самыя галоўныя праблемы, без вырашэння якіх Адраджэнне Беларусі (дарэчы, гэтае слова нават не прагучала) не адбудзецца.

Сумна, спадарове!

**Аляксей САЛАМОНАЎ, доктар тэхнічных навук, прафесар**

# І ГЭТА — НЕ ДРОБЯЗІ

У нумары за 29 ліпеня прачытаў артыкул Галіны Каржанеўскай «Пяць парад Прэзідэнту» і захацелася нешта сказаць па гэтай тэме самому. Не паўтараючы парад Галіны Каржанеўскай (з якіх найбольш важкай падаецца мне першая), хацеў бы прапанаваць наступнае:

1. Увесці справядлівы падатак на нерухомасць. Хто не ведае — зараз для прыватных асоб ён складае 0,1% ад кошту пабудовы за год. Даруйце, але гэта абсурд. Падатак павінен быць прагрэсіўным і складаць ад 1—2% у год для невялікай уласнасці і да 10—15% — для значных уладанняў. Багатыя людзі павінны плаціць у казну найбольш. Мы ніколі нічога не даб'ёмся, калі памножым штат людзей, якія будуць займацца праверкамі — што набыта законным шляхам, а што не. Гэта — толькі новая прастора для злоўжыванняў. Праверкі, канечне, таксама павінны быць, але галоўны прынцып павінен быць такі: хочаш валодаць вялікай нерухомасцю — плаці. Або падумай, ці не лепш табе ад яе пазбавіцца.

2. Разабрацца з тарыфамі на транспартныя паслугі, асабліва для міждзяржаўных перавозак. Цяпер жа робіцца вось што: каб, скажам, літоўцу набыць білет для пераезду чыгункай куды-небудзь на поўдзень СНД, яму патрэбна выкласці ў сваёй краіне кругленькую суму ў літах. Але ён бярэ білет толькі да Мінска, а тут ён можа набыць білет да таго месца, куды яму трэба, на «зайцы», што абыдзецца яму разоў у 10 дзешавей. Вось тут і пытанне: хто аплачвае яму гэтую яго выгаду? Ці не наш падаткаплацельшчык? Не ведаю, магчыма, ёсць нейкае міждзяржаўнае пагадненне, якое кампенсуе гэтыя страты нашай дзяржаве. Аднак жа, калі гэта і так, чэргі на вакзалах і ў білетных касах застаюцца ў нас. І каб праехаць з Гомеля ў Асіповічы, мусіш выстойваць гадзінамі паміж цётак з клункамі, для якіх такое стаянне — прафесійная дзейнасць.

Дарэчы, аб гэтых цётках з клункамі. Я не прапаноўваю абцягнуць усю нашу тэрыторыю калючым дротам, аднак жа мы можам і павінны дабіцца, каб гэты дэбільны занятак быў эканамічна нявыгадным. І першае, што патрэбна зрабіць — устанавіць такія цэны на міждзяржаўныя паездкі, якія адпавядалі б сусветным. Для тых жа, хто едзе ў «блізкае замежжа» да сваіх блізкіх, на вучобу, на лячэнне і гэтак далей, устанавіць прадуманую сістэму кампенсацый. Гэта няправільна, калі білет з Мінска да Кіева каштуе 30 тысяч «зайцаў», а з Кіева да Мінска (гэтакі самы, плацкартны) — 300 тысяч карбованцаў, пры суадносіне курсаў 1:1,5 — 1:2.

Канечне ж, выроўніванне тарыфаў — мера хоць неабходная, але недастатковая. Трэба прыняць і другія. Вынік жа павінен быць такі — калі хто хоча добра зарабляць, ён павінен добра працаваць на прадпрыемстве, ва ўстанове, ці займацца стваральнай індывідуальнай працай. Ну, а калі чалавек на гэта няздатны і прытым гатовы абмежавацца меншымі даходамі — калі ласка, торбу на плечы і за мяжу...

3. Распрацаваць комплексную дзяржаўную праграму эканоміі рэсурсаў і выкарыстання другаснай сыравіны. Апошнім часам у гэтым кірунку рабілася вельмі і вельмі мала. Занадта доўга мы кпілі з лозунгу, што эканоміка павінна быць эканомнай. Асабліва цяпер, у нашай маленькай і не вельмі багатай дзяржаве, нам не выпадае пагардліва ставіцца нават да найменшай дробязі. Трэба зрабіць так, каб чалавек быў зацікаўлены здаваць макулатуру, адпрацаваны фіксаж (адзін літр якога ўтрымлівае каля аднаго грама серабра), шмат што другое. Трэба, каб у грамадстве выхоўваўся дух ашчаднасці, беражлівасці, гаспадарчага стаўлення да кожнай дробязі.

4. Спыніць спойванне людзей. Гэта цудоўна, што гарэлка трохі падаражэла. Аднак жа ў параўнанні з перыядам стабільных цэн усё яшчэ не ў столькі разоў, як эмалевая фарба, клей «Бусцілат» ці фотаплёнка. Наогул, барацьба з п'янствам, асабліва пасля шматгадовай разбэшчанасці ў гэтай справе — штука тонкая. Аднак я, напрыклад, адназначна супроць п'янак у рабочы час і п'янства за рулём.

5. Спыніць замбіраванне людзей нізкапробнымі тэлевізійнымі серыяламі. Трэба правесці адпаведнае медыцынскае даследаванне, і яно, я ўпэўнены, пакажа, што ўсе гэтыя «мыльныя оперы» — рэч не настолькі бясшкодная, як прынята думаць. Канечне, устойлівасць розных людзей неаднолькавая, аднак жа за цікавасцю да чарговай «марыяны», у той ці большай ступені, непазбежна ідзе абыякавасць да свайго жыцця, да жыцця іншых рэальных людзей, і, урэшце, да жыцця дзяржавы. Папярэдняму кіраўніцтву апошняе, мабыць, было найбольш выгадна. Прыпамінаю такі факт з нядаўняга мінулага. У прыёмным пакоі адной медыцынскай установы — з раніцы чарга. Хворыя чакаюць у калідоры. Сесці няма дзе. Некаторыя з іх прыехалі за некалькі соцень кіламетраў. Яны чакаюць. Бо ў прыёмным пакоі — безліч цётак у белых халатах. Яны ўтаропіліся ў цьмяны, даўно не праціраны экран — з раніцы паўтараюць чарговую серыю несканчальнага серыяла. Хворыя ведаюць: прыём пачнецца толькі пасля заканчэння дэманстрацыі серыі. З іх боку — поўнае разуменне сітуацыі.

Урэшце, так і з намі. Трэба зрабіць выбар: жыць нарэшце ўласным жыццём або глядзець бясконцы серыял, які разыгрываюць перад намі другія дзяржавы.

**А.УРБАНОВІЧ, інжынер**

*г. Гомель*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Вёрз лухту, але ярка, выразна, членараздзельна, акрэслена, па складах, па літарах, па гуках, на пальцах, абяцаў кілішак кожнаму, хто слухае, — і быў падтрыманы адразу, безразважна, зладжана, аднагалосна, шчыра, бескарысліва.

•

Што датычыцца рэкламы, дык мая, Марціна Коўзкага, папулісцкая праграма не дурней за жырыноўскую. Я рэкламу адмяню на ўсіх каналах, і на гэтым зараблю галасоў нямала. Зблякнуць «скрынкі» без падтрымкі? Зблякнуць, але збольшага трапяць людзі ў абдымкі да Уладзіміра Вольфавіча.

•

У адной краіне рыхтаваліся да прыезду Генеральнага сакратара. Вопыту асаблівага не было. Колісь праязджала тут царыца, тады высаджвалі ліпы, выстаўлялі ўздоўж дарог фасады прыгожых вёсак, але той вопыт не падыходзіў.

— Давайце ўзарвём касцёл на плошчы, — прапанаваў мясцовы першы сакратар, — тулiцца блізу самага чалавечнага чалавека, толькі вочы муліць. Там, у Генеральнага, і не такія храмы ўзрывалі.

Прапанову ўхвалілі, а каб не псаваць забудову цэнтра, вырашылі аб'явіць конкурс на кінатэатр. Хай асяродак культуры стане замест асяродку цемрашальства. І турысты не будуць чапляцца, чаму набажэнстваў няма.

У назначаны тэрмін касцёл не ўзарвалі, бо адбыліся важныя змены. Мясцовага першага забралі да Генеральнага на павышэнне, і першым стаў другі. Другі не ўзарваў касцёл не таму, што быў супраць, а таму што Генеральны свой візіт адклаў. Пазней і Генеральнага змянілі, а новы ў адведзіны не збіраўся. Нарэшце, конкурс вынікаў не даў, не клалася гарызанталь на вертыкаль.

Стаіць касцёл па-ранейшаму на плошчы, і надышоў час, калі рашаюць ужо, што рабіць з помнікам побач.

Беларускі Шлях

# ПОШУКІ ПАРАЛЕЛЯЎ

## 1. УСХОДНЕЕЎРАПЕЙСКІ КАНТЭКСТ

Распад Усходняга блока і СССР адбыўся аднačасова з пачаткам новай фазы Еўрапейскай інтэграцыі, якая ў сваю чаргу з'яўляецца самастойным, не звязаным з падзеямі ва Усходняй Еўропе працэсам. З-за неабходнасці рознабаковага фінансавання Маастрыхскіх праграм краіны Еўрапейскага Саюза сёння не маюць дастатковых рэсурсаў, каб істотна дапамагчы ў трансфармацыі грамадстваў краінам былога Усходняга блока. Не маюць такіх рэсурсаў сёння і ЗША, звязаныя адэкватнай праграмай «НАФТА». Структурны крах вайсковага патэнцыялу Усходу дадаткова спрыяе правядзенню Еўрапейскім Саюзам адасобленай ад новых дэмакратый Еўропы эканамічнай палітыкі і палітыкі паступовага ўключэння іх у свой склад. Гэткім чынам, рэзкае памяншэнне ўплыву ў рэгіёне Расіі і звязаных з Расіяй інтэгралісцкіх ідэй не суправаджаецца запаўненнем дадзенай нішы ўплывам панеўрапейскага інтэгралізму. А з-за недахопу ў Расіі рэсурсаў — каб аднавіць тут свой былы ўплыў, — сёння мы бачым у рэгіёне Усходняй Еўропы вымушаны рост нацыянал-фундаменталізму як адзінага сродку забяспечыць грамадскую стабільнасць ва ўмовах рынкавых рэформ і развалу ў галінах эканомікі, раней завязаных на ўсесаюзную эканамічную прастору.

Фактычна дадзены развал буйной прамысловасці можа быць названы дэіндустрыялізацыяй, бо ўласных рэсурсаў для структурнай перабудовы гэтай часткі сваёй эканомікі краіны рэгіёна не маюць, а патэнцыяльныя замежныя інвестары звязаны буйнымі праектамі на іншай тэрыторыі. Таму ва ўсіх краінах рэгіёна маргіналізацыя і пераход у дапрамысловыя сацыяльныя слаі мас рабочых дадаткова стварае спрыяльную глебу для аднаўлення адпаведных грамадскіх ідэалогій і тыпу культуры ўзроўню Еўропы 30-х гадоў. У дадзеным выпадку — нацыянал-фундаменталізму. З другога боку, трэба адзначыць, што ў сённяшняй Еўропе ўсходнееўрапейскі нацыянал-фундаменталізм адрозніваецца адсутнасцю ўстойлівай гістарычнай перспектывы. Самае вялікае ягонае дасягненне — дактрына Балтыйска-Чарнаморскага саюза — рэальная толькі як дактрына наступальніцкая, пакліканая за кароткі час забяспечыць краінам-удзельніцам задавальненне іхніх грандыёзных сыравінных праблем. А, значыць, гэтая дактрына рашучага супрацьстаяння або Расіі, або Еўрапейскаму Саюзу, якія ўжо кантралююць адпаведныя сыравінныя рэсурсы. Можна быць упэўненым, што нават 10 год на падрыхтоўку такога новага перадзелу свету, якія мела ў падобных умовах у свой час Германія, краіны БЧС ад суседніх геапалітычных монстраў не атрымаюць, як не бачна для БЧС і свайго партнёра па новым Рапальскім пакце. Таму нацыянал-фундаменталізм Усходняй Еўропы з'яўляецца не больш чым вонкавай ідэалагічнай формай для падтрымання стабільнасці ў сваіх маргалізаваных грамадствах, з'яўляецца не больш чым часовай ідэалогіяй пануючых палітычных эліт. Па ходзе станаўлення Маастрыхскага саюза і стабілізацыі Расіі трэба чакаць у дадзеным рэгіёне новай ідэалагічнай трансфармацыі.

Выпусціць джына нацыянал-фундаменталізму з бутэлькі можа толькі геапалітычны крах Расіі, які зробіць непазбежнай і жыццёва неабходнай для ўсяе Еўропы рэалізацыю ідэі БЧС, як шчыта ад расійскага хаосу. Яшчэ адной агульнай рысай культуры краін Усходняй Еўропы выступае нізкая ступень іхняй унутранай грамадскай кансалідацыі. Распад Усходняга блока і СССР быў не вынікам моцы апазіцыйных эліт, а следствам агульнай структурнай немагчымасці свету сацыялізму вытрымаць глабальнае супрацьстаянне заходнім дэмакратыям. Перамены распачала сама былая пануючая эліта, зверху. Адным з вынікаў яе вымушанай «перабудовы» сталася страта геапалітычнай самастойнасці кіруемых ёю краін. Таму і распаўсюджанасць новага тыпу ідэалогіі і культуры ў дадзеных краінах пакуль нізкая. Так, амаль усе яны маюць істотныя рэгіянальныя праблемы, слабую засвоенасць народам нацыянальнай ідэалогіі ўвогуле (узгадаем толькі апошнія практычна паўсюдныя перамогі левых прагматыкаў над правымі радыкаламі), не кажучы ўжо пра праблемы нацыянальных меншасцей і адносін з суседзямі.

Гэткім чынам, Беларусь выступае часткай рэгіёна, культуры якога з'яўляюцца аднатыпнымі па структуры і развіваюцца пад уплывам адных і тых жа імпульсаў. Агульнай іхняй характарыстыкай выступае рост нацыянал-фундаменталізму як часовай культурна-ідэалагічнай формы выжывання грамадства ва ўмовах дэіндустрыялізацыі і адсутнасці прытоку капіталаў з-за мяжы для структурнай перабудовы эканомікі.

## 2. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

Сучасную культуру Беларусі дадаткова характарызуюць некаторыя ўласныя рысы, а менавіта:

а) моцныя культурна-палітычная кансалідацыя вакол усходне-беларускага прамысловага сектара пры аднačасовым падпарадкаваным захаванні жорстка вызначаных рэгіянальных культур. Трэба адзначыць, што дадзенай заканамернасці падпарадкоўваецца функцыянаванне культур нацыянальных меншасцей, якія слаба выяўлены і часта нагадваюць лакальныя варыянты беларускай культуры;

б) немагчымасць захавання грамадскай устойлівасці ў выпадку заняпаду ўсходне-беларускага прамысловага сектара, што адразу ж стымулюе выйсце на паверхню рэгіянальных культур, завязанага на іх комплексу міжканфесіянальных супярэчнасцей і праблему нацыянальных меншасцей згодна самаідэнтыфікацыі: палякаў, украінцаў, расійцаў. Спецыфіка ж дадзенага высокатэхналагічнага прамысловага сектара — у недахопе для ягонага нармальнага існавання нацыянальнага эканамічнага абшару; яму трэба дзейнічаць ва ўмовах вялікай эканамічнай прасторы, забеспячэнне доступу да якой у сваю чаргу з'яўляецца адной з галоўных задач Беларускай дзяржавы і грамадства;

в) культурна-ідэалагічная неакрэсленасць грамадства пасля краху СССР, панаванне тут ідэалогіі прагматызму. Дадзеная акалічнасць можа быць растлумачана суб'ектыўнай ідэалагічнай нестыкоўкай дактрыны апазіцыі, увязанай з дактрынамі нацыянальных рухаў суседніх краін, якія ў адрозненне ад Беларусі маюць абшчынна-карпаратыўны, а не харызматычны характар, забяспечваюць выцясненне не столькі іншароднай ідэалогіі, колькі стварэнне карпарацыі ва ўладзе: латышы, эстонцы, малдаване, заходнія ўкраінцы — з папярэдняй ідэалогіяй старой палітычнай эліты Беларусі, з яе курсам на існаванне ў вялікай геапалітычнай прасторы, дзе некалькі дзесяцігоддзяў развівалася беларуская эканоміка.

Апазіцыя на Беларусі не здолела стварыць устойлівай значнай карпарацыі: рэгіёна або сацыяльнага слоя — носьбіта яе ідэй, што і немагчыма было пры рэальнай ступені палітыка-эканамічнай кансалідацыі грамадства рэспублікі пад панаваннем старой эліты. А старая эліта была захоплена «перабудовай» у момант зорнага часу яе дзейнасці, калі распачалася індустрыялізацыя захаду Беларусі на грунце развіцця тут самых перадавых галін прамысловасці, у першую чаргу радыёэлектронікі. І, зразумела, пераход ад рэалізацыі курсу на адну з самых развітых у тэхналагічным сэнсе краін Еўропы да стабілізацыі дэіндустрыялізаванага і культурна дэградаванага грамадства — рэч у культурна-ідэалагічным сэнсе няхуткая. Па структуры культуры Беларусь сёння нагадвае Паўночную Амерыку з панаваннем у грамадстве не этнічнай, а палітычнай, прагматычнай ідэалогіі, з развітымі, падпарадкаванымі гэтай ідэалогіі, рэгіянальнымі культурамі, з элітай, чыё панаванне забяспечана толькі існаваннем высокатэхналагічнага прамысловага комплексу, які патрабуе актыўнай знешнеэканамічнай дзейнасці, з насельніцтвам, большасць якога на працягу жыцця аднаго-двух пакаленняў змяніла традыцыйнае вясковае супольніцтва на вялікі горад, двойчы на працягу гэтага часу зведала змену пануючай ідэалогіі, кожны раз аднолькава жорстка ламаючай звыклы лад жыцця і каштоўнасную сетку. Такое насельніцтва не можа быць носьбітам жорсткай ідэалагічнай схемы этнакарпаратыўнага характару; такім насельніцтвам можна кіраваць, толькі абапіраючыся на рацыянальна-прагматычныя пастулаты кшталту сям'і, працы, выгоды; рэлігіі ў вольным ад палітыкі варыянце (што досыць рэдкая з'ява ў сённяшняй Усходняй Еўропе і робіць грамадства Беларусі на пэўны час падобным да эмігранцкага грамадства ЗША);

г) дадае падобнасці да дадзенага грамадства чарнобыльскі фактар, які настолькі моцна ўплывае на культуру Беларусі, што можна гаварыць пра ягонае этнавытворчае значэнне. Прынамсі, аніводная палітычная сіла Беларусі ці культурная плынь не можа абмінуць гэту праблему. Яе рашэння ў межах замкнёнай краіны — няма. Таму чарнобыльскі культурна-ідэалагічны кампанент дадаткова спрыяе касмапалітызацыі беларускай культуры, чаго няма (у такой меры) больш нідзе ва Усходняй Еўропе;

д) яшчэ адной яскравай рысай сучаснай беларускай культуры можна назваць крайні культурна-ідэалагічны дынамізм нацыянал-фундаменталізму. Дастаткова ўзгадаць уздым ім чарнобыльскай тэмы, выйсце з ягоных нетраў уніяцкай царквы і неапаганскай плыні, ліцвінскую трактоўку характару беларускай нацыі, ідэю БЧС, частыя неразбуральныя для яго, але вельмі рэзкія змены ідэалагічных акцэнтаў. Беларускі нацыянал-фундаменталізм з'яўляецца рухам ірацыянальным, харызматычным, які аперыруе дасюль не катэгорыямі ўлады, а духу і пачуцця. Таму дадзены рух ідэалагічна не акасцянелы, структурна гатовы ўспрыняць і праводзіць практычна любы комплекс вонкавых ідэй, а таму можна чакаць, што ён будзе ў стане ідэалагічна асэнсаваць і вельмі своеасаблівую беларускую культурную сітуацыю і зліцца з пануючай элітай. І такога мы не бачым больш ва Усходняй Еўропе нідзе.

## 3. ФАРМУЕМАЯ БЕЛАРУССЮ КУЛЬТУРНАЯ ПРАСТОРА

Спецыфіка структуры культуры Беларусі прымушае супольніцтва вельмі своеасабліва адказваць на агульныя для ўсяе Усходняе Еўропы культурныя імпульсы. Акрамя таго, дзеля свайго самазахавання дадзеная культура павінна, як і ўсялякая іншая, ствараць вакол сябе камфортную культурную прастору, уплываючы на суседнія культуры або падстройваючыся пад іх. Адпаведная характарыстыка сыходзячага з Беларусі вонкі культурна-ідэалагічнага імпульсу ўключае ў сябе:

а) ідэалогію прагматызму як форму даўно ў свеце вядомага рацыяналізму, секулярызацыю грамадскага жыцця, ачышчэнне яго ад уплыву ірацыянальных імпульсаў; касмапалітычную трактоўку ідэалагічна спрэчных пытанняў у святле чарнобыльскага сіндрому. Варта звярнуць увагу на знешнюю палітыку Беларусі, скажам, адносна Літвы, дзе безумоўна больш моцная геапалітычная пазіцыя Беларусі не вядзе да рэалізацыі ідэалагізаванага курсу на абвастрэнне Віленскага пытання. Нават апошнія вядомыя нам пагадненні з Расіяй ідэалагічна трактуюцца сыходзячы не з ідэалагічных пасылак, а выключна з рацыянальных. Мала ва Усходняй Еўропе краін, якія б праводзілі настолькі дэідэалагізаваную знешнюю палітыку. Часта нават узнікае ўражанне, што беларуская знешняя палітыка занадта дэідэалагізавана для нашага часу, для нашага рэгіёна;

б) пошук негвалтоўнай мадэлі пабудовы ўстойлівай рэгіянальнай групоўкі. Спецыфіка беларускай эканомікі пакуль такая, што яе праблемы не могуць быць вырашаны за кошт патэнцыяльна магчымых перамог у лакальных вайсковых канфліктах Беларусі з суседзямі. Усходнебеларускі прамысловы сектар патрабуе гарантыі ягонага доступу да суседняга рынку, а не тэрыторыі. Таму недэіндустрыялізаваная Беларусь аб'ектыўна з'яўляецца прыхільнікам стварэння рэгіянальнай групоўкі толькі мірным шляхам;

в) антынацыянал-фундаменталізм. Беларускі нацыянал-фнудаменталізм — спецыфічны. Па сутнасці, ягонай галоўнай рысай сёння з'яўляецца апалагетыка стабільнасці дзяржавы, а не этнасу самога па сабе. Такую ж ідэалогію спавядае і пануючая палітычная эліта. Розпай у іх з'яўляецца толькі тактыка і ідэалагічныя акцэнты. Падобнага тыпу нацыянал-фундаменталізму няма анідзе навокал ва Усходняй Еўропе, прынамсі, сярод еўрапейскіх рэспублік былога СССР. Такі нацыянал-фундаменталізм разбуральны для нацыянальнай ідэалогіі эстонцаў ды латышоў, цяжкі для ўспрымання ўкраінцам, малдаванам, літоўцам. Па-за межамі Беларусі дзяржаўніцтва — не больш чым тактычны прыём тамтэйшых правых. На Беларусі ў гэтым — сутнасць тутэйшага нацыяналізму. Адсюль — адзін крок да сапраўднага сінтэзу ідэалогіі дэмакратыі і нацыі па заходнееўрапейскім прыкладзе;

г) падвышаная ўвага да пытанняў рэлігійнай дагматыкі і да філасофскай праблематыкі ўвогуле. У дадзенай сітуацыі — у першую чаргу да пытанняў экалогіі. Наяўнасць трох прыкладна роўных па рэлігійным уплыве канфесій, адсутнасць істотных па ўплыве нацыянал-фундаменталісцкіх цэркваў аўтаматычна прымушаюць Беларусь шукаць вырашэнне сваіх канфесійных праблем на шляху распаўсюджання прынцыпу секулярызацыі. Што таксама рэдкасць у нашыя часы ў нашым рэгіёне;

д) малая ўвага да моўнай праблематыкі, вельмі значная свабода творчасці ў гэтай галіне, большая свабода этнічнай творчасці ўвогуле. У гэтым сэнсе вельмі красамоўны прыклад сённяшняй «Нашай Нівы».

У цэлым трэба адзначыць, што спецыфіка культуры Беларусі, спецыфіка зыходнага ад яе культурнага імпульсу стварае ёй неблагія пазіцыі ў Еўропе на будучыню, робіць яе, магчыма, адной з найбольш прыстасаваных да культурна-ідэалагічнага кантакту з краінамі Еўрапейскага Саюза дзяржавай на Захадзе былога СССР, але ўводзіць у напружаныя на глыбінным узроўні адносіны з суседнімі ўсходнееўрапейскімі дзяржавамі і культурамі. Што дазваляе зрабіць выснову аб патэнцыяльнай плённасці для Беларусі пошуку партнёраў для культурна-палітычнага дыялога па-за межамі свайго рэгіёна сярод моцных геапалітычных арганізмаў, маючых аднатыпную з Беларуссю структуру культуры: з Еўрапейскім Саюзам (а не толькі з асобнымі ягонымі краінамі), Расіяй, ЗША. З другога боку, працяг дэіндустрыялізацыі рызыкуе ператварыць дадзеную культуру ў тыповую для Усходняй Еўропы, або нават разбурыць цалкам.

**Юрась ШАЎЦОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута культуры і мастацтва АН Літвы**

*Публікацыя паводле даклада, падрыхтаванага да міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні» (чэрвень г. г.).*

*Сярод кніг*

# СУМЛЕННА І НЕАБЫЯКАВА

Народны мастак СССР Заір Азгур вядомы не толькі як выдатны скульптар, а і як мемуарыст, аўтар цыкла кніг «Тое, што помніцца». Нядаўна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет чарговая з іх, пятая па ліку. Як і ў папярэдніх, аўтар вядзе ўсхваляваную размову пра сваю творчасць і творчасць калег (і не толькі мастакоў, скульптараў, а і артыстаў. пісьменнікаў), прадстаўнікоў іншых прафесій, а і пра грамадскіх дзеячаў), пра час, у якім жыве і ў якім давялося яму жыць.

Памяць у Заіра Ісакавіча багатая, ды і пражыта ім шмат. Да таго ж ён мае ўласны погляд на падзеі і з'явы. І прыслухацца да яго меркаванняў, нават не прымаючы ці проста адмаўляючы іх, карысна. Хоць бы таму, што сказана гэта сумленна, а за развагамі Заіра Ісакавіча ў многім і шлях пакалення, да якога ён належыць, і набыткі гэтага пакалення, і пралікі і страты. Карацей кажучы, за гэтым — жыццё, а яно простым не бывае.

Пра гэта аўтар разважае ўжо ў першым артыкуле «Працяг размовы». Прытым заяўляе прынцыпова і, можа, у нечым катэгарычна наконт таго, ці ёсць у яго патрэба ў пражытым нешта забыць: «Адказваю: было! Было тое, аб чым не хацеў бы ўспамінаць. Лепш было б забыць. Выкрасліць з біяграфіі.

Ды не выкрэсліваецца. Анічога!»

І гэтаксама прынцыпова разважае аб неабходнасці зберагаць гістарычную памяць. Кажаце, хто пра гэта сёння не прамаўляе? Прабачце, але тут ёсць розніца, і прытым вельмі істотная. Звычайна мы сцвярджаем неабходнасць вяртання ў сівую мінуўшчыну, каб даведацца, хто мы і адкуль на гэтай зямлі. З. Азгур напамінае, што недаравальна цурацца і нядаўняга мінулага. Сапраўды, было ў ім усё. На жаль, слёз болей, чым радасці. Як ні прыкра, але дэкларацыя важных ідэй разыходзілася з паўсядзённай практыкай. Як ні балюча, ды гінулі самыя лепшыя. Але ж кроў і слёзы былі заўсёды. Ды высыхалі яны, калі ў чарговы раз шчодра свяціла сонца. Промні яго і сёння надзіва гаючыя, жыццядайныя. Дык хіба нельга з павагай ставіцца да таго лепшага, што зроблена за тыя семдзесят з лішнім гадоў, якія сёння ўсяляк праклінаем? Хіба нельга набрацца смеласці і прызнаць, што творы мастацтва, калі яны, безумоўна высокамастацкія, не павінны знішчацца, бо яны таксама частка нацыянальнай гісторыі, хоць і адлюстроўваюць воблікі палітычных дзеячаў, скінутых сёння з п'едэстала часу?

Пра што б ні пісаў З. Азгур, пра каго б ні гаварыў слова (а гэтым разам ажываюць пад пяром Заіра Ісакавіча воблікі Пятра Машэрава, Цішкі Гартнага, славутага дзеда Талаша, Язэпа Лёсіка, Аляксандра Ільінскага, Ларысы Александроўскай і іншых), ён імкнецца адшукаць факты, эпізоды, асобныя дэталі, якія б пераканалі — чалавек гэты варты таго, каб пра яго памяталі. І разам з тым З. Азгур ні ў якім разе не ідэалізуе яго, а паказвае з усімі чалавечымі слабасцямі.

Гэта ці не ў большай ступені тычыцца нарыса «Чалавек ён быў...». Выносячы ў загаловак знакамітыя словы прынца Дацкага з «Гамлета» У. Шэкспіра, ужо тым самым засяроджвае ўвагу на галоўным, што вылучала П. Машэрава з шэрагу партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў свайго часу. Чалавек, спачатку прыгадваецца, пасля дзеяч. Атрымлівалася і так, што гэтак чалавечае ў яго паводзінах, сутыкнуўшыся з бюракратычнымі канонамі, як бы пачынала адыходзіць на другі план, ды ў іншых абставінах яно ўсё ж перамагала.

Колькі прачулых слоў прамаўляе З. Азгур, дзелячыся ўражаннямі ад паэзіі М. Танка, Р. Барадуліна, А. Зарыцкага, А. Куляшова... А побач — прыязныя словы пра кнігу Т. Мушынскай «Гармонія дуэта», у якой расказваецца пра творчасць вядомых артыстаў Л. Бржазоўскай і Ю. Траяна. Дзіўна, нечакана? Не, пераход заканамерны: «У маіх уражаннях яна, паэзія, нярэдка спрачаецца з Мельпаменай. Ці не самае ўплывовае на чалавека мастацтва — гэта мастацтва тэатральнае». Нездарма згадкі пра гэтую кнігу арганічна зліваюцца з уражаннямі ад твораў А. Зарыцкага, Я. Хелемскага і ўваходзяць разам у артыкул «Убачыць вогнішча на тым беразе».

Ёсць у кнізе З. Азгура і іншыя старонкі, што прыносяць радасць судакранання з паэзіяй у самым шырокім разуменні гэтага слова.

**З. В.**

*Віншуем!*

# Сцяпану КУХАРАВУ — 75



Сцяпан Кухараў мае багаты жыццёвы вопыт. Яшчэ ў 1939 годзе ён скончыў Гомельскае педагагічнае вучылішча, вярнуўся на родную Краснапольшчыну, працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры Горскай сярэдняй школы.

У 1942 годзе С.Кухараў стаў партызанскім сувязным, а з 1943-га — на фронце. Завяршыў баявы шлях у Берліне.

Быў літаратурным супрацоўнікам, загадчыкам аддзела газеты «Чырвоная змена», працаваў у рэдакцыях газет «Мінская праўда», «Рудзенская праўда», «Настаўніцкая газета», а з 1955 года да выхаду ў 1981 годзе на пенсію — у рэдакцыі часопіса «Маладосць».

Спачатку заявіў аб сабе як дакументаліст, што засведчылі кнігі нарысаў «Незабыўныя сустрэчы» (1959), «Людзі крылатага ўзросту» (1961), «Ад вашага карэспандэнта» (1966), «Жыццё-легенда» (1971). Але па-сапраўднаму як пісьменнік нарадзіўся, бадай, усё ж з аповесці «Бацькавічы» (1974). Бацькавічы — назва адной, знешне непрыкметнай вёскі, што знаходзіцца ў самой глыбінцы, на ўсходзе Магілёўшчыны. Вёска маленькая, а людзі — як усюды: добрыя і спагадлівыя, душэўна чыстыя і багатыя. Адштурхоўваючыся ад дакументальнай асновы, С.Кухараў здолеў стварыць жывыя, каларытныя характары.

Сплаў дакументальнасці і мастацкасці і ў кнізе «Сцішанае поле» (1986), у якую ўвайшлі таксама і літаратурныя партрэты, эсэ пра літаратараў, з якімі аўтару давялося працаваць ці сустракацца. А вось кніжка «Суніцы для сына» — таксама выйшла ў 1986 годзе — адрасавана школьнікам. І гэтым разам С.Кухараў застаўся пры-хільнікам прозы, што спалучае ў сабе дзве плыні — дакументальную і мастацкую.

З днём нараджэння, Сцяпан Іванавіч! Няхай і надалей Вам рупіцца і ў жыцці, і ў творчасці!

# ГЭЙ, НАПЕРАД! ГЭЙ, НАЗАД!

У далёкім 1943 годзе надрукаваў першую карэспандэнцыю А. Капусцін. І паўвека не расстаецца з жывым мастацкім словам. Аповесці, апавяданні, нарысы, гумарэскі склалі шэраг яго кніг. Нядаўна выйшаў у свет чарговы гумарыстычны зборнік «Юбілейны торт». У ім 19 гумарэсак, прысвечаных нашаму сённяшняму неспакойнаму, тлумліваму часу. Ідзе пераасэнсаванне мінулага. Разам са светлым і ўзвышаным падымаюцца на паверхню палітыканства, двудушнасць, прыстасавальніцтва, калі немагчыма адрозніць дэмакрата ад партакрата. Навокал перабудова-развал, рознагалоссе палярных думак, цывілізаваныя і не вельмі кааператары і прадпрымальнікі. Пісьменнік з'едліва высмейвае бязглуздыя спрэчкі, словаблуд пустазвонаў. Нярэдка за гучнымі словамі хаваюцца пярэваратні, што імкнуцца атлуміць народ, дабіцца ўласнай выгоды. Балбатунам асабліва дастаецца — гумарэскі «Гэй, наперад! Гэй, назад!», «У лазні», «Мачанка». У апошняй высмейваецца пустабрэх Хведар Кузьміч. Ён умела выдае сябе за неардынарнага інтэлігента, патрыёта, прыхільніка беларускасці. Высокія словы пра нашу літаратуру з яго сыплюцца, «быццам смецце з дранага мяшка». І ўсе высокія разважанні зваліся да падзякі повару, які «дужа смачную беларускую мачанку гатуе, шэльма!» Блізкая да памянёных і гумарэска «Дуга з банькамі». І тут на пярэднім плане псеўдаінтэлігент з адмысловым прозвішчам Балабуцька, які любіць паказаць сябе ўсюды, гаворыць палымяныя прамовы пра авангардыстаў, беларускую мову, на вечары філатэлістаў, на юбілеі знакамітага вучонага, перад настаўнікамі, — словам, як заўважае суразмоўца, «пад кожную бочку шпунт».

У гумарэсцы «Тэарэтык» пісьменнік бічуе прыстасавальніцтва як спосаб трымацца за матэрыяльныя даброты. Анісім Палікарпавіч дабіўся прафесарскага звання, славячы партыю. Але прыйшла перабудова. Цяпер ён у філасофскіх артыкулах прымірае Маркса з Хрыстом. Бязлітасна з'едлівая канцоўка твора. Закончыўшы чарговы артыкул, тэарэтык шчасліва засынае і сніць сябе цёмнагрудым вераб'ём, які выспеўвае прымiраным Марксу і Хрысту свае вясновыя песенькі. Блізкія да гэтай гумарэска «Бакалаўр палітычных навук». Праўда, у ёй не вучоны, а кіраўнік нейкай абноўленай установы Браніслаў Назаровіч. Але пафіласофстваваць ён таксама мастак. Разважанні ў яго цякуць, «як ручаіна ў меліярацыйнай канаве». Яго мара — стаць такім, як цары прыроды леў ды арол. Толькі думка міжволі скіроўваецца да ленаватага дачнага Цюліка, які «ліжа сваё інтымнае сабачае месца» і зрэдку пагаўквае на абчэплены дзядамі ўласны хвост. Дык хто ж ён, гэты дзеяч з установы «з новай назвай і новай шыльдай на дзвярах» — арол ці Цюлік?

Усеахопнасць адмоўнага ў сённяшнім атлумленым жыцці высмейваецца ў гумарэсцы «Брокер». Вучні малодшых класаў мітынгуюць, аб'яўляюць забастоўку з патрабаваннем замяніць строгую настаўніцу. Адначасова ад бацькоў патрабуюць набыць ім японскія магнітафоны, пагражаючы ў выпадку адмовы пакінуць школу і пайсці на курсы брокераў.

На мутнай хвалі безладдзя і ўседазволенасці ўзнік былы работнік райспажыўсаюза, а цяпер кіраўнік сельпоўскага гандлю Барадаўка («Як той раз...») Ён не саромеючыся вымагае хабар. У яго рукі нібы па транспарцёрнай стужцы плывуць грошы, укормленыя парсюкі, «Жыгулі»... Праўда, неўзабаве з'яўляюцца рэвізор, затым супрацоўнікі міліцыі. Але і ахоўнікі дзяржаўных інтарэсаў набылі вопыт хапуг. Яны ўпэўнены, што ўсё атрымаецца, як і раней, «як той раз...»

У гумарэсках А. Капусціна ў пераважнай большасці дзейнічаюць прадстаўнікі творчых прафесій. Гурт літаратараў дружна спажывае юбілейны торт (гумарэска, якая дала назву кніжцы). Прагны да славы кампазітар-песеннік купляе рэцэнзента на свой бездапаможны твор («Неўміручая песня»). Прэтэнцыёзны, але недалёкі скрыпач Кірыльчык, у галаве якога «штурхаліся адна аб адну гарачыя думкі», прагне любым шляхам набыць мільён («Тэнаровым голасам суддзі»).

Да асобных гумарэсак зборніка варта прад'явіць прэтэнзіі. Цікава задумана «Лебядзіная песня», але аўтар не знайшоў яе адпаведнага завяршэння, трапнага стрэлу не атрымалася. Не вельмі пераканальна гучыць нагрувашчванне жахаў у «Моманце эфекту», як і фабула «Лірычнага знаёмства», дзе герой не пазнаў сваю былую жонку.

А. Капусцін умела знаходзіць выразныя выяўленчыя сродкі, чуйны да яркага, жывога слова, адмысловага словазлучэння, нечаканага параўнання. Вось адзін з герояў пачаў паціраць рукі, «ажно іскры сыпануліся з далоняў».

Хто набудзе кніжку А. Капусціна, не пашкадуе. Яна варта чытацкай увагі. На жаль, тыраж яе ўсяго пяць тысяч экземпляраў. А ці даўно тыраж «Бібліятэкі «Вожыка» сягаў за трыццаць тысяч? І разыходзіўся, знаходзіў сваіх чытачоў...

**Георгій ЮРЧАНКА**

*Аляксандр Капусцін. Юбілейны торт. «Бібліятэка «Вожыка». Мн., 1994.*

### Пасляслоўе ад рэдакцыі.

Рэцэнзент забыўся сказаць, што адзін з асноўных аб'ектаў сатырычнага асмяяння ў гэтай кнізе — дэмакратыя. Пад дэмакратыяй аўтар разумее ўсё адмоўнае, што ў нас сёння адбываецца, і гатовы разам з вадою выкуліць і дзіця. Невыпадкова ў адной з гумарэсак дзейнічае «аб'яднаны кангрэс дэмакратаў і плутакратаў, народнага фронту і партыі камуністаў». Што на тое скажаш? Смяяцца сапраўды не грэх і нават карысна. Аднак жа, цытуючы самога А. Капусціна, «палітыка — тонкая рэч»... Ці, можа, татальны смех — таксама прыкмета сённяшняга дня?

# СПАТАЛЕННЕ ДУХОЎНАСЦІ

Цяжка прабіваў сабе дарогу ў выдавецтве «Беларусь» альбом «Веткаўскі музей народнай творчасці». Значыўся яшчэ ў плане выпуску 1991 года, пабачыў жа свет толькі цяпер, у 1994-ым. Калі няма ўжо ў жывых аднаго са складальнікаў, нястомнага рупліўца на ніве нацыянальнага адраджэння Ф. Шклярава (дарэчы, памяці Фёдара Рыгоравіча альбом цяпер прысвячаецца).

Аўтары ўступнага артыкула Г. Нячаева і С. Лявонцьева (дарэчы, яны разам з Ф. Шкляравым — складальнікі альбома) падрабязна расказваюць пра унікальны куточак Бацькаўшчыны — невялікі гарадок Ветку. Сёння — гэта, на жаль, зона радыяцыйнага забруджвання, а ў 1680-ыя гады гэта быў цэнтр... пасадскага расколу. І знайшлі тут сабе прытулак выхадцы больш чым з 20 губерняў царскай Расіі: «Ужо ў XVII ст. веткаўцы імкнуліся ва ўсім паўтарыць сталіцу Маскоўскай Русі: галоўную плошчу назвалі Краснай, сабор — Пакроўскім. Яны спаборнічалі з масквічамі ў збіранні старадрукаваных і рукапісных кніг». І, вядома ж, усяляк развівалі розныя рамёствы.

Асаблівасць становішча Веткі і паўплывала на тое, што ў тамашніх мясцінах надоўга захаваліся традыцыі мастацтва Старажытнай Русі. Падумаць толькі, да нядаўняга часу ў некаторых дамах можна было знайсці разгорнутую кнігу, надрукаваную... Іванам Фёдаравым! Мясцовы энтузіяст Ф. Шкляраў і заняўся зборам гэтых унікальных твораў, якія сталі асновай першай экспазіцыі Веткаўскага музея народнай творчасці, што прыняла наведвальнікаў 1 лістапада 1987 года.

Альбом і дапамагае пазнаёміцца з матэрыяламі, што былі прадстаўлены ў музеі, а разам з тым далучыцца да нерушавага свету мастацтва.

У першым раздзеле прадстаўлены старадрукаваныя і рукапісныя кнігі. Глядзіш на іх — ажно вочы разбягаюцца. Якая прыгажосць і якая гістарычная каштоўнасць: «Евангелле вучыцельнае» 1569 года, друкары І. Фёдараў і П. Мсціславец; «Апостал» 1574 года, друкар І. Фёдараў; «Евангелле» 1660 года... Каб расказаць, як кожная з іх трапіла ў Ветку, дык, як слушна гавораць складальнікі, атрымалася б найцікавейшае апавяданне.

А ўзяць багатую калекцыю абразоў, прыпарахаў, прорысяў?! Ёсць сярод іх, зразумела, і прывазныя, але ж можна гаварыць і пра арыгінальны веткаўскі іканапіс, што спалучыў у сабе розныя мастацкія традыцыі, а тым самым набыў уласны твар. Перагортваеш старонкі раздзела «Іканапіс» і таксама адчуваеш, як дыхае на цябе сама даўніна, а адначасова далучаешся да духоўнага вопыту народа, яго веры.

Нарэшце, раздзел «Метал, разьба, шыццё»... Таксама арыгінальнасць твораў, адмысловасць іх выканання, смеласць аўтарскай фантазіі. А галоўнае — зноў жа тая духоўная падсветка, якая пастаянна нагадвае аб сабе. Усё, што ні рабілася — абразкі, складзені, крыжы, абразы, — узнікала як патрэба чалавека выказацца, паспавядацца і разам з тым далучыцца да вечнага. Самыя розныя пры гэтым матэрыялы браліся, але ўсе працавалі на духоўнасць. Чалавек не ўяўляў сябе без прыгожага, а, далучаючыся да яго, маральна ачышчаўся.

У заключным раздзеле «Ткацтва, касцюм» — як бы магчымасць зрабіць падарожжа з самой Веткі ў знакамітую Неглюбку, якая з'яўляецца адным з самых вядомых на Беларусі цэнтраў народнай творчасці. У ткацтве, вышыўцы тутэйшых майстроў вельмі адчувальныя элементы язычніцтва, ці, як яшчэ кажуць, паганства. Нярэдкія арнамент неба і зямлі, прысутнічаюць даўнія знакі вады, дрэва жыцця, нябесных свяцілаў... Тут жа і ручнікі, вышываныя кашулі, ткацтва не толькі з Неглюбкі, а і з іншых вёсак.

Усяго ж у альбоме прадстаўлена 109 каляровых ілюстрацый. Акрамя таго, прыводзіцца слоўнік майстроў Веткі XVII — пачатку XX стагоддзя, так што можна даведацца і пра тых, хто заслужыў, каб пра яго памяталі нашчадкі, А калі ўлічыць, што асноўны тэкст пададзены не толькі па-беларуску, а і ў перакладзе на рускую, англійскую, французскую і нямецкую мовы, дык з гэткім альбомам не сорамна і ў свет паехаць.

**А. М.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ВАСІЛЯ БЫКАВА — НА НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ

**Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, як вядома, адзін з самых папулярных у свеце сучасных літаратараў. Яго творы перакладзены ўжо больш чым на 50 моў. Прытым гэта літаратура высокага мастацкага і грамадзянскага гучання, напоўненая агульначалавечымі праблемамі. Чытаючы В. Быкава не толькі знаходзіш адказ на самыя складаныя праблемы сённяшняга дня, даведваешся праўду пра другую сусветную вайну, але і выразней пачынаеш адчуваць, бачыць перад сабой абрысы будучыні.**

**Міжнародны камітэт беларусістаў, улічваючы найвялікшую ролю і месца В. Быкава ў сучасным жыцці — як творчым, так і грамадскім, выступіў з ініцыятывай вылучыць яго на атрыманне Нобелеўскай прэміі. Да гэтай высновы МКБ прыйшоў, параіўшыся з замежнымі калегамі. Мяркуецца, што ў падтрымку кандыдатуры В. Быкава выступяць нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў розных краін, ухвальна паставяцца да гэтай ідэі і самі лаўрэаты гэтай ганаровай і высокай сусветнай узнагароды. Акрамя таго, думаецца, не застанецца ўбаку і шведскі перакладчык В. Быкава Стафан Скот.**

## І МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ ПІША ВЕРШЫ

**У гэтым пераконваешся, калі знаёмішся з шостым нумарам часопіса «Зрок». Праўда, прадстаўлены ў ім толькі адзін паэтычны твор М. Ермаловіча, надрукаваны на трэцяй старонцы вокладкі. Змешчаны вершы К. Камейшы, урывак з аповесці У. Саламахі «Расступіся, зямля...», быль В. Стрыжака «Заклад», заканчэнне дакументальных навел М. Капыловіча «Чарнобыльскія пустэльнікі», нарысы У. Крываноса «Людзі з чорных спісаў» (пра рэпрэсаваных святароў) і Т. Бяловай «Іван ды Мар'я» (пра няпростыя людскія лёсы), падборка для дзяцей «Ліхтарык», працяг кнігі пра злачынствы фашыстаў «Ліцэнзаваны забойца»...**

## ЦІХА...

**Часам тэатр яднае дзівосным чынам: Максім Багдановіч, напрыклад, ягоны верш «Ціха на небе, зямлі і на сэрцы» робіцца камертонам для «Русалкі» Аляксандра Пушкіна; надаць натуральнае, адпаведнае гучанне апошняму ў перакладзе рупіцца паэт Рыгор Барадулін, а гукавы шэраг, заснаваны на аўтэнтычным выкананні беларускіх песень, дапамагае ствараць-вынаходзіць, кансультуючы спектакль, Уладзімір Бербераў... Нарэшце, рэжысёр Уладзімір Савіцкі, а менавіта ён ажыццявіў пастаноўку «Русалкі» пад Багдановічавай назваю «Ціха на небе, зямлі і на сэрцы», аб'яднаў усіх названых мужчын для адной жанчыны — выканаўцы Галіны Дзягілевай. Для яе і толькі для яе, беручы пад увагу асаблівасці акцёрскай натуры, стварыў Уладзімір Савіцкі і адпаведную сцэнічную кампазіцыю. Нацатвор зазнаў прэм'еру напрыканцы чэрвеня, на пачатку ліпеня адбыліся ўжо паказы для публікі (нават разумеючы ўсе складанасці пракату, няможна не адзначыць, што для прэм'еры няма найгоршага часу, як спякотныя дні ўсеагульных адпачынкаў). У прэсе (выключэнне складае хіба газета «Культура») пануе летняя тэатральная ціша, што абсалютна натуральна. Зусім натуральна і тое, што такім самым прыцішаным, сціплым было і ўражанне ад гэтай работы беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зьніч»: нават «Русалка», паводле самога Пушкіна, аддае перавагу глыбіням Дняпра-ракі; — халоднай і празрыстай вадзе. Пачакаем восені...**

**Ж. Л.**

## «...ВЯСЁЛЫ ВУЛЕЙ» БАРАДУЛІНА

**«Азбука — вясёлы вулей» — так называецца чарговая кніжка Рыгора Барадуліна, што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Здавалася б, нічога дзіўнага, але справа ў тым, што гэты вясёлы, дасціпны і па-барадулінску мудры зборнік адрасуецца дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, а з часу заснавання выдавецтва «Юнацтва» «МЛ» падобныя абавязкі з сябе склала. І ўсё ж нездарма кажуць: няма правіла без выключэння. Так што застаецца памкненні «Мастацкай літаратуры» вітаць і ў гэтым кірунку, накіраваным на выхаванне падрастаючага пакалення. Дарэчы (пра гэта мы паведамлялі раней), «МЛ» апублікавала і падручнік. Шматпрофільнасць, як бачым, справа нядрэнная.**

Паэзія

Мікола КУСЯНКОЎ



## ЗЕМЛЯТРУС

### 1

Дзе мчаць паўз бераг Свіслачы
машыны,
Дзе дойлідства сучаснага размах,
Сярод яго муроў і мой вышынны
Тарчма ўстае пад неба шэры гмах.
Тут да сваёй высокае пасады
(Магутны шэф спрыяў ці добры лёс?)
Падняўся я — так на паверх
дзесяты
Мяне і гэтым ранкам ліфт узнёс.
Сяджу пад небам і служу народу,
Бо не парваў з ім еднасці зямной.
Але ж няма на кар'ерыстаў зводу —
Зноў расхіталі крэсла пада мной!..

### 2

Во чэрці!.. Хоць бы тузалі патроху,
А то ж пайшлі ўжо, мабыць,
напралом:
Не далі рады крэслу, дык падлогу
Рвуць з-пад мяне ўжо — з крэслам
і сталом.
Аж да акна шпурнула —
ну й пацеха!
Зірнуў уніз — там нейкі перапуд,
Бо на панель, нібыта бульба з меха,
Вытрушваецца з гмаха дробны люд.
Цяжкі талмуд зрываецца з палічкі,
І закракатаў пад столлю тоўсты брус,
А ў калідоры тупат ног панічны:
«Ратуйцеся хто можа! Землятрус!»

### 3

Не можа быць! Адкуль ён тут,
у Мінску?
Бягу, а ногі скоўвае мне жах:
Няйначай, калатнула па-румынску!..
Хутчэй уніз, пакуль не рухнуў гмах!..
Сам за сябе яшчэ спалоху поўны,
А ўжо бягу праз вулічны садом
Туды, дзе за Нямігай наш галоўны,
Ды не вышынны, а ВЫСОКІ ДОМ.
Бо ў ім жа тыя, што з народа
выйшлі,
Каму народ сябе даверыць рад.
Няхай жа зберажэ іх Усявышні
Ад землятрусу, што прыбег
з Карпат.

### 4

Я знаю: цэглу правяралі строга
На злом і россып ад стыхійных з'яў,
Але спыняю хлопца маладога:
«Як там наш ДОМ ВЫСОКІ?
Ці ўстаяў?»
І ён мяне суцешыў, супакоіў,
Бо да Нямігі збег аддтуль, згары:
«ВЫСОКІ ДОМ? Стары,
махні рукою —
Ён загрымеў ужо ў тартарары!
Загрукацеў!.. Падзякуй землятрусу:
Усім абрыдлы ДОМ не ацалеў.
Хоць пажывём, як людзі,
без прымусу,
Бо ўжо назад нас не загнаць у хлеў».

### 5

Што ён вярзе?.. Сатрапы,
бонзы, босы! —
Такія ў ДОМЕ тым былі чыны.
А я згадзіўся б голы жыць і босы,
Каб толькі ўратаваліся яны.
Бо не хадзіў раздзеты я ніколі,
Калі ж гаворка, скажам, аб ядзе,
Дык часам і самому ў іх застоллі,
Бывала, добры кус перападзе.
Не ведаў я ні бонзаў, ні сатрапаў, —
Яны былі таварышы, браты.
Сам неяк раз я ў ДОМ ВЫСОКІ
трапіў,
І з той пары ён для мяне святы.

### 6

Інтэлігент. І, мабыць, «падагрэты»:
«Лічы, прыбег, дык сядзь перакуры.
Скажы, што ім не ўдаўся фокус гэты:
Мы — спадары, яны — гаспадары!..
У сквер бліжэйшы і куды папала
З пад'езду разбягаўся апарат.
Але патрэсла — толькі шыльда ўпала,
І ўсе яны вярнуліся назад.
Ты хто — паэт? Дык будзе ручка
з пастай
Тваім набыткам, а завод, гатэль
Падзеляць між сабою
тыя ж пастыры,
Начхаць ім, хто ты — бард
ці менестрэль».

### 7

Начхаць?.. О не! Нам дораць ласку
ўлады!
Мы першыя іх славім, а тады
Яны даюць нам званні і пасады,
А як памром — прэстыжныя клады.
Іранізуй жа, цынік, але ўмеру.
ВЫСОКІ ДОМ не быў ніколі злом!
Яму паверыў я, і гэту веру
Сам у сабе я не аддам на злом.
Ні д'ябла не ўбаюся з ёй, ні рынку!..

...Той самы — з новай шыльдаю —
фасад.
А што з карніза трохі ўпала тынку —
Такой бяды. ДОМ устаяў. Віват!..

## КІПЛІНГ

Бянтэжыць вас мой гэты шрам! —
Ну што ж, была прыгода.
А шрам салдату толькі шарм,
Ён — як узнагарода.
І хоць салагі вы ўсяго,
Скажу я вам па-свойску:
Пашліце к д'яблу вы таго,
Хто не служыў у войску!

Бо ў спёку варыцца салдат,
А ў люты холад стыне.
Службы, чакай, куды загад
Цябе раптоўна кіне.
А ён шпурнуць, бывала, мог
Цябе, як камень, з прашчы,
Ледзь насарогу не на рог
І кракадзілу ў пашчу!

Вы мне не верыце! Ну-ну.
Вас жа вучылі ў школе:
Каб гэта мы вялі вайну
Аж недзе мо ў Анголе?
Ды недаўменне ваша ўшчэнт
Адразу ж я развею.
Хачу задаць (хто з вас студэнт?)
Пытанне грамацею.

Што ты сказаў? Імперскі час —
Час авантур — мінае?
Не тая ўжо краіна ў нас?
І армія не тая?
Хапіць палітыкі паспеў!
А ўсё ж скажы мне, браце,
Хто наш салдацкі гарт апеў
У вершы і ў баладзе?

Ды не, не тое ты згадаў —
Не трэба пра Грэнаду!
Нябось жа, Кіплінга чытаў!
Дык падкажы цытату:
«Пакінуў Джон свой дом і двор
На жонку маладую,
А сам сярод афганскіх гор
Ваюе, не бядуе».

Забыў? Не горшая з заган.
Хоць факт усім вядомы:
Прыходзіў пакараць Афган
Каланіяльны томі.
Ды там ён славы не здабыў —
Пра гэта кожны знае,
Бо ў штоніках кароткіх быў
У параўнанні з намі.

Нязваным госцем, небарак,
Быў Джон, а нас паклікаў
У свой Афган камрад Бабрак —
Пакончыць з іхняй клікай.
На троне ўчора іх Амін
Сядзеў, не ведаў страху,
А сёння ўжо яму амінь —
Душа ляціць к алаху.

Адно быў тонкі там разлік
Ды штурмавая група.
І раптам гэты гвалт і крык:
«Вы спрацавалі груба!
Аміна скінуў не народ!..»
Тады — паходным маршам! —
І загадаў нам: «Уперад!» —
Наш пяцізорны маршал.

І мы пайшлі. Афган, Афган!
Не раз я гэта зведаў —
Як агнявы наш ураган
Змятае маджахедаў!
Але стралялі і яны,
Бо ў іх таксама зброя!..
Дык што ж, рамантыка вайны
І ў гібелі героя.

Шкада загінуць маладым?
Так, паміраць пагана.
Але я не зайздрошчу тым,
Хто не прайшоў Афгана.
Не мне, хоць я вам друг і брат,
А Кіплінгу паверце:
Салдат на тое і салдат,
Каб не баяцца смерці.

Хоць пан, як кажуць, хоць прапаў —
Бывае і без весткі.
А нешта знойдуць там, дзе паў,
Дык падбяруць хоць рэшткі.
Бо, як душу, і тэй жа друз
Пад неба трэба ўзнесці,
Бо паляціць ён у Саюз —
Груз гэты «нумар дзвесце».

Бо ўжо таго, хто быў не пан,
Не проста борт чакае,
А «чорны (чуеце?) цюльпан»! —
Паэзія якая!
Ляціць у цынкавай труне
Герой вайны суровай
Да маці ў роднай старане,
Да любай чарнабровай.

І стане маці ўраз сівой:
«А сынку ты мой родны!»
І будзе біцца галавой
Аб сынаў цынк смяротны.
Афган! Іх не суцешыць нам,
Няшчасных нашых матак,
Тым, што найлепшы наш і там
Павінен быць парадак.

Што-што? На той маёй вайне
Было святога мала?
Вы асуджаеце мяне —
Імперскага капрала?
Ну так, пра вас ніхто цяпер
Не скажа — акупанты.
Бо нават на другі манер
Гучаць у вас каманды.

Не «шагом марш», а «крокам руш» —
Як быццам і няблага!
Ды кожны молад з вас і дуж,
І ў сэрцах — тая ж прага.
Дык вам бы зведаць акурат
І джунглі, і пустыні!
Але і ў стэп ужо загад
Раптоўна вас не кіне.

Вы тут, а недзе там — агонь.
Там д'ябальская стома.
І сотай долі вы таго
Не зведаеце дома.
Шкада, што я, салдат стары,
Не зразуметы вамі.
Чытайце ж Кіплінга, сябры,
І ўсё рашайце самі.

## СКАРЫНА. БУДУЧЫ ПОМНІК

На плошчы ці ва ўтульным скверыку
Табе сваю пашану аддадзім мы.
Калумб, сучаснік твой, адкрыў
Амерыку,
А ты для нас адкрыў Радзіму.

Не адбіраў зямлі ні ў кога ты.
Ды ў некага на цэлыя стагоддзі
Ты адабраў спакой: terra incognita! —
Няма такой зямлі дый годзе.

О Божа мой, што з дэпутатамі?
Як прагнуць, аж гатовыя да бою,
Закрыць, не раз чужынцамі распятую,
Зямлю, адкрытую табою.

Паўстанеш. Ды не шмат паломнікаў
Убачыш ты перад сабою ўнізе.
І манумент твой стане лепшым
помнікам
Апошняй беларускай кнізе.

## ЛЮДЗЯМ ПРЫГАСТВО




**Праблема беларускай мастацкай паштоўкі доўгі час здавалася невырашальнай. Абмяркоўвалася яна ў друку час ад часу апошнія мінімум 20 гадоў. Ракурсы два: нацыянальная адметнасць і мастацкі ўзровень. Вечнай праблемай была колькасць паштовак, якія на працягу года выпускаліся выдавецтвамі рэспублікі. Выпускала іх адно выдавецтва «Беларусь» мінімальнай колькасцю: адна на свята — 1 мая, 7 лістапада і г.д. Словам, за год у былой БССР выходзіла 5—6 паштовак. Параўнаем: у Латвіі ў тыя гады выдавалі каля 15. Такая была адметнасць культурнай палітыкі Крамля ў «нацыянальных рэспубліках».**

**А ці адбыліся змены ў незалежнай Беларусі? Адбыліся. Паштоўкі выдаюць некалькі выдавецтваў. Найвышэйшы сярод іх мастацкі ўзровень паштовак па-ранейшаму трымае выдавецтва «Беларусь». Сярод паштовак 1993 года, напрыклад, рэпрадукцыя жывапіснай сюррэалістычнай работы Міколы Селешчука, што не было магчыма колькі гадоў таму.**

**Нам жа хочацца звярнуць увагу на серыю з 4 паштовак, прысвечаных каляндарным святам: Раству (Калядам), Новаму году, Жаночаму дню і Вялікадню. Яркую, мастацкую адметнасць паштоўкам надаў матэрыял і тэхніка выканання арыгінала — выцінанка (мастацкая выразка з паперы). Аўтар — Ніна Сокалава-Кубай, ужо дастаткова вядомая мастачка, якая шмат зрабіла для развіцця мала папулярнага жанру. За апошні год у яе афармленні выцінанкай выйшаў адрыўны каляндар «Родны край», табель-каляндар «Выцінанка». Яе станковыя работы ў тэхніцы выцінанкі рэгулярна з'яўляюцца на рэспубліканскіх выстаўках апошніх гадоў творчага аб'яднання «Пагоня», таварыства народных майстроў. Ювелірная графіка, арыгінальнае кампазіцыйнае рашэнне і небанальныя ўзнёслыя паэтычныя тэксты (напрыклад, «Дзень добры! Ад душы табе маё «вітанне!», «Свята Вялічка — з чырвоным яечкам!» і да т.п.)**




**у спалучэнні з высокай паліграфічнай культурай зрабілі адзначаную серыю паштовак запамінальнай і адметнай. Гэты невялікі набор паштовак стаў добрым падарункам у мастакоўскім асяроддзі, для ганаровых гасцей. Мне даводзілася назіраць, якое захапленне гэтыя паштоўкі выклікалі ва ўдзельнікаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Інсітнае мастацтва», што адбывалася ў Мінску ў канцы траўня гэтага года, сярод гасцей якой быў вядомы мастацтвазнаўца А.Яцкоўскі — рэдактар часопіса «Польска штука людова». Аднак усіх гэтых якасцей аказалася мала для таго, каб адзначаны набор паштовак трапіў у шырокі продаж. Кнігагандаль і «Белсаюздрук» адмовіліся іх браць па прычыне таго, што, маўляў, «шырокі» пакупнік не зразумее». Выйшаў камплект у выніку абмежаваным накладам — 8 тысяч асобнікаў. І набыць іх можна толькі ў фірменнай кнігарні выдавецтва «Беларусь» у падземным пераходзе на плошчы Перамогі і ў кнігарні «Мастацтва» ў Мінску.**

**Хацелася, каб гэта прыкрая памылка гандляроў не паўплывала на лёс высокамастацкіх паштовак і іншых сувенірных выданняў у будучым. Камерцыйную кан'юнктуру, безумоўна, трэба ўлічваць. Але і не забываць пра мастацкі ўзровень прадукцыі, зрэшты — пра элітарныя выданні, якія вызначаюць узровень культуры гэтага жанру.**

**Генрых СІБІЛА**

Музыка

# «УЛ». ВОДГУЛЛЕ ФЕСТЫВАЛЬНАГА ВУЛЕЮ

***«Ул» («Ul») — назва твора, які ўпершыню прагучаў падчас III Міжнароднага фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». Другое выкананне «Ула» адбылося не так даўно ў Кіеве, на III Міжнародным форуме музыкі маладых. Аўтар твора, вядомы сваімі неардынарнымі мастакоўскімі доследамі Аляксандр Літвіноўскі, быў адзіным прадстаўніком Беларусі на гэтай прэстыжнай кампазітарскай імпрэзе...***

**— Ну і сціплы ж вы чалавек, Саша! Хто іншы дык даўно ўжо распавёў бы пра сваё «міжнароднае прызнанне». Ваш жа ўдзел у гэтым кампазітарскім форуме другі год запар — невыпадковасць. Ад Беларусі ў Кіеў запрасілі менавіта вас...**

— Мне было вельмі прыемна атрымаць персанальнае запрашэнне: гаспадары фестывалю, аказваецца, запомнілі п'есу, якую я прадстаўляў у Кіеве летась, — «Вір» для чатырох валторнаў. Выкананне яе было звязана з амаль анекдатычнай сітуацыяй: я вымушаны быў пакінуць залу адразу пасля выканання сваёй п'есы, бо пазніўся на цягнік, і таму не паспеў атрымаць непасрэдную ацэнку гэтага твора ад маіх калег. Я сядаў у вагон, параўноўваючы ўласную скруху са станам самалёта, які рэзка спынілі пасля прызямлення, быццам пазбавілі пасадачнай паласы. Таму, атрымаўшы сёлета запрашэнне ў Кіеў, я вельмі ўзрадаваўся і ўжо спланаваў час, каб не з'язджаць у дзень сваёй прэм'еры. Камандзіраваў мяне Саюз кампазітараў Беларусі.

**— Пагартаўшы фестывальны буклет, няцяжка пераканацца, што гэта быў не колішні ўсесаюзны семінар творчай моладзі, перайменаваны ў міжнародны, а панавартасны прадстаўнічы форум кампазітараў з усяго свету.**

— Дзіўна, праўда? Нягледзячы на самую неспрыяльную эканамічную сітуацыю на Украіне, арганізатарам гэтага фестывалю — Цэнтрмузінфарму, Саюзу кампазітараў Украіны ўдаецца знаходзіць сродкі, далучаць спонсараў, развіваць кантакты з многімі ўстановамі ў Еўропе, Японіі, ЗША. Была наладжана вялікая колькасць канцэртаў, з цудоўнымі выканаўцамі. Украінскі бок узяў на сябе абавязак выконваць творы, ноты якіх аўтары высылалі загадзя. Вядома, што калі сустракаюцца людзі адной прафесіі, ім ёсць пра што пагаварыць. А тут жа яшчэ было цікава паслухаць адно аднаго: фестываль дае магчымасць адчуць сябе ў жывым кантэксце музычнай культуры, выправіцца ў тыднёвае плаванне па гэтым моры мадэрнізму, пазнаёміцца з музыкай, якую можна ўспрымаць як пэўны рубеж чалавечай думкі ў сучасны момант, бо гэта ж — «самае-самае», што сёння ствараецца ў свеце!

**— Вас на фестывалі ўспрымалі ўжо як свайго: нямала было сярод удзельнікаў леташніх знаёмцаў...**

— Так. Не ўпершыню ўдзельнічалі ў форуме, прынамсі, украінскія кампазітары. Ці вось калега з Македоніі Гоца Каляроўскі: мы вельмі з ім пасябравалі, ягоная аркестравая п'еса, дарэчы, мела поспех. Гоца — дырэктар фестывалю «Дні македонскай музыкі», таму, думаю, ён прысутнічаў сярод нас не толькі як аўтар, але й як асоба, неабыякавая да ўзроўню сучаснай музыкі ўвогуле. Праграма фэсту дазваляла рабіць пэўныя абагульненні ды параўнанні. Я, напрыклад, з вялікім задавальненнем слухаў кожны канцэрт, хаця да такой імпрэзы нібыта рыхтуешся загадзя насцярожліва, бо ведаеш, што гэтую музыку трэба вельмі ўважліва слухаць, яна вымагае велізарнага напружання, нават, я сказаў бы, асабістага ўдзелу ў яе ўспрыманні.

Спадабалася музыка ўкраінскіх аўтараў. Запомніліся імёны Аляксандра Шчацінскага ды Аляксандра Грынберга. Уразіў цыкл Марыны Дзенісенкі для фартэпіяна, флейты і сапрана, а таксама опус Яўгена Касціцына для чатырох саксафонаў, прысвечаны Кіеўскаму квартэту саксафаністаў. Вікторыя Палявая, пекная дзяўчына, у якой з вонкавага ўражання цяжка ўгледзець глыбакадумнага аўтара, прадставіла свой хэпенінг «Самотныя прагулкі». Мадэль, безумоўна, не новая, у нейкім сэнсе інсціраваная фільмам «Рэпетыцыя аркестра» Феліні. Але гэта зроблена цікава. Калі аркестранты пачынаюць размяжоўвацца і дзеянне на сцэне набліжаецца да чагосьці хаатычнага, наспявае нейкі пратэст, раптам з'яўляецца сам аўтар і кажа: «Стоп!», і пачынае граць строгі харал, а з ім ва унісон — усе, як бы злучаныя актам тварэння. Камерная сімфонія Уладзіміра Рунчака ўразіла вось такой знаходкай: рэха інструментаў са сцэны раптам пачало гучаць... за спінамі гледачоў! Здалося, што ўключылі стужку, але аказалася, ішоў жывы гук! Музыку, вядома, трэба слухаць, таму я спыняю пералік, бо ён будзе бясконцы: кожны з маладых украінскіх творцаў карыстаецца сваёй палітрай, імкнецца працаваць у сваёй акрэсленай музычнай прасторы.

**— А памятаеце, Саша, калі ў Мінску праходзіў фестываль сучаснай музыкі, адзін маскоўскі кампазітар «укусіў» разам усіх вашых калег, сказаўшы, што, маўляў, ён быццам прысутнічае на фестывалі «Маскоўская восень», бо не адчувае беларускай адметнасці і да т.п. А вы можаце сказаць, што на кіеўскім фэсце адчувалася адметнасць украінскай школы? Што японская, ці паўднёвакарэйская, ці французская школа рознілася сярод іншых?**

— Адказаць вельмі цяжка, бо гэта — праблема веку: к 90-м гадам нашага стагоддзя, калі вельмі многае уніфікавана ў музыцы такога кшталту, цяжка ўгледзець нацыянальныя тэндэнцыі. Зрэшты, калі мы гаворым пра эпоху класіцызму, дык цудоўна разумеем, што ў тагачаснай стылістыцы таксама былі нейкія стандарты, якім трэ было адпавядаць, і толькі геніяльным кампазітарам удалося пераадолець агульнапрынятыя нормы, дзякуючы чаму мы іх і ведаем як індывідуальнасці. Такіх — адзінкі ў гісторыі сусветнай культуры. Аднак ёсць так званая сучасная музыка, і яна прайшла агромністы шлях у сваім развіцці, яна мае пэўныя вынікі, і мы павінны іх ведаць, валодаць адпаведным пісьмом на ўзроўні стандартаў — я не баюся гэтага слова — і для таго, каб не губляцца ў асяроддзі стандартаў, і каб вучыцца надзяляць опусы нейкімі індывідуальнымі рысамі. Але гэта працэс неверагодна складаны. А праблема застаецца: чым сёння галандская музыка адрозніваецца ад англійскай — вельмі цяжка вызначыць, асабліва сходу.

**— Але ж нельга сказаць, што ў Кіеве на канцэртах гучала «адна вялізная музыка»?**

— Вядома! З'ехаліся досыць маладыя кампазітары, але моцныя прафесіяналы, адукаваныя ў некалькіх універсітэтах і музычных акадэміях: з Даніі, Вялікабрытаніі, Нідэрландаў, Ізраіля, Іспаніі, Македоніі, Германіі, Паўднёвай Карэі, ЗША, Францыі, Швейцарыі, Чэхіі, Шатландыі, Швецыі, Японіі... Была прадстаўлена каласальная палітра кампазітарскіх сродкаў. І адчувалася, што

# КАБ СПРАЎДЗІЦЦА ХОЦЬ АДЗІН РАЗ...

*(Пачатак на стар. 1)*

**— Алег, а як ты сам пра сябе мяркуеш?**

— Я сам пра сябе мяркую як пра... рамантыка. І не саромлюся даводзіць да сентыментальнасці, абвостранай пачуццёвасці свае дзеянні на сцэне. А чаму не? Людзі амаль пазбаўлены шчырых, моцных пачуццёвых праяў у жыцці, смяюцца, здзекуюцца з іх, саромеюцца іх, называюць несучаснымі, тэатральнымі. А часам так заціскаюць сябе, што не бачаць розніцы між слязьмі шкадавання ды слязьмі абурэння, хоць падсвядома адчуваюць... прынамсі пазнаюць іх на сцэне. Усё адно як спраўджваюцца на сцэне праз артыста. Я часам так і мяркую пра свае сцэнічныя дзеянні — як пра дапамогу гледачам. Дарэчы, мне заўжды было дзіўнавата паказвацца ў вобразе сцэнічнага героя, — а я ў тэатры працую з 1987 года. Уяўляў і ўяўляю сябе ў характарных ролях, мяркую нават, што «геройскае» абыходжанне са мною — не ад добрага жыцця, — а менавіта ў жыцці нам усім бракуе калі не героя, дык хоць якой гераічнай праявы.,.

**— Што ж. На сцэне ты калі і не герой, дык рамантык — часцяком. І ў ролі авантурыста Мёбіўса («Дзялок» А. Талстога), і ў ролі бога Юпітэра («Амфітрыён»), які, нягледзячы на паскубаны, пасечаны тэкст, усё-такі разумеецца і з публікаю, і з Алкменаю Ганны Маланкінай; нават у ролі духоўнага недаверка Франца («Браты Маоры» паводле Шылера) вядзе рэй твая акцёрская індывідуальнасць, пад абаянне якой вельмі цяжка не падпасці... Дзе ты навучыўся гэтаму пастаянству?**

— У Валгаградзе. У звычайнай тэатральнай вучэльні.

**— А дзе набыў такую адметную спеўную падрыхтоўку, — усе твае героі хораша спяваюць на сцэне... тваім уласным, нефанаграмным голасам...**

— А першы тэатр, які запрасіў мяне працаваць — Валгаградскі тэатр музычнай камедыі. Я пачаў выходзіць на падмосткі музкамедыі яшчэ студэнтам і вельмі пакутаваў праз яе падкрэслена штучную, надта тэатралізаваную эстэтыку. Драматычная сцэна больш адпавядае маім магчымасцям. А самым драматычным сталася для мяне патрэба спалучыць улюбёную эстраду з тэатрам, які я таксама люблю. Калі я на эстрадзе, мне зусім не хочацца, каб усім калоў вочы мой драматычны гарт, мне зусім не хочацца... тэатральнічаць, часам насуперак таму, што з мяне вымагаюць, — ты, маўляў, артыст тэатра, утвары, маўляў, што-небудзь гэткае...

**— Я памятаю твой вобраз на конкурсе «Ялта-90»: высокія, да каленяў, боты, кашуля з фальбонамі, доўгія дагледжаныя валасы. Твой тэатральны вобраз, кажу шчыра, не такі ўзнёслы. Ён... заклапочаны, азадачаны, нават абцяжараны... Як, дарэчы, ён дапяў да падмосткаў рускай сцэны Беларусі?**

— За дзве ролі, як за лепшыя ролі сезона, я атрымаў прыз Краснаярскага тэатра, у якім працаваў пасля Валгаграда: камандзіроўкі ў тры гарады, дзе ніколі яшчэ не быў. У межах магчымага, вядома. І я абраў Кіеў, Мінск і Маскву (толькі таму, што праз яе трэба было да адзначаных гарадоў дабірацца). Мінск даўнавата ўжо вабіў мяне: паміж Мінскам ды Краснаярскам, трэба сказаць, ёсць цікавая сувязь. Напрыклад, Міхаіл Кавальчык ды Рыгор Баравік, з якімі ў мяне былі звязаны пэўныя творчыя планы, гэтую сувязь выявілі. Не схаваю, што на час свайго з'яўлення ў Мінску я меў ужо запрашэнні ад Ярмолаўскага і Мала-

еўрапейскія кампазітарскія школы ў прынцыпе адрозніваюцца ад амерыканскай. Ды, як гэта ні дзіўна, мне было асабліва блізка тое, што робяць у музыцы кампазітары ЗША — прынамсі, Кэвін Мэлоўн, абаяльны чалавек, сапраўдны прафесіянал, які мае ў сваё 35 ступень доктара кампазіцыі, атрыманую ў Лонданскім універсітэце. Ён прадстаўляў вельмі цікавую п'есу: «Вось так прыходзіць нешта д'ябальскае». Праграмай гэтай п'есы сталася сярэдняевечнае прадстаўленне пра вядзьмарак і разгул інквізіцыі. Напісана яна ў мінімальнай тэхніцы на сутыку зусім розных напрамкаў: ад класічнай традыцыі да джазу й нават рока. Досыць «чорны» змест твора, але кожная з частак базуецца на папулярнай вакальнай форме: блюз, баркарола, рапсодыя, ламентацыі. І вынік — цудоўны. Невыпадкова твор Мэлоўна быў рэкамендаваны Бі-Бі-Сі для папулярызацыі шляхам шматлікіх трансляцый. Між іншым, Кэвін Мэлоўн сказаў, што музыка не павінна патураць тваёй унутранай дэпрэсіі, яна не павінна цябе прыгнечваць, ціснуць, у ёй мусіць быць элемент вытанчанага, элемент легкадумнага — пры самых, здавалася б, трагедыйных канцэпцыях. Мне вельмі блізкі такі погляд, і я з прыемнасцю слухаю касету, якую падарыў мне амерыканскі калега.

**— Ну, а вы на гэты раз прадстаўлялі «Ул». Ці вас прадстаўляў «Ул»...**

— Калі мне прапанавалі прадставіць на фестывалі якую-небудзь інструментальную п'есу, я адразу вырашыў: будзе «Ул». Гэта, па-першае, мой самы свежы твор. Па-другое, гэта струнны квінтэт, а летась я дэбютаваў у Кіеве опусам для чатырох валторнаў, так што падалося лагічным паказаць, па кантрасце да духавых, струнныя інструменты. Праўда, п'еса «Ул» напісана ў алеатарычнай манеры, г.зн. партыя кожнага выканаўцы гучыць у індывідуальным рэжыме часу. І калі я адсылаў ноты, дык думаў, што давядзецца, прыехаўшы ў Кіеў, самому падключацца да рэпетыцый, распавядаць выканаўцам, што я меў на ўвазе, бо партытура нестандартная. Але прыехаўшы і ўпершыню сустрэўшыся з квінтэтам струнных пад кіраўніцтвам Ігара Андрыеўскага, я быў проста ўзрадаваны. Ігар Андрыеўскі (ён таксама кіруе ансамблем салістаў Кіеўскай кансерваторыі) — выканаўца, які любіць і адчувае сучасную музыку, надзіва тонкі музыкант, ён з вялікай адказнасцю паставіўся да партытуры «Ула». А на канцэрце так выбітна выконваў сола 1-й скрыпкі, што п'есу можна было ўспрыняць як напісаную для сола і струннага квартэта.

**— Колькі слоў пра «Ул», калі ласка...**

— «Ул» (заходнебеларуская назва вулею) — у нейкім сэнсе канцэптуальная кампазіцыя. Зразумела, вулей — гэта метафара, змест якой можа распаўсюджвацца найшырока: ад механікі «броўнаўскага руху» да складаных макрапрацэсаў у Сусвеце. Міфалагічныя карані вядуць да старажытных, дахрысціянскіх абрадаў пахавання. Пчолы — сімвал чалавечых душ, якія існуюць у вечным вакууме царства Аіда — вуллі. Музычна гэта адлюстроўваецца ў комплексе санорных эфектаў струннага ансамбля — ажно да ілюстравання пчалінага гуду. Пчолы суправаджалі старажытнагрэцкую багіню Персефону, што сышла пад зямою ў царства ценяў — і гэта было ўвасоблена ў музычнай меладраме Ігара Стравінскага. Як бачыце, я пэўным чынам улічыў і традыцыі. Можна спаслацца і на оперу Глюка «Арфей ды Эўрыдыка»: герой таксама трапляе ў замагільны свет, каб вярнуць да жыцця Эўрыдыку. Самы трагічны момант оперы — арыя Арфея «Страціў я Эўрыдыку», напісаная, як вы памятаеце, у светлым до мажоры. Надзіва спакойная кантыленная мелодыя робіцца ўвасабленнем трагічнага! Гэты парадокс мяне заінтрыгаваў невытлумачальнай глыбінёю, і я таксама ўключыў у п'есу «Ул» стылізаваную рамантычную до мажорную канцанету, якая ўзаемадзейнічае з санорным, «авангардным» матэрыялам. Зала ацаніла максімальную эмацыянальную аддачу выканаўцаў, і, здаецца, я ўпершыню ў жыцці адчуў каласальную хвалю цеплыні, што ішла ад слухачоў.

**— Што ўвогуле можаце сказаць пра публіку?**

— На такіх імпрэзах заўжды прысутнічаюць спецыялісты, строгія крытыкі, калегі-кампазітары, журналісты, проста зацікаўленыя музыканты. Мне падалося, што былі яшчэ й людзі, не звязаныя прафесійна з музыкай, бо рэзананс гэты фестываль меў немалы. Канечне, праблема публікі ёсць, але не толькі на Украіне ці ў нас, а і ў Еўропе, бо ва ўсім свеце сучасная музыка не карыстаецца асаблівым масавым поспехам. Яна і не павінна быць папулярнай. Гэтая музыка прэтэндуе на тое, каб быць у авангардзе. Гэта вынік шматвяковай эвалюцыі музычнага мастацтва, які здатныя ацаніць дасведчаныя. Тым не менш, залы ў Кіеве не пуставалі. Дарэчы, дзівоснае месца было знойдзена для правядзення фестывалю. Паблізу опернага тэатра ў адным з кіеўскіх дворыкаў туліцца двухпавярховы будынак — Дом вучоных, дзе ёсць канцэртная зала і мноства гасцёўняў, у якіх, да ўсяго, праходзілі прэс-канферэнцыі ды фуршэты. Быў гэткі «багемны вулей». Два канцэрты прайшлі ў Вялікай зале кансерваторыі.

**— Вы сказалі пра прэс-канферэнцыі: значыць, была ў праграме й чыста размоўная частка фестывалю? У нас жа апошнім часам праблема з гэтым «размоўным жанрам». За «круглым сталом», як правіла, пасляфестывальным, кампазітараў часцяком няма, музыказнаўцы ладзяць абгаварэнне пераважна паміж сабой...**

— У Кіеве такога не было. Усе з вялікім задавальненнем наведваліся на «круглыя сталы», мо таму, што яны ладзіліся падчас фестывалю, а не пасля, як у нас. Усе госці прысутнічаюць, і ўсім хочацца абмяняцца думкамі, бо і ехалі ж у Кіеў, каб апынуцца ў музычнай атмасферы, пагаманіць. Наогул, калі збіраюцца кампазітары, эмацыянальны фактар можа дамінаваць над рацыяй. Асабістая пазіцыя аўтара, з ягонага гледзішча — абсалютная, можа быць адкарэктавана «збоку». Можна ж стварыць адно, а распавесці пра гэта зусім іншае! Але ж кампазітар каштоўны ўжо тым, што ён стварае прадмет эстэтычнага, які, можа, зусім і не мае патрэбу ў каментарыі. Ды ўсё ж цікава пагаварыць, папрэтэндаваць на ролю крытыка, тым больш, што ў дыскусіях актыўна ўдзельнічалі крытыкі прафесійныя. Дыяпазон тэм, прапанаваных для дыскусій, быў неабдымны для паўтарагадзінных пасяджэнняў. Напрыклад: сам прадмет музыкі, што гэта такое, чаму кампазітар піша менавіта гэтак, а не інакш, што ёсць вербальнасць, ангажаванасць сацыяльнай функцыі музыкі. Бясконцыя праблемы! Натуральна, што немажліва было ўкласціся ў часавыя межы, тым болей, калі ў дыскусіях літаральна ўсе былі актыўныя, эмацыянальна шчырыя, часам узбуджана дэкляравалі свае эстэтычныя прынцыпы. Літаральна «рваліся» ў палеміку!

**— Але ж сабралася разнамоўная публіка...**

— Усе дыскусіі вяліся па-ўкраінску, з паралельным перакладам на англійскую. Прыватныя гутаркі вяліся, натуральна, па-англійску. Зноў пераканаўся: трэба вучыць мовы. Гэта важна і карысна. Не мне гэта, канечне, казаць, бо сам ніякавата пачуваўся са сваім веданнем. Ды ўсё ж, хоць неяк...

**— Відавочна, Саша, вы знайшлі агульную мову з калегамі. Ці можаце сказаць, што кампазітараў з розных краін, але аднаго пакалення, займае нешта агульнае?**

— Згадваю адну з дыскусій, дзе мноства пытанняў было наконт гэтага. Прынамсі, такое: ці з'яўляецца выкарыстанне той або іншай тэхнікі мастацкім творам, ці гэта толькі практыкаванне? Пытанне складанае. Але я для сябе адказваю зусім проста: калі музыка мне падабаецца, калі яе можна слухаць і адчуваць, як у табе нараджаецца нешта, — дык гэта цудоўна, і гэта — маё. Калі не, дык не: у якой бы тэхніцы гэта ні было напісана, але калі гэта нудна... Нудота ж узнікае пераважна тады, калі аўтар мае праблемы з музычным часам. Недасканаласць у часе — гэта смерць твора. Калі ён расцягнуты, хаця й цікавы, твор пачынае забіваць сам сябе. Павінна быць гармонія ўсіх складнікаў цэлага. І толькі тады, калі такая гармонія аплоднена талентам, можна казаць пра рэальны мастацкі плён. Можна, канечне, разважаць пра «унікальна-непаўторнае» існаванне ў часе кожнага індывіда-кампазітара, але варта зрэдчас яшчэ ўспамінаць, што гэтаксама існуюць псіхалагічныя законы чалавечага ўспрымання, агульныя для ўсіх. Немалаважны й феномен выканаўчага мастацтва: часам высакакласнае выкананне можа не проста ўратаваць слабую партытуру, але і прымусіць публіку думаць, што яна спрычынілася да шэдэўра. Такое бывае.

**— Пэўна, вы бавілі час з калегамі не толькі ў прафесійнай гамане. Што можаце сказаць пра людзей, з якімі спаткаліся на фестывалі?**

— Безумоўна, я кантактаваў з людзьмі, для мяне прыемнымі, з якімі ў нас былі агульныя інтарэсы. Мне сімпатычныя людзі ў нейкім сэнсе легкадумныя, але толькі з першага погляду. Людзі дасціпныя, іранічныя, з якімі заўжды прыемна бавіць час. Людзі, якія не ўяўляюць з сябе «сасуд сусветнай журбы» або «дакор усяму чалавецтву». Пабольш лёгкасці ў думках! Асабліва калі гэткая «легкадумнасць» — толькі вонкавы пласт зносінаў, а піша чалавек досыць сур'ёзныя опусы, часам трагедыйныя. Я паважаю такое «моцартыянства». Дарэчы, калі вы глянеце ў праграмы фестывалю, заўважыце, што многіх кампазітараў — і ўкраінскіх, і заходніх — хвалююць тэмы вельмі глыбокія. Паняцце смерці, напрыклад, фігуруе ў некалькіх анатацыях. Аўтары ж твораў з выгляду — надзвычай жыццярадасныя, усмешлівыя людзі. Я лічу гэта адзнакай высокай культуры — не выторкваць свае праблемы на побытавым узроўні, а ўвасабляць іх у эстэтычным аспекце. Так павінна быць. Гэта добры тон.

Дарэчы, пра добры тон. Я не сказаў яшчэ, што ў праграму авангарднага форуму быў мудра ўключаны канцэрт музыкі класічнай: Бах, Вівальдзі, Брух, Бізэ. Яскравае ўражанне! А выконваў гэтую музыку Кіеўскі маладзёжны аркестр Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы імя Лысенкі пад кіраўніцтвам Сяргея Пратапопава. Калі граюць юныя, але ўжо высокапрафесійныя музыканты — гэта вельмі кранальна. Тут адсутнічае нейкая «накатанасць», самаўпэўненасць, заштампаванасць, а ёсць дзівосная непасрэднасць, здатная ўразіць сэрца. Асабліва ў кантэксце музыкі сучаснай, якая грунтуецца на дысанансе і настройвае на зусім іншы лад... І раптам ты чуеш Баха... Гэта — як адкрыццё! Ну, а ў канцэрце цудоўнага піяніста Ёжафа Ерміня побач з сучаснымі творамі гучалі Варыяцыі Рахманінава на тэму Карэлі, што таксама аздобіла праграму. Дарэчы, македонскія кампазітары, уражаныя, як і ўсе, Кіеўскім маладзёжным аркестрам, папыталі ў мяне, ці ёсць аналагічны калектыў на Беларусі. І я з прыемнасцю назваў наш знаны струнны аркестр ліцэя пры Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна.

**— Саша, другі год запар вы прывозіце з Кіева цэлы букет прыемных уражанняў. Пэўна ж, аўтара «Ула» запрасілі й на 3-ці фестываль?**

— Прымхлівасць не дазваляе мне гаварыць пра далейшыя планы і творчыя прапановы. Буду спадзявацца, што час паспрые іх рэалізацыі.

**— Дзякуй за размову.**

**Гутарыла С.БЕРАСЦЕНЬ**

---

дзёжнага (былога Цэнтральнага дзіцячага) тэатраў Масквы. Але не схаваю і таго, што дзвюх хвіляў першага знаёмства з Барысам Луцэнкам мне хапіла, каб пераканацца: мусім папрацаваць разам. Дачыненні нашы, вядома, складаюцца няпроста, але — трэці год ужо...

**— Звычайна ўсім маім калегам ты распавядаеш, што тэатр, у якім ты працуеш — найлепшы ў свеце і ў цябе самае найлепшае звязана з ім і толькі з ім...**

— Ну... «ЛіМ» — газета, якую чытаюць, так бы мовіць, толькі свае, дасведчаныя, абазнаныя, і для «ЛіМа» варта выказацца шчыра. На жаль, за тры гады я не здолеў ні спраўдзіць, ні агораць штосьці такое, чым бы здаволіўся сам. Я нават не адчуваю таго, што безумоўна патрэбны свайму тэатру. Мо гэта мой крызіс? Я даўнавата ўжо не ставіўся да працы, як да свята. Увесь імпэт, усе вымогі, так бы мовіць, ідуць на «сам тэатральны працэс». Пэўна, гэта натуральна: я сталею. Але, сталеючы, чамусьці выдаляю са сваёй справы... таямніцу. Можна спасылацца на «не сваю» рэжысуру, рыхтык як рэжысура часцяком наракае на «не свой» акцёрскі склад. Але я заўжды ўяўляў свой тэатр у вельмі розных рэжысёрскіх праявах, у надта размаітай сцэнаграфічнай стылістыцы, — каб жарынкі сыпаліся ад іх судакранання, каб людзі як мага дачыняліся па справе, увасабляючы хай сабе не новыя, але дыхтоўныя тэатральныя ідэі. Дзеяння, дзеянняў я прагну...

**— Ці не таму сёй-той папікае цябе тваім поспехам, а то і вінаваціць у праявах зорнае хваробы?**

— Праўда, я бываю нястрыманым, магу паспрачацца, а то і пасварыцца з рэжысёрам, магу даводзіць сваю рацыю, калі мяне не здатныя пераканаць у чыёйсьці рацыі. Праўда і тое, што я зрабіўся больш стрыманым, гнуткім. Навучыўся не толькі слухаць, але і ўслухвацца, углядацца, успрымаць адценні, інтанацыі, дробязі. Няхай кажуць, што я капрызлівы, ганарлівы, наравісты, жорсткі. Гэта — з-за акцёрскай патрабавальнасці. Перад гледачом штовечар быць мне. І таму ў тым, што папярэднічае майму з'яўленню перад гледачом, я вымагаю даверальных дачыненняў. Каб са мной не гулялі ў аўтарытэты ды працу, а працавалі. У мяне, на жаль, няма дару безадмоўнага падпарадкавання. Я проста губляюся, калі на мяне павышаюць голас, і аўтаматычна адкажу так, што жаданне прыніжаць ды крыўдзіць мяне знікне надоўга. Увогуле... незалежнасць у жыцці вымагае незалежнасці на сцэне. Я ведаю, што будучая мая справа — гэта рэжысура. А мне трэба яшчэ вучыцца вакалу, пластыцы, гартавацца ў драме і хочацца — у лепшых педагогаў, хочацца хутчэй, каб не губляць часу на арганізацыю свайго існавання, на побыт... У нашай краіне трэба жыць некалькі жыццяў, каб хоць адзін раз спраўдзіцца напоўніцу. Таму мне вельмі не стае... жыцця: творчых запатрабаванняў да яго вельмі шмат. Ні з мільгаценнем, ні з мітуснёю я іх ужо не зблытаю. А ў Беларусі тэатральны рытм не тое каб спакойны. Ён млявы. Невыразны. Няпэўны. Ставяць штосьці таму, што... у тэатры ж трэба штосьці ставіць. Таму і стан тэатра, і становішча — неакрэсленыя, нетрывалыя. Згадваю сваіх калег з купалаўскага тэатра ў спектаклі «Ідылія», — не тое каб з зайздрасцю. Я, хутчэй, увачавідкі пераконваюся, якім мусіць быць спраўны, дыхтоўны спектакль — улюбёнец публікі (і, дадам, крытыкі): першнаперш — зразумелы і думкамі, і іх увасабленнем. Рэжысёр, які давёў такі спектакль да сцэны, вельмі высокай думкі пра тых, хто сядзіць у зале і, галоўнае, не сумняваецца ні ў іхніх пачуццях да Радзімы, ні ў пачуцці гумару.

**— Ты пэўна ўяўляў сабе сваю тэатральную кар'еру?**

— Бадай, не. Я заўжды бачыў сябе ў атачэнні іншага кшталту. Пачынаў працаваць амаль са школы ў добрай рэстарацыі, спяваў і не дзяліў сцэну на эстрадную, оперную або драматычную. Артыст уяўляўся чалавекам, які ўмее ўсё і здатны на ўсё. Праз гады разуменне акцёра ўвабрала ў сябе і маё пісанне апавяданняў ды вершаў, і заняткі музыкаю, і складанне тэкстаў для эстрады. Часам, апраўдваючыся перад сабою, думаю, што артыст — гэта не той чалавек, які прыходзіць у 11 гадзін на рэпетыцыю, а ў 19 гадзін — на спектакль. Мой лад жыцця... мітрэнгавы, неўразумелы, звязаны з прадчуваннямі, з касмічнымі штуршкамі, з прароцтвамі ў сне... Аднаго разу ўлюбёная бабуля ў сне паказала мне газету, а там накрэслена: «Не ссоўвай бровы і не моршчы лоб, калі гаворыш пра мастацтва...»

**— Цаню ваша сямейнае пачуццё гумару.**

— Зрэшты, я да мастацтва стаўлюся надта сур'ёзна, каб яшчэ і сур'ёзна пра яго разважаць. Не ведаю, што такое артыст, што такое тэатр, мала разбіраюся ў мастацтве. Таму што вялікія догмы і вялікія традыцыі мне аднолькава чужыя. Таму заўжды там, дзе я працую, утвараецца пэўны канфлікт. Напрыклад, у эстраднай музыцы, няхай даруюць мне калегі, вядуць рэй тыя, хто патурае нявыхаванаму густу і, перапрашаю, сённяшняму стану нашай краіны. А я сябе... хаваю. Балазе, працую з выдатнымі музыкамі. З Канстанцінам Гарачым, аранжыроўшчыкам і піяністам аркестра знанага Міхаіла Фінберга, дарэчы, сынам цудоўнага акцёра, майго калегі па рускай сцэне Беларусі Эдуарда Гарачага, з гітарыстам Аляксеем Севярынцам, з Андрэем Жукавым, — легендаю эстрады... Мінск вабіў мяне проста магнэсам — ці не таму, каб я сустрэў такіх прафесійных людзей? Такіх, як артыст рускага тэатра Аляксандр Ткачонак, — артыст з ласкі Божай і, што зусім рэдка бывае, прыстойны чалавек. Увогуле на Беларусі, у Мінску я сябе знайшоў. Людзі тэатра разумеюць, наколькі моцныя расійскі тэатр (напрыклад, Краснаярска, Іркуцка, Екацярынбурга), а расійскі тэатр у нерасійскай рэспубліцы мусіць ды мусіць сябе... рабіць, шукаць, здзяйсняць, хай сабе і ў самых спрыяльных, добразычлівых умовах. А пра Мінск яшчэ мяркуюць, як пра прэстыжны горад, — для мяне ён ідэальны. На жаль, я не грамадзянін рэспублікі Беларусь і не спадзяюся ў хуткім часе атрымаць гэтае грамадзянства, — яго трэба зарабіць разам з хоць якім жытлом. Але жыць у Мінску — значыць, мець пастаянную магчымасць для прафесійнага дасканалення, бо сузор'я такіх акцёрскіх сіл шукаць ды шукаць! І я мару спраўдзіцца сярод іх!

**Гутарыла**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АД СТАРАЖЫТНАСЦІ...

**да канца XVIII стагоддзя разглядае гісторыю музычнай культуры Беларусі вядомая даследчыца Вольга Дадзіёмава ў сваёй новай кніжцы. Кніжка, як і ўсе выданні адраджэнскага кшталту, — унікальная. Па сутнасці, гэта першы падручнік па старабеларускай музычнай культуры для сярэдніх навучальных устаноў гуманітарнага профілю і ў той жа час — каштоўны й зручны ў карыстанні дапаможнік-даведнік для выкладчыкаў, дый для ўсіх, каму патрэбна адмысловае «настольнае выданне» па адпаведнай галіне ведаў. Апроч таго, у кніжцы ёсць нотны дадатак: творы Вацлава з Шамотул, Міхала Казіміра Агінскага, Восіпа Казлоўскага, Мацея Радзівіла...**

**Але хай не спяшаецца чытач у кнігарню: паўтары тысячы падручнікаў хапіла хіба толькі каб задаволіць непасрэдных адрасатаў — гуманітарныя ліцэі. А калі б і пашанцавала каму ўпаляваць асобнічак, дык давялося б выкласці за далікатную кніжачку аж 18 тысяч (мізэрны тыраж, вядома, павялічвае кошт).**

**Вядома, Беларускаму гуманітарнаму адукацыйна-культурнаму цэнтру трэба пакланіцца за тое, што ягонымі намаганнямі ў сённяшніх неспрыяльных для паліграфіі ўмовах з'явіўся доўгачаканы падручнік па старадаўняй гісторыі беларускай музычнай культуры. Але дзіўна, што да гэтай акцыі не падключыліся іншыя руплівцы нацыянальнай культуры, што нашы масцітыя гісторыкі музыкі не «прабілі» выданне працы сваёй калежанкі на больш масавым узроўні. Як бы спатрэбілася «Гісторыя музычнай культуры Беларусі» ў шматлікіх музычных школах рэспублікі, дзе — о, бязглуздыя парадоксы нашай рэчаіснасці! — адпаведны курс вымушаны былі... скараціць (?!). І толькі таму, што... няма падручнікаў (?!) Дык ці захоча хто цяпер фінансаваць дадатковы тыраж гэтага выдання (а яго яшчэ можна паўтарыць) спецыяльна для музычных школ, у праграме якіх ужо няма самога прадмета вывучэння?..**

**Застаецца ўсё ж надзея, што ў нашай маладой дзяржаве знойдуцца цвярозыя галовы і паклапоцяцца пра гэты крохкі парастак музычнага адраджэння. Іх жа, новых парасткаў, пакуль зусім нямнога на ніве нашай культуры, грунтоўна патаптанай неабачлівымі «гісторыкамі». Аднак жа і дылетанту мусіць быць зразумела, што не мець падручніка па гісторыі музычнай культуры свайго краю — проста сорам. Але мець яго ў колькасці паўтары тысячы — таксама невялікі гонар. «Гісторыя...» В. Дадзіёмавай, не паспеўшы выйсці ў свет, ужо мае патрэбу ў перавыданні...**

**С. ВЕТКА**

## НА ВЁСКУ З... МІХАСЬКАМ

**Не адно пакаленне дзетак радуе паэма народнага песняра Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды», у якой, як вядома, расказваецца пра тое, што перажыў гарадскі хлапчук, прыехаўшы на лета ў вёску. І вось чарговае перавыданне «Міхасёвых прыгод». Гэтым разам — у выдавецтве «Юнацтва» (мастак А. Шэвераў). Кніжка выпушчана ў серыі «Бібліятэка дзіцячага сада».**

## ВЫТОКІ МАЛАДОСЦІ



**Сотні прыхільнікаў творчасці заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь віцябчаніна Івана Арцёмавіча Серыкава сабраліся днямі на ўшанаванне 75-гадовага юбіляра.**

**Сваё жыццё педагог, балетмайстар Іван Арцёмавіч Серыкаў прысвяціў харэаграфіі. 26 гадоў кіраваў ён ансамблем «Маладосць». У свае 75, з якіх 55 аддадзены танцам, Іван Арцёмавіч малады, бадзёры, поўны здароўя і энергіі.**

*На здымку: І.А.Серыкаў прымае віншаванні з нагоды юбілею.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ**

# У ВЯНОК КАХАННЯ

Мастацтва моцна трымае іх у сваіх абдымках. Абодвух. Знітаваўшы іх творчыя лёсы адзіным жыццёвым. Аднак наладжаная ў віцебскай выставачнай зале Саюза мастакоў экспазіцыя — іх першая сумесная выстава. У работах, прадстаўленых на ёй, Іван і Тамара Лісіцы паўстаюць як роўныя, своеасаблівыя і незалежныя творцы.

Графіка Івана Лісіцы заўсёды моцна ўражвала ўзроўнем прафесійнасці, вытанчанасцю густу. Некалькі экспанаваных на выставе малюнкаў, выкананых у змешанай тэхніцы, адметныя пластычнай дакладнасцю, далікатнай пададчай мадэлі. Упэўненае валоданне лініяй, пластычнай мадэліроўкай, колерам набліжаюць яго графічныя работы да значных дасягненняў нашага мастацтва. Мастак свядома пазбягае моцных кантрастаў колеру, шукае своеасаблівую гармонію ў стрыманасці і толькі зрэдку ўводзіць насычаныя фарбы, якія сваім мігценнем надаюць кампазіцыям пэўную таямнічасць.

*І. Лісіца. «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Паводле У. Караткевіча.*

Надзвычай цікавыя два алейныя партрэты маці мастака, дзе шчырыя і пяшчотныя пачуцці сына не схаваныя ад гледача. Асабліва прыцягальная паэтыка вясковых краявідаў, пазбаўленых глыбокай філасафічнасці, але прыкметных і шчырых. Мастак натхняецца архітэктурай сярэднявечча, з хвалюючай занепакоенасцю дакранаецца да праблем экалогіі. У экспазіцыі і ускалыхнуўшыя амаль дзесяць гадоў таму Віцебск графічныя імпрэсіі паводле твораў У. Караткевіча. Вобразамі сівой даўніны поўняцца кампазіцыі, у якіх аўра вельмі блізкая да светапогляду нашага слыннага пісьменніка.

Творчая незалежнасць Тамары, у недалёкім мінулым вучаніцы Івана па Віцебскім тэхналагічным інстытуце на кафедры дызайну, відавочная. Яна не толькі ў абранні іншага віду мастацтва — габелену, але і ў адметнай вобразна-пластычнай сістэме твораў. Адзінае, у чым Іван і Тамара падобныя, дык гэта ў падыходах да стварэння мастацкага вобраза. Абодва яны ідуць хутчэй не ад тэмы, сюжэта, а ад эмацыянальнага ўражання, пэўнай асацыяцыі. Шэраг габеленавых кампазіцый Тамары — сваеасаблівыя асколкі мастацкіх фантазій на самыя розныя тэмы.

Серабрыста-бэзавыя, пастэльныя спалучэнні колераў у краявідах моцна адрозніваюцца ад згарманізаваных кантрасных фарбаў у шэрагу фармальна-пластычных кампазіцый. Невычэрпнай крыніцай мастацкіх асацыяцый паўстаюць для Тамары гісторыя і сусвет. Нельга не заўважыць у габеленах і ўплыву народнага ткацтва: у каларыце, рытмічнай арганізацыі арнаментальных кампазіцый.

Дзеля таго, каб ісці побач у мастацтве і не перашкаджаць адзін аднаму, патрабуецца вялікая мудрасць, цярплівасць і паважлівасць. І першыя крокі ў гэтым напрамку Іванам і Тамарай Лісіцамі зроблены.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**



*І. Лісіца. «Партрэт маці».*



*Т. Лісіца. Габелен «Паганскія чары».*

# ШТО ЧЫТАЮЦЬ У АМЕРЫЦЫ

Не ведаю, хто прыдумаў байку, што ў метро чытаюць толькі ў Маскве. Гэта менавіта байка! У Нью-Йорку таксама чытаюць у метро, ці як тут яго называюць — сабвеі. І каб даведацца, якая зараз самая папулярная кніжка ў Амерыцы, не трэба зазіраць у спецыяльныя старонкі нядзельных газет, — трэба проста паназіраць, што чытаюць у сабвеі. Калі я толькі прыехаў у Нью-Йорк, то адразу звярнуў увагу, што ў сабвеі амаль ва ўсіх у руках адна і тая ж зялёная кніжка. Гэта быў толькі што выданы раман Джона Грышама «Фірма».

Узлёт гэтага пісьменніка адбыўся, на першы погляд, маланкава: дагэтуль нікому невядомы адвакат з маленькага амерыканскага гарадка стаў адным з самых чытаемых аўтараў Амерыкі ды і свету, калі зазірнуць у статыстыку перавыданняў. І вось ужо на працягу некалькіх год імя Джона Грышама займае першае месца ў спісе бестселераў «Нью-Йорк Таймс»: «Фірма», «Час для забойства», «Справа дручана Пелікану», «Кліент»... Толькі што з'явіўся і новы раман «Кантора адваката».

Першы свой раман, як піша Джон Грышам у прадмове да кнігі, ён пісаў амаль тры гады, чытаючы яго па раздзелах сваёй жонцы Рэні. Гэта быў пераказ справы, якая адбылася на вачах маладога адваката. Як піша Грышам: «Рэні чытала пяць ці шэсць раманаў за тыдзень — дэтэктывы, трылеры, шпіёнскія гісторыі, featureнага сорту прыдумкі — і яна літасціва цярпела мой незадачлівы раман... Праз тры гады Рэні ўрэшце прачытала апошні раздзел рамана, і мы адаслалі яго ў Нью-Йорк...» Гэта быў раман «Час для забойства». Не, пісьменніка не чакаў імгненны трыумф: дзесяткі літаратурных агентаў яму адмовілі. Дарэчы, у Амерыцы аўтар не дасылае адразу свой твор у выдавецтва, а заключае дагавор з літаратурным агентам, які займаецца ўладкаваннем рукапісу. Вядома, не забаронена і самому рухацца па калідорах выдавецтваў, але літаратурны агент знойдзе для вашага твора найвыгаднейшы кантракт. Ён у сваёй справе майстра, прафесіянал! Як кажуць амерыканцы, у кожнай справе ты не можаш быць прафесіяналам, і таму пакладзіся на таго, хто за грошы табе зробіць усё прафесійна. І гэта датычыцца не толькі літаратуры.

Невялічкае адступленне ў амерыканскае жыццё. Сістэма выдання кніг у Амерыцы адрозніваецца ад вядомай мне на Беларусі выдавецкай справы. Тут кніга ў першым выданні выходзіць абавязкова ў мяккай вокладцы. Гэта праверка кнігі на чытачу. З'яўленне яе ў спісе бестселераў (а гэтыя спісы маюць амаль усе газеты Амерыкі) дае падставу выдаўцу выдаць кніжку ўжо ў цвёрдай вокладцы. Пры гэтым малюнак на супервокладцы паўтарае малюнак мяккага выдання. І зноў спачатку малы тыраж, потым павелічэнне — усё ў залежнасці ад месца кнігі ў спісе бестселераў: гэты спіс для мяккіх выданняў і для цвёрдых розны! У кожнага выдання свой чытач. Цэны на кнігі не малыя: цвёрдае выданне каштуе недзе 17—25 долараў, мяккае — 5—6. Яшчэ адна цікавая акалічнасць: усе больш-менш вядомыя кнігі экранізуюцца, і гэта робіцца вельмі хутка: кніга яшчэ не паспее сысці з рынку, а ўжо з'яўляюцца рэкламы новага фільма, ці як іх называюць тут — «муві»! Муві альбо рыхтуюцца для вялікага экрана, альбо радуюць тэлегледача: усё зноў жа ад шкалы бестселераў: першы, другі... альбо чатырнаццаты. І тут ізноў выдаўцы не спяць: у дзень выхаду муві на паліцах кніжных шопаў з'яўляецца новае выданне кнігі, але з вокладкай, на якой змешчаны кадр з фільма! Гэта для новай катэгорыі чытачоў, для тых, якія спачатку глядзяць муві, а потым, калі фільм ім спадабаўся, бяруць у рукі кніжку. Гэта новае выданне выходзіць у мяккай вокладцы. І можа таксама заняць першае месца ў спісе самых чытальных кніг. Дарэчы, спіс паказвае, як прадаецца кніга: гэта месца кнігі не толькі па яе якасці, а — і гэта галоўнае — па яе рэалізацыі: першыя кнігі маюць мільённыя тыражы. Гэта не толькі слава, а і грошы!

Толькі што па тэлевізійным канале АБС прайшоў шматсерыйны фільм «Супрацьстаянне» па кнізе Сцівена Кінга. Раман гэты выйшаў некалькі год назад, але выхад фільма ізноў паставіў яго ў спіс бестселераў. Кніжка, з вокладкі якой глядзяць на чытача героі фільма, заняла сваё пачэснае месца сярод вялізнай кагорты кінгаўскіх кніг: проста нельга пералічыць усяго таго, што напісаў гэты вельмі папулярны і пладавіты пісьменнік. У год па некалькі кніг, па некалькі фільмаў... Імя ў Энцыклапедыі! А туды трапіць не вельмі проста. Майстар супернатуральнага жаху, мастак, які нечым нагадвае Сальвадора Далі ў літаратуры... Ён мае свайго чытача, які проста не можа абыходзіцца без яго кніг.

Ізноў зраблю невялічкае адступленне: амерыканскі чытач вельмі шануе літаратуру і кіно жахаў. У гэтым жанры працуе шмат пісьменнікаў і кінарэжысёраў, але, вядома, вяршыня гэтага жанру — Сцівен Кінг. Любоў да гэтай літаратуры прывіта народным святам, вельмі папулярным ў Амерыцы — Халувінам. Гэта свята-карнавал, але маскі ва ўсіх — страшыдлаў, монстраў і рознай нечысці. Свята прывезлі ў Амерыку першыя імігранты з Брытаніі: гэта кельцкае свята, дзень, калі выганяюць злых духаў: стары паганскі рытуал. Па павер'і, у гэты дзень трэба апранацца ў страшыдлаў і гэтак упрыгожваць свае дамы, каб сапраўдныя монстры палохаліся і абыходзілі жыллё чалавека бокам. Як у нас на Беларусі на Каляды, дзеці ходзяць у масках, праўда, не старых страшыдлаў, а сучасных герояў з фільмаў жахаў, і весела палохаюць, абліваючы вадой, прахожых, зазіраюць і ў суседскія дамы, чакаючы цукерак. У вокнах і дворыках дамоў недзе за тыдзень да свята ўзнікаюць пудзілы, якія зроблены ў сучасных майстэрнях: яны ківаюць галовамі, стогнуць і ўначы могуць напалохаць не горш чым сапраўдны монстр! У вокнах стаяць і знаёмыя нам гарбузы з ліхтарыкамі ўсярэдзіне. Гарбуз, ці па-тутэйшаму Памкін, галоўны на святочным стале. У гэты ж час тэлебачанне цэлы тыдзень, а тое і два паказвае фільмы жахаў і, вядома, кожны другі дзень гэта фільм па кнізе Кінга... Але трэба адзначыць, што Кінг — гэта не проста жах дзеля жаху, гэта роздум аб сучаснасці, гэта неверагодна рэльефна выпісаныя характары, гэта апакаліпсіс, які трэба прадухіліць.

Трэцяе імя, якое даспадобы амерыканскаму чытачу, пэўна, ніколі не трапіць у энцыклапедыі, але заўсёды будзе папулярным: гэта вядомая амерыканская пісьменніца Даніэль Сціл. Піша яна шмат, ішны раз у год выходзяць аж тры яе раманы. І іх заўсёды можна ўбачыць у руках пасажыраў сабвея. Усе яе кнігі экранізаваны тэлебачаннем, і новым выданнем шлях да тэлегледача заўжды адкрыты. Бо Даніэль Сціл піша пра каханне, пра сямейныя справы, а гэта вечныя сюжэты і яны будуць вечна мець свайго чытача. Пасля трылераў Грышама, пасля кніг-жахаў Кінга чытач і глядач хоча адпачыць, і тут яму не абысціся без кніг Сціл. Вось толькі што з'явілася новая кніжка Сціл «Падарунак»! Гэта сапраўды падарунак чытачу: тут і хвіліны радасці, і кропелькі слёз, жыццё і смерць, і прывабныя твары, і каханне, і здрада, усяго пакрыху, каб застацца ў памяці, каб потым чакалі новай кнігі гэтага ж аўтара: гэта мексіканская Марыяна, толькі з амерыканскім лёсам! Напісаныя лёгка, з уласцівай Даніэль лірычнасцю, яе кнігі, як і кнігі больш славутых сучаснікаў, выдаюцца і перавыдаюцца ў розных кутках свету, і ўсюды іх любяць, над імі плачуць і радуюцца.

Тры аўтары, тры розныя стылі падыходу да чытача і тры бестселеры, што стаяць на вяршыні спіса «Нью-Йорк Таймс»! Вельмі хочацца пажадаць беларускаму чытачу не абмінуць гэтых аўтараў.

...А на паліцах кніжных шопаў з'яўляюцца новыя кнігі, і, можа, калі мае нататкі дойдуць да вас, новы аўтар зойме месца на рухомым п'едэстале гонару...

**Марат БАСКІН**

*Чэрвень, Нью-Йорк.*

***Захаванне і пашырэнне фальклору ў побыце, яго вывучэнне і прапаганда маюць для нас больш чым толькі культурна-мастацкае значэнне і павінны разглядацца не толькі ў плане эстэтычнага выхавання асобы чалавека і ўсяго народа. Зрэшты, гэтыя праблемы ўсюды, ва ўсіх краінах свету ў пэўнай меры выходзяць за межы чыста культуралагічнага аспекта. Пытанне, аднак, у тым, у якой меры яны з'ўляюцца і праблемамі патрыятычна-выхаваўчымі, а гэта значыць — палітычна актуальнымі. Па прычыне пэўных гістарычных абставін на Беларусі, мы і сёння глядзім на фальклор не толькі з пункту гледжання задавальнення маральна-эстэтычных патрэб, але і як на дзейсны сродак фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, як на спосаб самапазнання і самасцвярджэння. Мы вымушаны так глядзець, таму што мы, беларусы, усё яшчэ вымушаны змагацца за прызнанне нас як самастойнай нацыі ў свеце — нацыі са сваім уласным абліччам, са сваёй самабытнай мастацкай культурай, з адметнымі асаблівасцямі сваёй духоўнасці. Мы ўсё яшчэ вымушаны даваць бой цемрашалам ад навукі і палітыкі і проста «тэарэтыкам» на ўзроўні базарнай бабкі Палусі, якія і дагэтуль вядуць сваю нялюдскую ноту, што беларусы — не самабытны славянскі народ, а толькі этнічнае адгалінаванне ад рускага народа, што беларуская мова — не самастойная славянская мова, а толькі дыялект рускай мовы, і што сваёй уласнай гісторыі ў нас няма, і сваёй матэрыяльнай і духоўнай культуры няма і г.д. і г.д. Дзіўна і неверагодна чуць такое ў канцы XX ст. — сёння, калі Беларусь прызнана ў цэлым свеце, і самабытнае беларускае мастацтва адкрылася ўсяму свету, — дзіўна і неверагодна, але ж факт. У нас жа, на нашай зямлі, у газетах, якія выходзяць тут, у Беларусі, усё яшчэ змяшчаюцца этналагічныя, гістарычныя і лінгвістычныя публікацыі, часам вельмі ваяўнічыя і агрэсіўныя па настроі, у якіх сцвярджаецца гэты псеўданавуковы абсурд.***

***І не толькі ў друку.***

# ПЕРАВЕРНУТА НА КАРЫСЦЬ ПОШЛАСЦІ...

## ДА ПЫТАННЯ АБ МЕСЦЫ ФАЛЬКЛОРУ Ў СУЧАСНАЙ КУЛЬТУРЫ

По абавязку службы я мусіў прачытаць нямала лістоў, дасланых у Вярхоўны Савет, у якіх гэтаксама адмаўляецца і самастойнасць нашай мовы, і самабытнасць нашай культуры, і ўсё іншае, што дае нам права называцца народам і нацыяй. І займаюцца гэтай непатрэбшчынай не толькі тыя з людзей прыезджых, якія адпачатку хварэлі на вялікадзяржаўны шавінізм, але, на вялікую бяду нашу, і многія з беларусаў, нават адукаваных беларусаў. Карацей кажучы, даўняя-даўняя, знаёмая-знаёмая, гнюсная-гнюсная песня ўсё яшчэ спяваецца, усё яшчэ не змоўкла.

Вось чаму фальклор яшчэ можа саслужыць нам вялікую службу ў справе нашага нацыянальнага адраджэння, развіцця нацыянальнай самасвядомасці, і дакладней — дзеля пазнання намі саміх сябе. Пазнаць і ведаць саміх сябе — з гэтага, уласна, усё і пачынаецца, пачынаецца галоўнае — фарміраванне і станаўленне нацыянальнай ідэі, без чаго не адбываецца станаўленне незалежнай нацыянальнай дзяржавы. У фальклоры, у народнай творчасці — наша жыццё-быццё, наш гістарычны лёс, наша душа, наш характар, наша мова, наш светапогляд. У фальклоры, як у люстэрку, мы бачым сябе і гаворым сабе: вось гэта мы і ёсць, вось гэта наша духоўная сутнасць, наша ўласная мерка чалавека і чалавечнасці.

Вядома, мы кажам гэта сабе з поўным разуменнем, што наша сутнасць не толькі ў фальклоры, але і ва ўсім астатнім, што ёсць сучаснае жыццё народа, — у нашай гаспадарчай дзейнасці, у нашых адносінах да прыроды, у нашых адносінах да іншых народаў, і канешне ж — у нашай грамадскай і сямейнай маралі і ў нашай прафесійнай мастацкай культуры. І паколькі гэта прафесійная культура ў духоўным побыце народа сёння не проста пераважае, а пануе (што натуральна: як і ўсякі цывілізаваны народ, мы да гэтага ішлі і прыйшлі даўно), — паколькі гэта так, то вось тут і паўстае ненадуманая праблема: фальклор і сучасная культура. Праблема шматаспектная — па гарызанталі і, я сказаў бы, шматслойная — па вертыкалі. Многія з яе аспектаў патрабуюць грунтоўнага даследавання. Не прэтэндуючы на такое, я хацеў бы спыніцца толькі на некаторых прыватнасцях, якія, магчыма, упішуцца ў больш маштабныя пытанні, і ўрэшце — у нашу агульную заклапочанасць станам сучаснай беларускай культуры.

Напачатку я хацеў бы сказаць пра тое відавочнае і несумненнае, што найбольш нас павінна радаваць. Пра вяртанне з забыцця, з нябыту ў жыццё многіх тысяч народных песень, многіх соцень народных танцаў, музычных найгрышаў. Маю на ўвазе іх сучаснае агучванне — на сцэне, на экране, у эфіры, а дзякуючы гэтым спосабам прапаганды — і іх пашырэнню ў народным побыце, скажам, у звычайным святочным застоллі, у гасціне, — калі, вядома, там ёсць людзі, якія любяць спяваць. Амаль 40 гадоў пасля вайны — што з беларускіх народных песень мы чулі ў сольным выкананні артыстаў? Як-то кажуць, можна на пальцах пералічыць. Усё кацілася «чорная галка па бару», усё вылазіў «чабарок каля дарожкі», ну і яшчэ сёе-тое. Хаця ляжалі шматтомныя зборы і асобныя зборнікі песень нашых вядомых фалькларыстаў, ды і ў памяці пажылых людзей тады іх захоўвалася безліч, не толькі ў памяці, але яшчэ і на вуснах трымаліся. Аднак была і дыктавала сваё афіцыйная ўстаноўка — у адпаведнасці з дзяржаўнай нацыянальнай палітыкай, з партыйным курсам на зліццё моў і культур, нацый і народаў, на перамяшанне іх у агульным катле гэтак званай «новой исторической общности». Для экзотыкі, і для адчэпнага (каб нацыяналісты не падымалі крыку), і для пылу ў вочы замежным саветолагам было дастаткова, каб у канцэрце прагучала адна «Чорная галка» ці адзін «Чабарок». І гэта пры нашых незлічоных песенных багаццях! Што праўда, больш гучала беларускіх народных песень у харавым выкананні, у тым ліку — у выкананні самадзейных харавых калектываў. Што, аднак, кідалася ў вочы пры знаёмстве з гэтымі самадзейнымі пеўчымі гуртамі? Па-першае, аднабокава падабраны, «ідэйна вытрыманы» рэпертуар (каб хаця не праскочылі творы драматычнага і трагічнага зместу). Па-другое, вельмі спецыфічны казённа-аптымістычны стыль выканання: суцэльны мажор! Бясконцае падкрэсліванне нашага сацыяльнага аптымізму і жыццярадаснасці.

Што да колькасці нанова агучаных народных песень — то за апошняе дзесяцігоддзе сітуацыя істотна змянілася. Я сказаў бы — непазнавальна змянілася. Мы выйшлі на неабсяжны прасцяг беларускай народнай песні. І не толькі песні, але і народнай харэаграфіі. Зразумела, калі гэтая песня разліваецца такой бязмежнай паводкай, калі яна такою масай хлынула ўсемагчымымі шляхамі і каналамі да слухача, і калі жыццёвую зацікаўленасць у яе пашырэнні ва ўжытку адчулі тысячы выканаўцаў — і прафесійных, і аматараў, — то, канешне ж, пры гэтым непазбежна будуць выяўляцца гэтак званыя накладныя выдаткі, і будуць узнікаць пэўныя пытанні і праблемы.

Глянем, напрыклад, на фальклор у мастацкай самадзейнасці, на яго выкананне на вясковай і гарадской самадзейнай сцэне, на гэтак званых «вячорках», у тым ліку — на тэлевізійных. Даўно і неадчэпна мяне пераследуе адно трывожнае адчуванне, што тут мы ідзем не зусім прадуманым і не самым плённым шляхам. Маю на ўвазе гэтыя суцэльныя штучныя інсцэніроўкі традыцыйных народных свят і абрадаў з выкананнем адпаведных песень, танцаў і гульняў. Выбачайце, але ў гэтых фальклорных спектаклях запанаваў нейкі сцэнічны шаблон з прыкметнай дозай прымітыву і безгустоўшчыны. Глядзець іх становіцца проста нецікава, іншы раз яны, я нават сказаў бы, раздражняюць. Можа, таму, што фальклор у сілу прыроды сваёй мусіць існаваць толькі ў натуральных умовах? Я разумею высакародныя прапагандысцкія мэты такіх фальклорных спектакляў, але — ці дасягаюцца яны, гэтыя мэты?

Далей аб тым, што я ўжо мімаходам закрануў, — гэта стыль выканання народнай песні і народнага танца на самадзейнай сцэне. Ці ёсць у нас свой уласны, беларускі стыль, свая манера, свой почырк? Ёсць, безумоўна. Але якія яго асаблівасці? Ці ёсць яго асаблівасцю адбітак пэўнай развязнасці на сцэне, нейкай неапраўданай ненатуральнай зухаватасці з такімі ж неапраўданымі выкрыкамі, і проста нейкай бадзёрасці нялепшага ўзору? Ці гэта ўсё яшчэ даніна таму самаму казённаму аптымізму?

Ці вывучаецца ў нас гэта пытанне? Ці праводзіцца якая метадычная работа з выканаўцамі, з кіраўнікамі самадзейных калектываў? Ці не пераносім мы на нашу глебу — на нашу сцэну — нялепшае чужое, з неўласцівай нам манерай выканання? Ці абавязкова, напрыклад, гнаць усе беларускія прыпеўкі ў стылі аля Мардасава? Ці трэба так насаджаць чарговы прымітыў тыпу «А я ўсё дывлюся, дэ моя Маруся», які і на сваёй радзіме ёсць прымітывам? Сціраецца ж сваё аблічча! А самае горшае, што культывуецца нейкая вульгарызацыя фальклору, спрашчэнне і прымітыў.

У сувязі з гэтым — пра адносіны да тэксту фальклорнай песні, а дакладней — пра нявечанне і апашленне гэтага тэксту. У нас гэта становіцца дрэннай модай — безгустоўнае ўмяшанне ў тэкст народнай песні, у выніку чаго адбываецца скажэнне і перакручванне яе маральнай і эстэтычнай сутнасці, часам такое скажэнне, калі гэтая сутнасць проста забіваецца. Можна было б не бачыць у гэтым асаблівай небяспекі, калі б гэтыя з'явы, як у добрыя старыя часы, заставаліся адзінкавымі і не выходзілі за межы пэўнага фальклорнага калектыву, пэўнай лакалізаванай мясцовасці, — той, дзе ўзніклі. Але ж сёння, дзякуючы радыёэфіру, тэлеэкрану, кіно, відэакасетам, яны тыражуюцца незлічонымі тыражамі і штодзённа. Тым больш, калі песня ідзе ў таленавітым прафесійным выкананні. Каб не быць галаслоўным, прывяду два-тры прыклады. Бадай, ці не самым папулярным фальклорным шлягерам стала ў нас песня «У саду гуляла, цвяты збірала» — паходжаннем з украінска-беларускага памежжа, калі не ўкраінская наогул. У арыгінале, ці ў аўтэнтыку, які ёсць і ў маім архіве, усё на сваім месцы, усё лагічна і апраўдана, а менавіта: хлопец крыўдуе на дзяўчыну, што яна да яго не выйшла, і клятвенна заяўляе: «Хадзіці буду, любіці буду, скажу па-праўдзе: сватаці буду!» Падкрэсліваю: сватаці буду, вазьму цябе замуж. Што ж у выкананні нашага знакамітага квартэта «Купалінка» і дзесяткаў іншых самадзейных калектываў? Зусім процілеглае: «Хадзіці буду, любіці буду, скажу па-праўдзе: браці не буду». Вось табе і на! Хадзіць да цябе буду, гэта значыць, валачыцца буду, а замуж не вазьму! «Браці не буду». Нічога ж сабе мараль у малайца! Выбачайце, але гэта — напрасліна, якая ўзводзіцца на народную песню.

Ёсць у тэксце гэтай песні і другое скажэнне, якое разбурае паэтычны вобраз. У аўтэнтыку: «А я з сястрою ўсю ноч прастою — не тыя словы, што і з табою». А з экрана і з эфіру гучыць: «А я з сястрою ўсю жызнь пастрою». Ніякай логікі! І чаму раптам рускае «жызнь пастрою»? Адкуль узялося? А проста ад няведання палескага дыялекту. Там было — «всю ніч простою»; на слых гэта было ўспрынята як «всю жызнь построю». А трэба спяваць: «ўсю ноч прастою».

Яшчэ адзін прыклад — таксама досыць папулярная беларуская народная песня «А ў цёмным лесе сава кугіча, а ў чыстым полі муж жонку кліча». Пра што песня? У ёй дасціпна высмейваецца беспадстаўная рэўнасць мужа. Жонка гаворыць: «А мой міленькі, калі не верыш, — павесь званочак на падалочак: як хто затроніць — званок зазвоніць, а ты пачуеш — мяне ўратуеш». Так у аўтэнтыку. Дасціпна, хораша, чыста. Так спявалася, можа, не адно стагоддзе. Камусьці, аднак, захацелася ўжо ў нашы дні спахабіць і апошліць добрую песню. Дадалі яшчэ адзін куплет: «Званочак звоніць у садзе ля хаты — мужык не чуе, ён глухаваты». Усё, як бачыце, перавернута дагары нагамі, на карысць пошласці. Бо выходзіць, што жонка ўсё-такі гулячая, ашуквае мужа, прычым — тут жа, ля сваёй хаты. І слухачы смяюцца, вітаюць, ухваляюць. На ўзроўні сучаснай маралі, ці што? Без пошласці ўжо не можам? Хто ж ажыццяўляе гэтыя інтэрвенцыі ў песенны тэкст? Выканаўца? Мастацкі кіраўнік?

Вось так мы абыходзімся з фальклорам. Я ўжо не кажу пра адносіны да слова ў народнай песні. Часам — яны самыя непаважлівыя. Пануе абсалютная глухата і няўвага. Між тым, фальклор — культурна-гістарычная спадчына, і ён абараняецца Законам аб культуры як усякія іншыя помнікі культуры. Прыняты закон цалкам адносіцца і да фальклору, але, здаецца, нідзе ён так не парушаецца, як у гэтай галіне нацыянальнай культуры.

Я ўжо гаварыў, што мы часам некрытычна пераносім нялепшае чужое ў сваю мастацкую гаспадарку. Яшчэ горш, калі чужое выдаём за сваё, прысвойваем. Відаць, добрую сотню разоў слухаў я ў выкананні В.Пархоменкі і А.Казака песню «Серая лашадачка» (гэта значыць, «Сівы конік», або «Сівая кабылка») — і кожны раз горка думалася: ну навошта мы выдаём яе за беларускую? У ёй няма ніводнага беларускага радка! Падкрэсліваю: ніводнага! Прайдзіцеся ад пачатку да канца па тэксце — пераканаецеся. Думаю, што гэта самая што ні ёсць руская народная песня. Дык чаму так і не аб'яўляць? Хай гучыць, хай выконваецца, песня выдатная, папулярнай стала ў нас, — але навошта яе прысвойваць? Яе трэба выконваць як рускую песню — і значыць, па-руску, у рускім вымаўленні. Мы спяваем сотні рускіх песень, ведаючы, што яны рускія і не аб'яўляючы іх беларускімі. Што тут ёсць — у такім прысваенні — небяспечнага? Што тут нядобра і чаму нядобра? Тое, што недасведчаны чалавек слухае падобную «Серую лашадачку» і робіць выснову: ага, песня беларуская, а мова — ні адным радком, ні адным словам не адрозніваецца ад рускай. Усё тое ж самае! Ніякай розніцы! Вось гэта і дрэнна, вельмі дрэнна. Рускі тэкст таварышы вымаўляюць на беларускі лад і думаюць, што пяюць па-беларуску. Гэта — элементарная непісьменнасць, якая, канешне ж, не дапамагае нам у сцвярджэнні сваёй нацыянальнай асабістасці. Значыць, і на такія з'явы трэба абавязкова звяртаць увагу.

На заканчэнне хачу яшчэ раз падкрэсліць: мы павінны не проста цаніць і шанаваць свой фальклор, але і актыўна карыстацца ім як сродкам станаўлення нашай нацыянальнай самасвядомасці — у мэтах Адраджэння Беларусі. Карыстацца так, як патрабуе час і пачуццё прафесійнай годнасці.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

**ЛІМ**
**ЧАСАПІС**

## АРКАДЗЮ ЖУРАЎСКАМУ — 70

**Доктар філалагічных навук, прафесар Аркадзь Жураўскі з тых, хто даследуе гісторыю беларускай мовы. Ён з'яўляецца сааўтарам такіх прац, як «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія» (1957), «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы», якая выйшла ў дзвюх частках у 1961 і 1962 гадах; «Пісьменнік і мова. Хрэстаматыя» (1962), «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (1979) і іншых.**

**Напісаны А.Жураўскім і кнігі «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы», «Мова нашых продкаў». Акрамя таго, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, А.Жураўскі выдаў у 1974 годзе мемуары «За родныя хаты».**

**Віншуем Аркадзя Іосіфавіча з юбілеем, зычым яму далейшых творчых поспехаў!**

## НА «ЗАЛАТОЙ КАРЭЦЕ» Ў ПАРЫЖ



**З міратворчай місіяй у пачатку жніўня выправіцца з Мінска ў Парыж экспедыцыя пад назвай «Залатая карэта». У склад яе ўвойдуць мастакі і артысты, грамадскія дзеячы і бізнесмены рэспублікі.**

**— Галоўная мэта экспедыцыі — паказаць свету, што ёсць такая незалежная краіна — Рэспубліка Беларусь, — сказаў удзельнік акцыі мастак Мікола Цудзік. — Падчас экспедыцыі плануем правесці фестываль «Залатая карэта», а таксама адкрыць у Парыжы салон з такой жа назвай.**

**Віктар ТАЛОЧКА, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: сімвал экспедыцыі — «Залатая карэта».*

*Фота аўтара*

## КУДЫ ІДЗЕШ, ДВУХТЫСЯЧНЫ?

**Гэта — не рытарычнае пытанне. Гэта — назва твора, выкананне якога адбылося напрыканцы сезона ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. «Quo vadis 2000?..» — значылася ў праграме еўрапаэмы, араторыі-містэрыі 21-му стагоддзю, прадстаўленай у гожым выкананні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад майстэрскім кіраўніцтвам Пятра Вандзілоўскага, Акадэмічнай капэлы імя Р.Шырмы ды выдатных салістаў з Санкт-Пецярбурга.**

**Ідэя гэтага грандыёзнага музычна-драматургічнага опуса, яго лібрэта, тэкст належаць Бернарду Замарону, знанаму дзеячу Еўрапарламента і Фонду Рабера Шумана. Аўтар партытуры — украінскі кампазітар Георгій Успенскі. Летась яны прадставілі мінчанам фрагменты еўрапаэмы. Цяпер адбылося найбольш поўнае яе выкананне, засталася нерэалізаванай мо дзесятая частка твора. Нерэалізаванай засталася і задума аўтараў — зрабіць выкананне тэатралізаваным, як тое пазначана ў лібрэта. Дарэчы, з лібрэта мелі магчымасць знаёміцца гледачы ў той філарманічны вечар: тэкст быў выдадзены вялікім тыражом і распаўсюджваўся ў фае.**

**Тэкст — ёмісты, грандыёзны, складзены з рэплік шэрагу дзейных асобаў, сярод якіх дзяржаўны дзеяч, маладая медсястра, гераіня французскага народа Жана ды інш. У яго ўключаны і выказванні гістарычна вядомых фігур: Чэрчыля, Адэнаўэра, Голды Меір, Насэра, Кенэдзі, дэ Голя... Мноства рэмарак адрасавана слухачам, каб выклікаць у іхнім уяўленні вобразы веры, любові, нянавісці, грошай ды ўлады, паўстанняў, надзеі ды святла.**

**Аўтары еўрапаэмы прысутнічалі на канцэрце. Спадар Замарон звярнуўся да публікі з кароткай прамовай, у якой, дарэчы, паведаміў пра намер творчага калектыву наладзіць поўнае выкананне «Quo vadis 2000?..» у Мінску ў снежні гэтага года, калі будзе цікавасць з боку беларускай культурнай грамады. На жаль, кіраўніцтва культуры Беларусі не ганаравала сваёй прысутнасцю грандыёзную філарманічную прэм'еру. Наогул, публікі было да прыкрага мала. Недапрацоўкі рэкламы? Але тое ўзрушэнне, уздым духу, што адчуваліся ў філарманічнай зале, даюць надзею на новую сустрэчу з творам Б.Замарона ды Г.Успенскага і яго натхнёнымі выканаўцамі.**

**С.Б.**



Адгалоскі

***Гэты загаловак я запазычыў у Кузьмы Чорнага, так называлася ў першадруку невялічкая яго аднаактоўка. Загаловак гэты найбольш пасуе да тых размоў, якія вядуцца ў друку ў сувязі з падрыхтоўкай рэформы правапісу літаратурнай беларускай мовы, ды і пра лёс самой Беларусі. Праводзяцца сходы, нарады, канферэнцыі па гэтай праблеме. Працуе Дзяржаўная камісія па падрыхтоўцы праекта пастановы Савета Міністраў па гэтым пытанні.***

***А разам з тым ужо разгарнулася і практычна ажыццяўляецца стыхійная рэформа нашай мовы. Некаторыя аўтары і нават выданні пішуць на так званай тарашкевіцы, некаторыя трымаюцца рэформы 1933 года, а то і пішуць як уздумаецца, па сваім уласным правапісе, абы не гучала па-руску.***

# НЕ ПІШЫ ЧОРТВЕДАМА ЯК

Вядома, што змены ў мове, яе развіццё, удасканаленне, узбагачэнне слоўнікавага фонду ідзе няспынна. Працэс гэты нармальны, ён творыцца ў народзе, у гутарковай мове, у літаратурнай творчасці. Але калі гэта робіцца па адвольнасці аўтараў, па капрызнай нязгодзе з дзеючым правапісам, або яшчэ горш — у палітычных мэтах, то яно ідзе на шкоду мове, нацыянальнай культуры, еднасці народа.

Адвольнасць у правілах пісання прынесла ў нашу мову шмат такіх слоў, якія не ўпрыгожваюць яе. Напрыклад, жанчыну-паэта сталі называць паэтка, жанчыну-дырэктара — дырэктарка. Як жа тады называць жанчыну-афіцэра, жанчыну-камандзіра? Афіцэрша, камандзірша? Але ж так называюць жонак афіцэраў і камандзіраў. А, можа, называць, як і паэтку — афіцэрка, камандзірка? Такія назвы гучаць, як зняважлівыя мянушкі. Параўнайце: хлапчук і хлопчык.

Ёсць жа ў беларускай мове добрыя, мілагучныя словы — паэтэса, дырэктрыса. І ёсць правілы называць па пасадзе,словамі мужчынскага роду: дырэктар, камандзір, афіцэр. Напрыклад: капітан міліцыі Валевіч затрымала п'янага хулігана; дырэктар швейнай фабрыкі Паўлавец аддала загад...

Ідзе блытаніна і нязгода ў напісанні асабовых імёнаў і назваў дзяржаў, гарадоў, паселішчаў. Адны пішуць «Расія» і «расійскі», другія — «Расея», «расейскі». Адны пішуць «Літва», другія — «Летува». Дзесяцігоддзямі вядуцца бясконцыя спрэчкі, як называць і пісаць назву сталіцы Беларусі «Мінск» ці «Менск». Кожны бок выстаўляе свае доказы, не вельмі моцнай пераканаўчай сілы. Такім спрэчкам ніколі не будзе канца. І гэта пры тым, што ёсць пастанова Мінскага гарадскога савета называць сталіцу Беларусі Мінскам. Але ж мы будуем прававую дзяржаву, навошта нам трымацца законаў...

Варта было б звярнуцца да народа, паслухаць, як ён велічае сваю сталіцу. Да 1918 года горад, пра які ідзе гутарка, называўся Мінск. У дваццатыя гады, пры савецкай уладзе сталіца Беларусі афіцыйна называлася Менск, а народ па-ранейшаму называў яе Мінскам.

У семнаццатым стагоддзі, у час вайны Багдана Хмяльніцкага з Польшчай, на Піншчыне спявалі такую песеньку:

**Із пад Слуцка, із пад Клецка**
**Едзе дружба маладзецка,**
**Ад княжаці із пад Мінска**
**Ваяваці места Пінска.**

(В.Ластоўскі. «Кароткая гісторыя Беларусі». Мн. 1993, ст. 75).

Адзін настаўнік, выкладчык беларускай мовы, у прыватнай спрэчцы пра назву нашай сталіцы выставіў такі доказ на карысць назвы «Мінск». Спасылаючыся на «Слоўнік беларускай мовы» (выданне «Бел. сав. энцыклапедыі», 1987), ён сцвярджаў, што словы з коранем «мін» больш уласцівы беларускай мове, чым з коранем «мен». Першых слоў у слоўніку налічваецца 116, а другіх — 47. На гэтай аснове ён сцвярджаў, што назва «Менск» прыйшла з чужой мовы.

Справа не ў тым, што наш народ некалі ўзяў назву ці то ад рэчкі «Мень», ці то ад слова «мена», ці прыйшла яна ад суседніх народаў, — гэта факт гістарычны. Няхай тое і будзе гісторыяй. Але Мінск ужо некалькі стагоддзяў носіць гэту назву, яна ўжылася ў народзе. Навошта штучна ствараць невырашальныя праблемы, іх у нас і так хоць адбаўляй.

З заменай назвы Мінск на Менск змяняецца і назва жыхароў горада з «мінчаніна» на «мянчук», а «мінчанка» на «мянчучка». Зноў пераход ад мілагучных слоў да мянушак, а галоўнае — засмечванне, вульгарызацыя беларускай мовы.

Пытанне назвы сталіцы Беларусі павінен вырашыць Вярхоўны Савет рэспублікі.

Ёсць блытаніна і ў напісанні асабовых імёнаў, дакладней — калька з рускіх. Імя Тацяна пішацца праз падвоенае «ц» — Таццяна. Але ў народзе так не называюць. У «Слоўніку асабовых уласных імён» М.Судніка падаецца імя Таццяна, а ў дужках аўтар заўважае (размоўнае Тацяна). Імя Таццяна з падвоеным «ц» узнікла ў бюракратычных пашпартных аддзелах райвыканкомаў. Пашпарты, як вядома, былі двухмоўныя. На першай старонцы звесткі пра асобу пісаліся па-руску, на другой — па-беларуску. «Татьяна» перакладалася на беларускую мову сугучна рускаму «Таццяна». Беларуская Юстына станавілася Усцінняй, Параска — Парaскоўяй і г.д.

Усё пададзенае вышэй кранаецца сённяшняга стану нашай мовы. Ёсць і «тэарэтычныя»меркаванні пра развіццё нашай беларускай мовы, пра тое, якой яна павінна быць. Праяўляецца імкненне пэўнай групы дзеячаў да тарашкевізацыі, замена ёю сучаснай літаратурнай і гутарковай мовы, не зважаючы на рэальнасць.

Карэспандэнт газеты «Наша слова» Ірына Крэнь вяла гутарку з членам правапіснай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Вінцуком Вячоркам пра рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы («Наша слова», N 12, 1944). Зайшла ў іх гутарка і пра тарашкевіцу, уласна, пра двухварыянтнасць беларускай мовы.

— Дарэчы, пра «лё». На маёй бацькаўшчыне — Наваградчыне, яно не ўжываецца ў гутарцы жыхароў, — заўважыла Ірына Крэнь.

— Аргумент «у нас так не гавораць» не пераканаўчы, — адказаў Вячорка. — У беларускай вёсцы дваццатых гадоў не гаварылася ані «філязофія», ані «філасофія», ані «перыяд», ані «пэрыяд», таму што такіх слоў у дыялектнай мове не было.

Дзіўны аргумент. Калі такіх слоў не было ў дваццатыя гады, а сёння яны з'явіліся з іншых моў, то толькі ў сілу гэтага іх трэба пісаць і вымаўляць з мяккім «л» (філёзофія) або з цвёрдым «е» (пэрыяд).

Гутарка ідзе пра тое, што словы, якія прыйшлі ў беларускую мову з лацінскай ці іншых заходніх моў непасрэдна ў нашу мову або праз мову рускую, асіміляваліся ў беларускай мове, прыжыліся, сталі звычайнымі, цяпер іх замяняюць на словы пераважна польскай асіміляцыі. А як гаворыць народ, на гэта не трэба зважаць. Можна жаданыя змены зрабіць і сілай.

Настаўнік Першамайскай сярэдняй школы Шчучынскага раёна Павел Дубок у артыкуле «Якой быць нашай мове?» («Наша слова», N 31, 1922) паведамляе, што перш чым брацца пісаць артыкул, ён меў гутарку з многімі вучнямі, студэнтамі, людзьмі сталага ўзросту на тэму аб пераводзе беларускіх выданняў з кірыліцы на лацініцу, аб пераходзе з сучаснага правапісу на тарашкевічаў. Ні той, ні другой прапановы ніхто з яго субяседнікаў не падтрымаў.

Згодна з Дубком выказваюць сваю думку выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны Мікола Воінаў і Алена Краснова («Звязда», 2.VI.1994 г.). Яны слушна пярэчаць супраць вяртання да правапісу 20-х гадоў. «Навошта сёння пісаць і чытаць філялёгія, парлямент, кляса, альфабэт, Задзіночаныя Гаспадарствы Паўночнай Амерыкі, Эўропа і г.д.? Ці варта сёння зразумелыя кожнаму чалавеку словы акцёр, кватэра, аптэка, кактэйль, прыём, ручка, тамада мяняць на глумец, патоўпішча, зельна, трунак, прыймо, асадка, маршалак?»

Магу пацвердзіць нагляданні П.Дубка, думкі М.Воінава, А.Красновай сваім вопытам. За апошнія гады мне давялося весці гутарку з многімі людзьмі пра пераход на тарашкевіцу, а ў друку — на лацінскі алфавіт. Ніхто з маіх субяседнікаў не падтрымаў ні таго, ні другога. На маёй бацькаўшчыне, — Міншчыне, — як і на радзіме Ірыны Крэнь, мяккае «л» і цвёрдае «е» ў польскай асіміляцыі іншамоўных слоў таксама не ўжываецца.

Рэзюмуючы свой адказ карэспандэнту І.Крэнь адносна мяккага «л» у беларускай мове, В.Вячорка зазначае: «Корпус слоў іншамоўнага паходжання ў класічнай беларускай мове захоўвае пазначанасць, ці маркіраванасць да агульнаеўрапейскага культурна-моўнага арэалу, а ў сучаснай беларускай літаратурнай мове ўзору 1933 года гэтага няма, бо яе гвалтам прымусілі ўзяць з расійскага ўсе гэтыя непаслядоўнасці».

На якой аснове і па якім праве В.Вячорка аб'яўляе тарашкевіцу «класічнай» беларускай мовай? На працягу 15 гадоў афіцыйна дзейнічала граматыка Тарашкевіча (1918—1933), але тарашкевіца ў гутарковай мове не прыжылася. Яна ўжывалася далёка непаслядоўна толькі ў перыядычным друку.

Трапна і правільна адказала В.Вячорку І.Крэнь:

— А ў мяне такое ўражанне, што класічны варыянт у меншай меры захоўвае асаблівасці напісання іншамоўных слоў, чым варыянт сучаснай мовы.

Ёсць яшчэ адзін пераканаўчы доказ, што наш народ не прыме тарашкевіцы і цяпер, як не прыняў яе ў дваццатыя гады. А.Злотнікаў паведамляе аб выніках сацыялагічнага даследавання ў Гомельскай вобласці. На пытанне: «Як вы ставіцеся да спроб аднавіць ранейшы правапіс, калі замест «адкрыццё», «адраджэнне» пішуць «адкрыцьцё», «адраджэньне», альбо «філязофія», «філялёгія» замест «філасофія», «філалогія». Адмоўна адказалі 54,3 працэнта, станоўча — 15,9 працэнта апытаных беларусаў. (Зборнік «Беларусіка», кн. 2, 1992, ст. 232).

В.Вячорка безгрунтоўна заяўляе, што рэформа 1933 года была праведзена гвалтоўна. Рэформа гэта ў сапраўднасці праводзілася глыбока навукова. Яна рыхтавалася на працягу некалькіх гадоў. Пачалася ў 1927 годзе, калі стала ясна, што народ не прымае мовы, вызначанай граматыкай Тарашкевіча. Была створана ў Інбелкульце камісія па падрыхтоўцы праекта правапісу беларускай мовы, у састаў якой уваходзілі буйнейшыя вучоныя-мовазнаўцы. Вяліся шырокія даследаванні, да якіх прыцягваліся настаўнікі, вывучалася мова і яе дыялекты. Праект новага правапісу двойчы друкаваўся ў перыядычным друку і шырока абмяркоўваўся. У правапісе 1933 года мелі месца русізмы, напрыклад, совет, соцыялізм і іншыя, былі і арфаграфічныя недакладнасці. Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук у 1957 годзе ўнёс удакладненні і частковыя змены ў правапіс 1933 года. Таму, калі гутарка ідзе пра сучасную літаратурную мову, трэба мець на ўвазе правапіс 1957 года.

Пасля 1937 года ўзмацнілася русіфікацыя, але не столькі беларускай мовы, колькі беларускага народа шляхам пераводу ўсіх дзяржаўных устаноў на рускую мову. Выкладанне ў вышэйшых навучальных установах таксама было пераведзена на рускую мову. Афіцыйныя выступленні, — прамовы, даклады, спрэчкі, — асабліва выступленні ў друку на беларускай мове інкрымінаваліся як праявы нацыяналізму з адпаведнымі вынікамі для аўтараў.

Было аб'яўлена права бацькоў выбіраць для сваіх дзяцей абсалютна «вольна» рускую ці беларускую школу. Бацькі стараліся аддаць дзяцей, вядома ж, у рускія школы. Куды зможа паступіць юнак ці дзяўчына, якія скончылі беларускую школу, калі ва ўсіх вышэйшых навучальных установах прыёмныя экзамены і выкладанне вядуцца на рускай мове? У выніку гэтага беларускія школы закрываліся.

З 1937 года па сённяшні дзень русіфікацыя зайшла далёка. Яна пранікла ў быт большасці інтэлігенцыі, асабліва гарадской. Ахапіла вясковы актыў: старшынь калгасаў, дырэктараў саўгасаў, спецыялістаў, брыгадзіраў і іншыя групы насельніцтва. Значная частка беларусаў размаўляе на рускай мове, але ў

многіх іх гутарковую рускую мову нельга назваць сапраўды рускай. Гэта нейкі жаргон, руска-беларуская трасянка. Даходзіць іншы раз да пачварнасці. Мой сусед, у маёй роднай вёсцы, за вайну дужа абрусеў у арміі. Вярнуўшыся з фронту, ён размаўляў толькі на «рускай» мове. Родную сваю мову называў мужыцкай, некультурнай. А яго «руская» мова гучала вось так: «Таварышч доктар, у мяне с раны тякёт навоз. Не зажываить рана». Нават мяккае рускае «щ» у яго расшчаплялася на беларускае цвёрдае «ш» і «ч».

Нягледзячы на палітыку русіфікацыі да 1917 года царскім рэжымам, у савецкі перыяд — палітыкай таталітарнай сістэмы на зліццё ўсіх нацый у адзіную савецкую нацыю — беларуская мова захавалася. Некаторыя прадстаўнікі уніяцкай шляхты сцвярджаюць, што беларуская мова захавалася дзякуючы уніяцкай рэлігіі, уніяцкай царкве. Гэта відавочная няпраўда. Беларуская мова захавалася «ў сялянскай агрābленай хаце» (Алесь Гарун). Сяляне-беларусы ўсіх веравызнанняў — праваслаўныя, каталікі, уніяты — былі і засталіся носьбітамі і захавальнікамі беларускай мовы.

Наадварот, ад каталіцкіх і уніяцкіх святароў ідзе паланізацыя беларускай мовы. Богаслужэнне і таго і другога веравызнання адпраўляюць польскія ксяндзы на польскай мове, за выключэннем адзінкавых выпадкаў ва уніяцкіх прыходах, дзе малебны вядуцца на беларускай мове.

Божыя ж служкі праваслаўнай царквы, якія вядуць богаслужэнне на рускай мове, спрыяюць русіфікацыі. Галоўная ж небяспека русіфікацыі, не столькі беларускай мовы, колькі русіфікацыі беларускага народа, ідзе ад бюракратыі дзяржаўнага апарату.

Разам з барацьбой супроць русіфікацыі беларускага народа нельга ігнараваць веданне рускай мовы, асабліва навуковымі супрацоўнікамі, творчай інтэлігенцыяй, спецыялістамі народнай гаспадаркі. Руская мова дае магчымасць знаёмства з вялікай рускай культурай, найперш з літаратурай, з дасягненнямі навукі.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь узаконіла беларускую мову як дзяржаўную. Але якую беларускую? Сучасная літаратурная, у аснове якой народная, ці тарашкевіца? Які ж з гэтых двух варыянтаў стане дзяржаўным? Гэта не справа Канстытуцыі, а клопат вучоных, абавязак Савета Міністраў, той жа Дзяржаўнай камісіі, якая рыхтуе праект удакладнення правапісу. А ў надрукаваным «Выніковым дакуменце» пра гэта ні слова. Нічога не сказана пра іншамоўныя словы, якія ў польскай асіміляцыі ўкараняюцца ў беларускую мову, пра словы з мяккім «л» і цвёрдым «е». Чаму мы павінны казаць «Лёндан», як вымаўляюць палякі, а не Лондан, як называюць сваю сталіцу самі англічане?

У прэамбуле «Выніковага дакумента» сказана, што ён з'яўляецца першым этапам работы Дзяржаўнай камісіі. Камісія заяўляе, што «нельга далей пакідаць па-за ўвагай той разнабой у мове друку, радыё і тэлебачання, які выразна абазначыўся і набывае ўсё большыя маштабы. У грамадскай моўнай практыцы ўсталёўваецца свавольства і хаос, што вельмі згубна адбіваецца на агульным узроўні пісьменнасці ў краіне...»

Слушная заява, але яна не супакойвае. Вось у чым прызнаўся В.Вячорка ў прыгаданай вышэй гутарцы з І.Крэнь: «І мяне цешыць, што Дзяржаўная камісія, якая працуе зараз над удакладненнем правапісу і ў складзе якой фактычна няма прыхільнікаў альтэрнатыўнага погляду, рэкамендавала разгледзець шмат пытанняў, якія стыкуюцца з класічнай традыцыяй. Большасць прапаноў Дзяржаўнай камісіі раней распрацавала Правапісная камісія Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны на чале з прафесарам Цыхуном». І далей: «Мне даспадобы, што саветызаваны варыянт набліжаецца да класічнае літаратурнае мовы».

Ці не ідзе Дзяржаўная камісія на павадку ў тарашкевічаўцаў? І яшчэ не ўсё. Паслухайце далей спадара Вячорку: «Не ведаю, ці мэтазгодна выносіць пытанні на масавае абмеркаванне. (...) Зразумела, што пярэчыць любым — нават самым натуральным і абгрунтаваным зменам будзе большасць настаўнікаў: каму ахвота перапісваць старыя добрыя канспекты?» Тарашкевічаўцы баяцца народа. А якое фанабэрыста-пагардлівае стаўленне да настаўніцтва!..

Першае пытанне, на якое павінна адказаць Дзяржаўная камісія, — гэта абгрунтаванне сваёй пазіцыі: які правапіс яна будзе ўдакладняць? Пазіцыя камісіі мае прынцыповае значэнне. Калі будзе ўдасканальвацца тарашкевіца або камбінавацца двухмоўны гібрыд, гэта непазбежна прывядзе да згубы беларускай мовы, падштурхне да пераходу на рускую.

Не ў лёгкі, а, можа, нават не ў свой час мы праводзім рэформу ці ўдакладненне правапісу беларускай мовы. У такой справе нельга спяшацца, трэба ўважліва прыслухацца да голасу народа. Рэформу правапісу нельга разглядаць адасоблена ад грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне. Зараз у нашым грамадстве пануе поўны разброд. Не столькі ў народзе, колькі ў колах інтэлігенцыі і кіраўнічых сферах, па пытаннях унутранай і знешняй палітыкі, эканомікі, культуры, гісторыі. Мова — адзін з важнейшых чыннікаў фармавання нацыі, яе еднасці, але і тут існуе разнабой. Ды не толькі ў мове, але і ў вызначэнні нашага этнасу, нашай нацыянальнасці. І па гэтым пытанні пішуць чортведама як.

В.Чаропка ў вялікім артыкуле «Гісторыя нашага імя» («ЛіМ», N N 26, 27, 28, 1993), разгледзеўшы даволі доўгі перыяд гісторыі Вялікага княства Літоўскага — з XIII стагоддзя да яго распаду, адзначыў, што ў гэты перыяд народ наш сталі называць літвінамі, а землі — літвой, прыйшоў да высновы: вярнуць Беларусі назву Літва, а беларусаў называць літвінамі. Ён лічыць, што гэта — «наш маральны абавязак перад сваімі продкамі». А галоўнае: «Вярнуўшы назву «Літва», мы нейтралізуем расійскую прапаганду, што беларусы — гэта тыя ж рускія. («Ды і сама назва «Беларусь» сведчыць аб яе адзінстве з Расіяй»). Дык вось у чым соль — у назве «Беларусь» гучыць склад «русь», што сведчыць аб гістарычным адзінстве беларусаў і рускіх, а гэта вельмі пужае Чаропку.

Але ён знаходзіць суцяшэнне ў самавызначэнні. «Прынамсі, асабіста я лічу сябе літвінам і веру, што гэтым святым для беларусаў імем калісьці будзе называцца беларускі народ». Тут пярэчыць няма сэнсу. Як кажуць, вольнаму воля.

С.Васіленка праблему вяртання Беларусі назвы Літва вырашае больш напорыста і дзёрзка. У артыкуле «Русіны — ліцвіны — беларусы» ў газеце «Літаратура і мастацтва» (4.02.94 г.) ён прапануе «не глядзець на розныя там рэаліі, не выдумляць нічога, а з цягам часу перайменаваць нашу дзяржаву ў рэспубліку Літву і этнонім узяць вядома які. А жамойты хай сябе завуць хоць рымлянамі». Вось так! Разухабіста, аднак абразліва для абодвух народаў — беларускага і літоўскага.

Праз два тыдні С.Васіленка памякчэў. У газеце «Наша слова»(16.02.94 г.) ён прапануе «вярнуць нашай радзіме адвечны назоў Літва, нацыянальнасць — ліцвіны. Беларусь можа быць гістарычнай вобласцю на ўсходзе ў складзе дзяржавы «Літва». Якая амплітуда хістанняў! То Беларусь бярэ сабе назву «Літва» і плюе на жамойтаў, то яна становіцца вобласцю другой дзяржавы...

Ёсць і іншыя аўтары, якія заклікаюць зрабіць гістарычную хірургічную аперацыю па перасадцы імя «Літва» сучаснай Беларусі. А У.Скарабатун раіць самы просты, абязболены метад: «не спаць у шапку, а ехаць у Гаагу ў міжнародны арбітраж і аспрэчваць сваё выключнае гістарычнае права на назву Літва і яе сталіцу Вільню» («Літаратура і мастацтва», 20.08.93 г.). Тут, як кажуць, адным махам двух забівахам — і назву адбяром, і Вільню вернем.

Адкуль такая апантанасць звароту мінулага? У нас усё ў мінулым. Будучыні няма. Застаецца адно — вярнуць мінулае. Што гэта? Няздольнасць нацыі да творчай дзейнасці? Калі і можна гаварыць пра няздольнасць да творчай дзейнасці, то не нацыі, а кучкі нігілістаў, якія цягнуць нас назад. Беларуская нацыя даказала сваю творчую здольнасць на працягу ўсёй гісторыі, у тым ліку і ў нашым, дваццатым, стагоддзі, нялёгкім для нас як у гістарычным, так і ў сацыяльным плане. Мінулага нельга вярнуць, як нельга ўваскрэсіць чалавека. Колькі б мы ні білі чалом у ногі Хронасу — богу часу, — і ён не зможа вярнуць мінулае. Гэта можна зрабіць хіба што пры дапамозе машыны часу, і то толькі ў фантазіі. Чаму В.Чаропка, С.Васілёнак і іншыя аўтары бяруць нашу адвечнасць з XIII стагоддзя, з часу стварэння Вялікага княства Літоўскага? У нас жа была гісторыя і да гэтага, былі мы крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі. Былі, але цяпер гістарычна сфарміраваліся з гэтых народнасцей як адзіны народ, як нацыя. Мы, па радаводзе, тыя ж, якімі былі нашы продкі, а па соцыуме зусім іншыя, на іншым узроўні і формах вытворчасць, культура, бытавы ўклад, уступаем у цывілізацыю. У выніку гістарычнага працэсу землі, на якіх жылі нашы продкі, набылі назву Беларусь (Белая Русь), а мы, народ — беларусы. Назва Белая Русь блукала па розных суседніх з намі землях, але прыжылася толькі ў нас. І мы ганарымся, што мы — беларусы, ганарымся, што наша краіна носіць такую светлую, прыгожую і мілагучную назву — Беларусь!

Дык чаму ж некаторым дзеячам няўрымсціцца змяніць назву нашай краіны, адабраць імя ў суседняга народа? Ці не таму, што ў нашай назве ёсць склад «русь», як у гэтым прызнаўся В.Чаропка? У спадароў Чаропкі, Васілёнка і іншых аматараў мяняць назву былі папярэднікі. Царскі рэжым Расійскай імперыі неаднойчы забараняў беларускую мову і назвы Беларусь, беларускі (1836 г,. 1840 г., 1863 г.). Але беларусы выстаялі, не страцілі назвы сваёй радзімы, імя свайго народа, сваёй мовы, сваёй нацыянальнай асаблівасці, сваёй нацыянальнай годнасці. Больш нават, ва ўмовах прыгнёту развівалася беларуская мова, нацыянальная культура, літаратура, народная творчасць, расла нацыянальная свядомасць.

Так, быў час, калі нас называлі літвінамі толькі таму, што землі нашы ўваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае. Найбольш нас так называлі чужаземцы. Але этнасу «літвіны» ў нас ніколі не было, насуперак сцвярджэнню В.Чаропкі, С.Васілёнка і іншых. Слушна заўважыў В.Насевіч, што назва літвіны была не этнонімам, а палітонімам. (Зборнік «Беларусіка», кн. 2, 1992 г., ст. 232).

Калі б такім метадам, якім вызначаюць Чаропка і іншыя наш этнонім назваю «літвіны», вызначаць этнонім народаў сённяшняй Расійскай Федэрацыі, то ўсё насельніцтва яе падзялілася б на два этнасы — рускія і расіяне. Каля ста народаў сталі б па этнасу расіянамі толькі таму, што жывуць на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Абсурд. Этнас, этнагенез складваюцца натуральна-гістарычна і яго нельга змяняць адвольна.

Адзіная мова нацыі, як і назва нацыі — галоўны чыннік яе еднасці і трэба шанаваць іх як жыццё самой нацыі. Еднасць нашай нацыі — важнейшая ўмова ўздыму і росквіту Рэспублікі Беларусь, важнейшая ўмова нашай незалежнасці.

У Беларусі жывуць не толькі беларусы, каля 20 працэнтаў насельніцтва складаюць другія нацыі. Таму гутарка павінна ісці не толькі пра нацыянальную еднасць, але і пра еднасць народа Беларусі.

Аб'яднаць народ Беларусі можа толькі народная, у сэнсе — дзяржаўная, ідэя. Такой ідэяй можа стаць дзейны, актыўны патрыятызм. Ён здольны аб'яднаць усіх людзей рэспублікі. Кожны чалавек, якой бы нацыянальнасці ні быў, не можа не любіць сваю радзіму, краіну, дзе ён нарадзіўся, вырас і жыве. Але любіць сваю краіну мала, трэба аддаваць ёй усе свае сілы і здольнасці на яе ўздым і росквіт.

На жаль, у апошні час словы патрыятызм, патрыёт амаль не ўжываюцца. Яны замяняюцца словам нацыяналізм. Сэнс, напоўненасць гэтага слова вызначыла 20-е стагоддзе, зрабіўшы яго сінонімам слова фашызм. Адмыць яго да станоўчага сэнсу ўжо немагчыма. Ва ўсякім разе слова нацыяналізм узвышае адну нацыю над нацыямі іншымі, а гэта да дабра не вядзе.

Беларуская нацыя па колькасці насельніцтва з'яўляецца асноўнай на нашай зямлі, таму і краіна ўзяла назву Беларусь, а дзяржаўнай мовай аб'яўлена беларуская, пры той непарушнай гарантыі, што ўсе людзі, якія насяляюць нашу рэспубліку, маюць права на карыстанне сваёй нацыянальнай мовай, мець нацыянальныя школы, развіваць нацыянальную культуру.

На аснове патрыятычнай еднасці народа Беларусі павінна быць распрацавана канцэпцыя ўздыму і росквіту нашай рэспублікі ў плане ўмацавання яе суверэнітэту і дасягнення высокага дабрабыту ў людзей. Еднасць беларускай нацыі, як асноўнай у нашай рэспубліцы, з'яўляецца гарантам ажыццяўлення такой канцэпцыі. Еднасць беларускай нацыі дасягаецца перш за ўсё — адзінствам мовы, павагай і і шанаваннем гісторыі. Разнабой у мове, імкненне закрэсліць гісторыю Беларусі, вывесці беларусаў са славянскіх народаў падрывае, парушае еднасць народа, перашкаджае магчымасці ўздыму і росквіту нашай рэспублікі, вядзе да страты нашага суверэнітэту.

**Ігнат ДУБРОЎСКІ**

## Ад рэдакцыі:

На 15-й старонцы «ЛіМа» пазначана: «Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый!». Артыкул (ліст?) І.Дуброўскага — ці не такі выпадак. Цяжка, а то і немагчыма пагадзіцца з некаторымі сцвярджэннямі і высновамі аўтара. Спадзяёмся, што наш лімаўскі чытач мае сваю, і, можа, больш слушную, думку і наконт тых ці іншых пытанняў удакладнення правапісу, і наконт назвы нашай сталіцы, і наконт пошукаў гістарычнага імя нашай Бацькаўшчыны і нас саміх, і, урэшце, наконт нацыяналізму.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі і выдавецтва «Юнацтва» выказваюць глыбокае спачуванне паэту Сяргею Панізніку з выпадку напаткаўшага яго цяжкага гора — смерці маці.**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 4.08.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

